**ЗЯНОН**

# І Н С У Р Г Е Н Т Ы

(Містэрыя ў адной дзеі)

АСОБЫ:

**Кастусь (Канстанцін-Вінцэнт) Каліноўскі,** 26 гадоў. Кіраўнік паўстаньня ва ўсёй Беларусі, “Апошні кароль Літвы”.

**Зыгмунт Серакоўскі,** 36 гадоў.

**Цітус Далеўскі,** 23 гады; найбліжэйшы памочнік Кастуся Каліноўскага.

**Ігнат Здановіч,** 22 гады; найбліжэйшы паплечнік Кастуся Каліноўскага.

**Станіслаў Ішора,** 25 гадоў, вікарны ксёндз.

**Раймунт Зямацкі,** 53 гады, ксёндз-пробашч.

**Гэнрык Макавецкі,** 27 гадоў.

**Якуб Чэхан**, 40 гадоў.

**Казімер Сычук,** 36 гадоў.

**Альбэрт Лясковіч,** 23 гады.

**Баляслаў Колышка,** 25 гадоў.

**Аляксандар Ракоўскі,** 27 гадоў.

**Язэп Ракоўскі,** 36 гадоў.

**Кароль Сіповіч,** 19 гадоў.

**Уладзіслаў Нікаляй,** 26 гадоў.

**Эдвард Чаплінскі**.

**Ян Бянькоўскі,** 26 гадоў.

**Ян Марчэўскі,** 24 гады.

**Мечыслаў Дарманоўскі,** 27 гадоў.

**Людвік Сухадольскі.**

**Юзаф Яблоньскі,** 20 гадоў.

(Дзея адбываецца ў 2016 годзе ў Вільні на Дзяды на Замкавай гары ля вежы Гедзіміна. Ноч.)

Ц і т у с: — Сто гадоў мы тут. Як горшыцца надвор'е на Дзяды.

К а л і н о ў с к і: — Холад, Цітус, сіберны вецер дзьме.

Ц і т у с: — Ніхто ня прыйдзе на гару. Сто год ня прыйдзе. І не прыйшоў ніколі. Такі мароз, што халадзее кроў.

К а л і н о ў с к і: — Мароз ня страшны, калі ў душы агонь гарыць.

Ц і т у с: — І спапяляцца душы попелам свабоды.

К а л і н о ў с к і: — Але мы ёсьць.

Ц і т у с: — Былі.

К а л і н о ў с к і: — Былі і будзем. Во, ідуць браты. Ужо тут.

*(Падыходзіць група інсургентаў.)*

З ы г м у н т: — Трывожныя Дзяды.

І г н а т: — Якая цемра над Вяльлёй!

К с ё н дз С т а н і с л а ў: — А цемра там, панове, за Вяльлёй. Тут толькі змрок.

Ц і т у с: — Змрок на ўсім сьвеце. Павылазіла дрэнь з апраметнай.

К а л і н о ў с к і: — Ня жалься, Цітус, бо ёсьць што рабіць.

З ы г м у н т: — Яны *(паказвае за Вяльлю)* нічога ня будуць рабіць. Хоць ты і верыў.

К а л і н о ў с к і: — Будуць. Іх трэба толькі падштурхнуць.

З ы г м у н т: — І што тады?

К а л і н о ў с к і: — І запалае наша сіла.

З ы г м у н т: — І прададуць цябе двукроць.

К а л і н о ў с к і: — Калі б я мог між імі быць, каб заблішчэлі нашы косы, – я б нават пагадзіўся зноў узыйсьці на карны эшафот.

Ц і т у с: — І я таксама.

І г н а т, Г э н р ы к, К а з і м е р, А л ь б э р т: — І мы таксама.

К с ё н дз Р а й м у н т: — Калі ня гінуць за свабоду – ня будзе волі. Яна крывавая паненка.

З ы г м у н т: — І гэтыя *(паказвае за Вяльлю)* ня стануць за яе.

Я з э п: — “Замала сівер яшчэ хухаў, Замала пёк рабоў пакорных, Што ў думах выхаваныя зморных, Ня знаюць, дзе пячэ, дзе студзіць.”

З ы г м у н т: — Так. Ён напісаў. І быў забіты.

Ц і т у с: — І неадпомшчаны загінуў.

К а л і н о ў с к і: — Гэта праўда. Тое, што не адпомшчана, — тое забываецца. І магілы зарастаюць травой бяспамяцтва.

І г н а т: — Божа, якая цемра за Вяльлёй!

Ц і т у с: — А хто адпомсьціцца за нас?

К с ё н дз С т а н і с л а ў: — Яна чорная, як ноч, і ліпкая, як хлусьня.

К а л і н о ў с к і: — Мы самы, Цітус, толькі мы.

З ы г м у н т: — Кастусь, ты мроіш. Мы ў магіле.

К а л і н о ў с к і: — Наша воля насуперак сьмерці жыве. Браты, зірнем за Вяльлю. Чорная ноч, як труна, навісае над нашым краем. “Гадзіны сыкаюць здрадай.” Руйнуюцца дрэвы і людзі. Зямля плача ад ганьбы і глуму, ад зьдзеку і сораму, ад бясьсільля. І Неба счарнела. Хто ўратуе зямлю? Хто, калі няма помсты і волі? Хто?

К с ё н дз Р а й м у н т: — Воля Бога.

К а л і н о ў с к і: — Воля Бога – гэта калі мы выйдзем з магіл. Пакуль ахвяры ня выйдуць з магіл – ня будзе свабоды. Пакуль забітыя ня выйшлі з Курапатаў – было рабства.

І г н а т: — Як сьвішча вецер. Чуеце, як моцна вецер сьвішча!

К а р о л ь: — Ірваныя хмары лятуць і зоры блішчаць.

К а л і н о ў с к і: — Там ня хмары лятуць, братове. Прыглядайцеся. Гэта Дзяды. Душы забітых лятуць, замучаных, спаленых, замардаваных. Там ня зоры блішчаць. Гэта агні пажараў вёсак нашых і гарадоў палыхаюць над намі. Гэта Дзяды апускаюцца на зямлю.

Ц і т у с: — Божа! Колькі іх ёсьць! Іх мільёны!

К а л і н о ў с к і: — Наш забіты нябесны народ.

З ы г м у н т: — Наш неадпомшчаны народ. І ўсё забыта. І ўсё загаджана Масквой.

К а л і н о ў с к і: — Мы выйдзем.

К с ё н дз Р а й м у н т: — Выйдзем, каб ведалі пра Неба. Зямля бяз Неба – гэта цэля. Турма для духа. Труна для цела. Бо вольны дух лунае ў вышыню.

К а л і н о ў с к і: — Наша чарга, братове. Выходзім. Мусім. Цітус, Зыгмунт, Станіслаў, панове, дзяцюкі. “Каго любіш?”

Ц і т у с: — “Люблю Беларусь.”

У с е *(уздымаюць угару кулакі):* -- Дык узаемна.

К а л і н о ў с к і: — Надыходзіць наш час. Мы вернемся. Мы выйдзем. І гара Гедзіміна абрынецца пад нашай воляй. І Вільня здрыганецца ад нашага зьмёртвыхстаньня. Паваляцца шыбеніцы і эшафоты, сканаюць сатрапы, падушыцца маскоўская чэрнь, і ў бляску сьвятла паўстане новая вольная наша краіна. Так будзе. Верце мне. Мы выйдзем.

Ц і т у с: — Мы выйдзем.

К с ё н дз С т а н і с л а ў: — Мы выйдзем.

К а л і н о ў с к і: — Мы выйдзем на Дзяды, калі ажывае памяць.

З ы г м у н т: — Мы выйдзем.

І г н а т, К а р о л ь, Я з э п, Я к у б, Г э н р ы к, К а з і м е р: — Мы выйдзем.

У с е: — Мы выйдзем.

К а л і н о ў с к і: — Мы выйдзем.

МАЛІТВА

(Гучыць малітва спакойным манатонным голасным рэчытатывам. Усе засяроджаныя ў сабе і, маліцьвенна склаўшы далоні, паўтараюць усьлед за Каліноўскім і ксяндзамі сакральны зьмест)

К а л і н о ў с к і: — Мы выйдзем шчыльнымі радамі

У с е р а з а м: — Мы выйдзем шчыльнымі радамі

К а л і н о ў с к і: — На вольны родны свой прастор

У с е р а з а м: — На вольны родны свой прастор

К а л і н о ў с к і: — Хай воля вечна будзе з намі, А гвалту мы дамо адпор. Дамо адпор!

У с е р а з а м: — Хай воля вечна будзе з намі, А гвалту мы дамо адпор. Дамо адпор!

К с ё н дз С т а н і с л а ў: — Няхай жыве магутны, сьмелы Наш беларускі вольны дух. Вольны дух!

У с е р а з а м: — Няхай жыве магутны, сьмелы Наш беларускі вольны дух. Вольны дух!

К с ё н дз С т а н і с л а ў: — Штандар наш Бел-Чырвона-Белы, Пакрый сабой народны рух!

У с е р а з а м: — Штандар наш Бел-Чырвона-Белы,
Пакрый сабой народны рух!

К с ё н дз Р а й м у н т: — На бой! За шчасьце і за волю Народу слаўнага свайго!

У с е р а з а м: — На бой! За шчасьце і за волю Народу слаўнага свайго!

К с ё н дз Р а й м у н т: — Браты, цярпелі мы даволі,
На бой – усе да аднаго! Да аднаго!

У с е р а з а м: — Браты, цярпелі мы даволі, На бой – усе да аднаго! Да аднаго!

К с ё н дз С т а н і с л а ў: — Імя і сілу беларуса Няхай пачуе, убачыць той, Хто сьмее нам нясьці прымусы І першы выкліча на бой!

У с е р а з а м: — Імя і сілу беларуса Няхай пачуе, убачыць той, Хто сьмее нам нясьці прымусы І першы выкліча на бой!

К а л і н о ў с к і: — Браты, да шчасьця мы падходзім:
Хай гром грыміць яшчэ мацней!

У с е р а з а м: — Хай гром грыміць яшчэ мацней!

К а л і н о ў с к і: — У крывавых муках мы народзім
Жыцьцё Рэспублікі сваёй!

У с е р а з а м: — У крывавых муках мы народзім Жыцьцё Рэспублікі сваёй! Жыцьцё Рэспублікі сваёй! Жыцьцё Рэспублікі сваёй!

*(Чуваць крокі, ідуць шыхты. Нарастае гучны грукат і магутны гул. Грукатаньне.)*

У с е: — Што гэта? Што гэта?

К а л і н о ў с к і: — Гэта валіцца гара Гедзіміна. Ня бойцеся! Мы выходзім. Наперадзе – воля.

*(Грукат гучыць на ўсю моц. Страляе Пярун. Шум паволі сьціхае. Нікога няма. Удалечыні відаць гара Гедзіміна.)*

Канец містэрыі

23-24 лістапад 2019 г.

---

У тэксьце выкарыстаныя цытаты з твораў Янкі Купалы і Макара Краўцова

**ЗЯНОН**

# А К У П А Ц Ы Я

(Драматычная хроніка ў 2-х дзеях для чытаньня, тэатра і кіно)
Падзеі адбываюцца ў Менску ў 1941-1944 гг.

## П Р А Д М О В А

Гэта п'еса пра беларускае нацыянальнае падзем'е, якое ратавала Беларусь у час гітлераўскай акупацыі краіны ў 1941-1944 гг.

Нацыянальную дзейнасьць у той час арганізоўвала і накіроўвала беларуская "Незалежніцкая партыя", якая дэкляравалася легальна, але мела падземны актыў, які і вызначаў усю беларускую палітыку пад акупацыяй.

Беларуская дзейнасьць пад нямецкай акупацыяй мела выразны абаронны характар, была накіраваная на нацыянальную структурызацыю грамадства і на стварэньне ўмоваў дзеля існаваньня будучай незалежнай беларускай дзяржавы.

Тут быў выяўлены пасьлядоўны рацыянальны падыход, які вынікаў са становішча, што склалася ў час вайны.

Бальшавіцка-маскоўская акупацыя 1919-1941 гг. катастрафічна разбурыла беларускую нацыю, гаспадарку, культуру, праводзіла генацыд народа, у выніку якога была вынішчана амаль уся беларуская нацыянальная і сацыяльная эліта.

Нямецкія акупанты адносіліся больш лаяльна да культуры беларусаў, але, мяркуючы па іхных плянах, дэклярацыях і справах, не пакідалі беларускай нацыі ніякіх шансаў на існаваньне. Адначасна аддзелы СС праводзілі рэпрэсіі насельніцтва, спальвалі вёскі і людзей.

Наступнай сілай, якая вынішчала беларускае нацыянальнае жыцьцё, былі савецкія партызаны, кіруемыя з Масквы праз НКВД. На пачатку 1943 г. Масква цалкам апанавала беларускую савецкую партызанку. Пасьля гэтага па загаду Масквы былі фізычна зьнішчаныя партызанскія кіраўнікі беларускага паходжаньня. Узамен НКВД прыслаў сваіх функцыянераў з Масквы. Гэтыя функцыянеры давалі справаздачы ў Маскву (у "стаўку") аб апэрацыях па зьнішчэньні

ворагаў. Пасьля паўраспаду СССР і ліквідацыі КПСС высьветлілася, што сярод зьнішчаных партызанамі "ворагаў" немцы складалі 10 адсоткаў. Астатнія былі "предателі", гэта значыць мірнае беларускае насельніцтва.

У такой складанай і варожай для беларусаў сітуацыі паміж двух акупантаў дапамагчы людзям магла свая нацыянальная адміністрацыя, якую немцы дазвалялі і заахвочвалі з прычыны недахопу адміністрацыйных рэсурсаў.

Гэтая акалічнасьць якраз і была скарыстана беларускімі патрыётамі. За кароткі час было палепшана сацыяльнае жыцьцё людзей, адчыненыя беларускія школы, створаныя беларускія арганізацыі самадапамаговага кірунку і, галоўнае, удалося закласьці асновы для будучага беларускага войска.

СС і СД (паліцыя СС) разумелі задумкі беларусаў, ведалі пра існаваньне беларускага нацыянальнага падзем'я і да пачатку 1944 года фізічна зьнішчылі амаль усю кіруючую верхавіну Незалежніцкай партыі. Тым часам беларускае адраджэньне набрала ўжо такой моцы, што разграміць яго не ўдалося, тым больш, што ў сувязі з паражэньнямі на ўсходзе і набліжэньнем фронту немцы зацікаўлены былі скарыстаць беларусаў у барацьбе з бальшавікамі і зноў надыходзячымі саветамі.

Дзеючыя асобы п'есы -- гэта рэальныя людзі, якія дзейнічалі і змагаліся ў акупаваным Менску. Амаль усе яны (за рэдкім выключэньнем) пададзены пад сваімі празьвішчамі і імёнамі. У п'есе скарыстаныя вядомыя сітуацыі, адносіны, выпадкі і схема дзейнасьці патрыётаў.

Практычна, амаль усе апісаныя ў п'есе факты і дзеяньні ў той ці іншай форме (і зь нямецкага, і зь беларускага бакоў) былі рэальнай гісторыяй барацьбы таго часу ў Менску.

Засьцерагаю, аднак, што п'еса не зьяўляецца дакумэнтальным адбіткам рэчаіснасьці. Гэта мастацкі твор, які падае рэчаіснасьць у вобразах і дачыненьнях, стварае для актораў поле для творчасьці.

Тут яшчэ заўважу, што ў рэальнасьці, практычна, усе сябры падзем'я Незалежніцкай партыі валодалі нямецкай мовай. Гэта ім дапамагала ў змаганьні за Беларусь. Тым часам, ведаючы такую акалічнасьць, цалкам адпала неабходнасьць выстройваць у п'есе двумоўныя кантактныя сцэны зь немцамі. Дзеючыя асобы ў кантактах умоўна камунікуюцца на адной мове.

Навуковых гістарычных дасьледваньняў добрага ўзроўню па гэтым пэрыядзе ня шмат. Адзначыў бы, перш за ўсё, каштоўныя працы доктара Юры Туронка.

Праца дасьледчыка над дакумантамі карысная для высьвятленьня фактаў, пазыцыі, характару, ідэалёгіі зьявы. Дачыненьні, характары людзей, іхныя адносіны да справаў, якія выклікалі падзеі, застаюцца па-за абсягам "дакумэнтальнага" дасьледчыка, таму ўяўленьні аб дачыненьнях, што стварылі падзеі, часам могуць быць памылковымі.

У гэтым выпадку значэньне маюць сьведчаньні самых удзельнікаў падзей. У мяне якраз была магчымасьць пагаварыць з тымі людзьмі, якія ўдзельнічалі ў падзеях. Асабліва адзначыў бы фэнамэнальнага сьведку таго часу Антона Шукелойця (у п'есе пад прозьвішчам Антановіч). А. Шукелойць быў у гушчы ўсіх тых падзей, зьяўляўся сябрам падзем'я Незалежніцкай партыі, быў у добрых адносінах з Вільгельмам Кубэ, езьдзіў зь ім у падарожжы па помніках гісторыі і старыны, размаўляў на розныя тэмы.

Другая асаблівасьць -- Шукелойць вызначаўся надзвычайнай памяцьцю на падзеі, даты, імёны і прозьвішчы, біяграфіі і зьмест размоваў. За больш чым 20 гадоў знаёмства зь ім, што мяне найбольш уражвала, -- гэта яго дакладная энцыклапэдычная памяць.

Урэшце, вынікам нашых шматгадовых размоваў (якія я запісваў на магнітафон) стала кніжка "Гутаркі з Антонам Шукелойцем" (Вільня-Варшава, "Беларускія Ведамасьці", 2003 г.). Гэтыя "гутаркі" даюць, па маёй ацэнцы, найбольш дакладную і адэкватную карціну таго, што адбывалася.

Савецкая прапаганда, якая абляпала балотам увесь беларускі супраціў, -- гэта хутчэй клінічны выпадак ілжы і нянавісьці, таму ня вартая ўвагі і азначэньня. Але мушу спыніцца на ацэнцы асобы гаўляйтара Вільгельма Кубэ, якога эсэсаўцы забілі, скарыстаўшы энкавэдзістаў і партызан.

Кубэ быў кіраўніком цывільнай нямецкай адміністрацыі ў так званай "Генэральнай акрузе "Беларусь". Ягоныя ўказы не распаўсюджваліся на Вэрмахт і на СС. Кубэ выступаў супраць эсэсаўскіх рэпрэсій беларускага насельніцтва і расстрэлаў габрэяў. Ён спрыяў беларускаму нацыянальнаму адраджэньню, дзейнасьці беларускай школы, культуры, маладзёвай арганізацыі і інш. Усё гэта выклікала шалёную нянавісьць да яго з боку Масквы і гітлерскай СС.

Жахлівымі жывадзёрамі і бандытамі, якія расстрэльвалі, забівалі і палілі, былі ў Беларусі начальнік СС Курт фон Готбэрг і начальнік СД у Менску Эдуард Штраўх. Тым ня менш ні Масква, ні савецкія партызаны іх ня рушылі. Вясной 1943 года Сталін даў загад зьнішчыць Кубэ, хаця з боку Кубэ ніякіх злачынных дзеяньняў не было.

Для Масквы Беларускае нацыянальнае Адраджэньне, якое падтрымліваў Кубэ, было страшнейшым, чым бандыцкія СС у Беларусі. Таму эсэсаўцаў ня рушылі, а Кубэ загадалі забіць, што і скарысталі тыя ж эсэсаўцы, каб расправіцца з Кубэ.

У 2-й Сусьветнай вайне Масква працягвала сваю вайну супраць беларусаў, якую распачала ў 20-х -- 30-х гадах.

Каб апраўдаць забойства Кубэ, савецка-маскоўская прапаганда стварыла яму вобраз пачвары, забойцы і нягодніка, накруцілі нават ілжывы фільм-пасквіль пра няшчаснага гаўляйтара (і робяць падобныя фільмы па сёньняшні дзень).

Але, падкрэсьлю, уся прычына маскоўскай нянавісьці тлумачыцца проста. Кубэ спрыяў беларускаму нацыянальнаму Адраджэньню. Яно выклікала большую варожасьць Масквы, чым гітлераўскі нацызм. Гэта дакладна засьведчана на фактах, на вопыце гісторыі і на вопыце нашых беларускіх людзей.

Ні ў канцы 30-х, ні ў пачатку 40-х гітлерскі "райх" ня быў такой ужо маналітнай ідэйна-палітычнай сістэмай, як здавалася пры агульным пагалядзе. Гітлераўская ваенная машына была падзелена на Вэрмахт і СС. Прытым войскі і структуры СС былі ў прывеліяваным становішчы. Шмат якія генэралы Вэрмахта не любілі СС. У Вэрмахце і сярод адміністрацыі Райха было дастаткова незадаволеных Гітлерам і ягонай палітыкай. Гэтае дэсідэнцтва выяўлялася ў канкрэтных спробах замены палітычнай сістэмы.

Было шмат няўдалых замахаў на Гітлера. Гэта пра нешта ды кажа. У аснове падрыхтоўкі гэтых замахаў былі дзеячы дзяржаўнай адміністрацыі і афіцэры Вэрмахта. Найбольш гучная гісторыя ўзьнікла з няўдалым замахам 20 ліпеня 1944 года. Гітлер павешаў 200 змоўшчыкаў і некалькі тысяч рэпрэсаваў, тых, што ўскосна мелі датычнасьць да змовы.

Характэрна, што ўсе ўдзельнікі замахаў і змоваў зыходзіліся па дзьвюх пазыцыях: павінен быў быць забіты Гітлер і ліквідавана СС. Канфлікт паміж Вэрмахтам і СС вырастаў у канфлікт з нацызмам.

Бражэньне ў Вэрмахце і адміністрацыі супраць СС і палітыкі Гітлера было даволі распаўсюджаным. Кубэ як асоба пераржыў пэўную ідэйную эвалюцыю. Да пачатку 1940-х гадоў у ім ужо блукаюць дэсідэнцкія настроі, асабліва што датычыць пазыцыі ў нацыянальным пытаньні і адносінаў да габрэяў. Пазыцыя Кубэ не была выключнай. У Вэрмахце такіх, як Кубэ, было дастаткова. Дарэчы, у Генэральнай акрузе Беларусь мясцовыя нямецкія камісары падтрымлівалі палітыку Кубэ.

Зразумела, што Кубэ мог хаваць сваю пазыцыю за дэклярацыяй нямецкага прагматызму (маўляў, каб скарыстаць беларусаў і габрэяў у інтарэсах Райха), але наіўна было б

успрымаць тое сур'ёзна. Гаўляйтар, які выцягвае з канцлягеру знаёмых габрэяў, а жонка ягоная пасылае прадукты і ежу ў Менскае гета, пры гэтым сам ён эмацыйна рэагуе на расстрэлы людзей і рэзка псуе адносіны з СС, піша ў Бэрлін рапарты і лісты пра злачынствы СС, зьнішчаючы сваю рэпутацыю, -- такая асоба ня ёсьць прагматыкам. Гэта, хутчэй, безаглядны змагар за сваю дэсідэнцкую пазыцыю.

Паўтаруся, такі, як Кубэ, у ваеннай сістэме Нямеччыны быў не адзін. Зьмена ягоных поглядаў на "канчатковае вырашэньне габрэйскага пытаньня" рана ці позна прывяла б Кубэ да супярэчнасьці з Гітлерам (бо зьнішчэньне габрэяў -- гэта асабістая ідэя Гітлера), і лёс ягоны ўсяроўна быў бы марны.

Кубэ перажыў відавочную эвалюцыю асобы. Ён удзельнік 1-й Сусьветнай вайны, прымаў удзел у шматлікіх палітычных партыях розных накірункаў, займаўся літаратурай і публіцыстыкай, быў дэпутатам Прускага парляманту, займаў высокія дзяржаўныя пасады, прымкнуў да гітлерскай НСДАП і засьведчыў антысеміцкія погляды. У 1933 г. уступіў у СС, меў нават чын  группэнфюрэра (генэрал-лейтэнанта), але доўга там не прабыў, бо ўвязаўся ў канфлікт з усясільным потым Марцінам Борманам і Вільгельмам Бухам і ў 1936 г. выйшаў з шэрагаў СС. Прытым з-за помсты М. Бормана і В. Буха  ён страціў ўсе свае чыны і адміністрацыйныя пасады. З таго часу Кубэ катэгарычна выступаў супраць ўлады СС, супраць іхных карных апэрацый і рэпрэсій мірнага насельніцтва, габрэяў ды беларусаў; выступаў за мясцовае беларускае самакіраваньне і нацыянальна-культурнае разьвіцьцё Беларусі, супрацоўнічаў зь беларускімі патрыётамі (дарэчы, усё гэта канкрэтна супярэчыла чалавеканенавісьніцкай канцэпцыі М. Бормана, які лічыў славян «недачалавекамі»).

Увогуле Кубэ -- гэта, у пэўным сэнсе, трагічная постаць у нацыянал-сацыялістычнай Нямеччыне. Ён быў бліжэй да той катэгорыі высокапастаўленых дзеячоў  Райха і ваенных Вэрмахта, якіх Гестапа і СС вешалі на раяльных струнах (каб больш пакутвалі) за змовы і замах на фюрэра і нацыянал-сацыялізм. Пасьля ліквідацыі Кубэ Гімлер зларадна вымавіў, што толькі сьмерць уратавала яго ад канцлягеру.

У сучаснай Нямеччыне генэралы і палітыкі, якія рыхтавалі замах на Гітлера і ліквідацыю СС, зьяўляюцца нацыянальнымі героямі, іхнымі імёнамі названыя вуліцы. Што датычыць Кубэ і яго адміністрацыйнай ролі ў Беларусі ды забойства яго бандытамі СС і НКВД, то пара канчаткова спыніць патакваньне бальшавіцка-маскоўскай ілжы і абляпваньню гразёй трагічнай сьмерці гэтай асобы.

Бясспрэчным фактам ёсьць тое, што нічога кепскага для Беларусі Кубэ не зрабіў, наадварот, імкнуўся спрыяць. Ён ёсьць ахвярай, але не злачынцам. Ацэньваючы гісторыю вайны, трэба мець сумленьне і справядлівасьць, якая вышэйшая за ўсё.

2 студзень 2020 г. Зянон Пазьняк

## А С О Б Ы

І в а н  Е р м а ч э н к а – старшыня "Самапомачы"
В а ц л а ў  І в а н о ў с к і – старшыня Менскай гарадзкой Управы
А н а т о л ь  К о м а р – старшыня Менскай гарадзкой Управы
В і т а ў т  Т у м а ш – старшыня Менскай гарадзкой Управы
А н т о н  А д а м о в і ч – загадчык жыльлёвага аддзелу Управы
Ю л ь я н  С а к о в і ч – старшыня Менскай гарадзкой паліцыі
У с е в а л о д  Р о дз ь к а – старшыня Віцебскай гарадзкой Управы
П ё т р а  Ш а ш к е л ь – старшыня гарадзкой Управы ў Баранавічах
Б а р ы с  Р а г у л я – камандзёр эскадрону БКА
М і х а с ь  Р а г у л я – змагар
Ф р а н ц  К у ш а л ь – кіраўнік беларускай афіцэрскай вучэльні
Н а т а л ь л я  А р с е н ь н е в а – жонка Кушаля, паэтэса
У л а дз і м е р  Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і – загадчык аддзелу асьветы і культуры Менскай гарадзкой Управы, паэт, крыху арыгінал
М і х а с ь  В і т у ш к а – змагар
А л е с ь  М а т у с е в і ч – змагар
Л я в о н  С а в ё н а к – змагар
А н т о н  А н т а н о в і ч – дырэктар Беларускага музэю
Г а б р ы е л ь  В і е р – мастак-рэстаўратар
В і к т а р  Ч а б а т а р э в і ч – змагар
М і к а л а й  А р э х в а – змагар з КПЗБ
Л я в о н  Л у ц к е в і ч – дырэктар школы
Н а дз е я  А б р а м а в а – дзеячка
Я н і н а  Ш а б у н я – медсястра
Ф а б’ я н  А к і н ч ы ц – дзеяч АБВЭРы
М і к о л а  К а р а л е н к а – супрацоўнік рэдакцыі газэты
В і л ь г е л ь м  К у б э – гаўляйтар, кіраўнік Генэральнага Камісарыяту “Беларусь”
К а р л  В і л ь д э н ш т а й н – ад’ютант Кубэ
А н і т а  К у б э (Л і н д э н к о л ь) – жонка Кубэ

К у р т ф о н Г о т б э р г – брыгадэнфюрэр СС, кіраўнік паліцыі СС у Беларусі. (Кульгае, ходзіць з палачкай)
Э д у а р д Ш т р а ў х – обэрштурмбанфюрэр СС, начальнік паліцыі СД у Менску
Г о т ф р ы д Ш л е г е л ь – дарадца фон Готбэрга, обэрштурмбанфюрэр СС
Г а й н р ы х Г і м л е р – райхсфюрэр СС
П р ы л я ж а е ў – прафэсар
З о с я – сакратарка Ермачэнкі
Л і н д а – сакратарка Кубэ
М а т ы л ь да – сакратарка Готбэрга
Ф а к у н д а – калгасьнік з-пад Менска
Ф р а н у к – гаспадар з-пад Ліды
Г а н ц я – сялянка з-пад Ліды
1-ы ж а ў н е р БКА
2-і ж а ў н е р БКА
3-і ж а ў н е р БКА
Ж а ў н е р ы э с к а д р о н а БКА

# ДЗ Е Я 1

## П Р А Л О Г

(Вёска пад Лідай. 1941 г.)

Ф р а н у к (з-за плоту): -- Ганця, памажы Божа, Яўхім Ёсьць?

Г а н ц я (акучвае бульбу драпцамі): -- Не-а, паехаўшы ў Ліду. На раніцы запрэг і паехаў.

Ф р а н у к: -- Ты бачыла – саветы ўцякаюць.

Г а н ц я: -- А і праўда. Чаго гэта яны зрушыліся?

Ф р а н у к: -- Дык ты хіба ня ведаеш? Вайна ж бо.

Г а н ц я: -- Вайна!? Матка Боска! Ізноў вайна! І хто ж ваюе?

Ф р а н у к: -- Немец напаў.

Г а н ц я: -- Немец?

Ф р а н у к: -- Халера яго ведае, што робіцца. Можа, пазабіваюць усіх. Ім жа зямлі мала.

Г а н ц я: -- Каму мы патрэбныя.

Ф р а н у к: -- Тых і забіваюць, што нікому не патрэбныя.

Г а н ц я: -- І што гэта будзе?

Ф р а н у к: -- А будзе, як будзе. Пагоніць немец савета і сам здохне.

Г а н ц я: -- Ох, каб яны ўжо ўсе паздыхалі. І маскалі, і немцы. Халера на іх! Як яны ўжо людзям надакучылі! Чаго яны ўсе сюды лезуць! Каб іх пляга спаліла! Гэта ж во ў 15-м мы зь Яўхімам толькі пажаніліся, ляціць маскаль наша жыта паліць. Яны ад немца ўцякаюць, а нас паліць пачалі. Яўхім да яго, дык ён страляць пачаў. Нагу Яўхіму прастрэліў. Усё жыта спаліў! Тры гактары, Франучок, колас у колас. Потым прыйшоў немец – каня забралі і сабаку застрэлілі. Аж немарасьць бярэ, як успомню. Здэйся гэтымі во драпцамі іх забівала.

Цяпер во зноў прышлі тыя саветы – людзей душылі – і зноў во гэтыя ўжо лезуць. Каб іх усіх пярун забіў! Каб яны ўсе скруціліся! Каб іх сабакі цягалі! Каб іх пранцы зьелі, каб іх чума зжэрла, каб іх...

Ф р а н у к: -- Праўду кажаш, Ганця. Каб гэта яны ўжо адзін аднаго пажэрлі. Не чакай дабра.

Ну, то гэтак яно. Пайду ўжо гаспадарку глядзець.

## С Ц Э Н А 1

(Антановіч, Факунда. Вёска пад Менскам, ліпень 1941 г. Вечар, сьцямнела. У хаце за сталом сядзіць Факунда і вячарэе – бульба з прастаквашай. Стук у дзьверы.)

Ф а к у н да: -- А хто там?

А н т а н о в і ч: -- Свае, чалавеча. Уцёк ад немцаў. Іду ў Менск.

Ф а к у н да: -- А што трэба?

А н т а н о в і ч: -- Каб была ласка пераначаваць.

Ф а к у н да *(упускае Антановіча):* -- Дык жа гэта во, ужо Менск пад бокам. Сем кілёмэтраў.

А н т а н о в і ч: -- Во, амаль прыйшоў. А што за вёска?

Ф а к у н да: -- Зеляноўка.

А н т а н о в і ч: -- Зеляноўка. Два тыдні йду. Аж з-пад Крупак. Антонам завуся.

Ф а к у н да: -- Факунда. Цяпер шмат хто вяртаецца. Кінуліся ўцякаць, а немцы перагналі. Як па мне, дык куды ўцякаць? З агню ў полымя? У сваёй хаце сядзі і ня рухайся – адзін чорт, хто прыйдзе. Але вось што: бульба якраз на стале, дык запрашаю да вячэры.

А н т а н о в і ч: -- Дзякуй.

Ф а к у н да: -- Як кажуць, бульба ёсьць – і ўсё спакойна. Сала, праўда, няма, бо даўно няма. Апошнім часам разьвялося шмат дурняў. Сацыялізм на песьнях будавалі. Пакуль сьпявалі – сала зьнікла.

А н т а н о в і ч: -- Зьнікла, бо зьелі. Усім не хапіла. Дрэнна падзялілі.

Ф а к у н да: -- А я так, Антоне, скажу: беларус бяз сала жыць ня можа. Бяз Бога – можа, хвароба на яго, а бяз сала – не. Парсюк мусіць быць. От Прышчэпаў, я вам скажу, быў чалавек. От гэта нарком. Галавасты. Мужыку волю даваў. І ён, значыцца, кінуў лёзунг: “На сьвіньні – да сацыялізму”. Разьвіваў сьвінагадоўлю. У кожнага на стале мусіла быць сьвіньня. От гэта гаспадар! Асілак! Дуб! Што там той Купала – вершыкі піша. А от Прышчэпаў глядзеў у корань. Ведаў, што трэба рабіць.

А н т а н о в і ч: -- Дык жа забілі Прышчэпава, замардавалі.

Ф а к у н да: -- Дык тое ж і яно. Забілі, бо разумны быў, толк ведаў. А ведаеце, дзе яго забілі?

А н т а н о в і ч: -- Дзе?

Ф а к у н да *(паказвае пальцам убок)*: -- А от тут во, за два кілёмэтры ад вёскі, у лесе. Пяць гадоў расстрэльвалі. Моц людзей пабілі, мільёны, Антоне. І цішыня. Ціха, як у магіле.

А н т а н о в і ч: -- То, пэўня, і мяне б расстралялі. Загрэблі ў Лідзе і везьлі на згубу, але немцы разагналі.

Ф а к у н да: -- У нас¸ у Зеляноўцы, дык яшчэ нават у панядзелак 23-га чэрвеня хапалі. Немцы ўжо на Менск бомбы кідалі, а гэтыя яшчэ расстрэльвалі. І па мяне прыходзілі. Толькі я разумны – дома не начаваў. Ну, а цяпер, то ўжо, пэўна, немцы будуць страляць.

А н т а н о в і ч: -- А ці ведаеце, што ў Менску робіцца?

Ф а к у н да: -- Пакуль што ціха. Немцы стварылі адміністрацыю з нашых людзей і пачалі наводзіць парадак. Там начальнікам Управы стаў такі Тумашэвіч. Галавасты, падла. Сьмецьце зграбаюць, электрыку ладзяць, вокны шкляць. Энкавэдзісты ж, калі ўцякалі, увесь горад спалілі. Людзей ня шмат. Але абжываюцца.

А н т а н о в і ч: -- От куды заўтра і падамся. І жыць трэба, і працаваць трэба. Дзякуй за вячэру, Факунда. Праўду кажаце: бульба ёсьць – усё спакойна.

## С Ц Э Н А  2

(Менская гарадзкая Управа. Антон Адамовіч, Вацлаў Іваноўскі, Вітаўт Тумаш, Усевалад Родзька, Уладзімер Гуцька-Дудзіцкі, Алесь Матусевіч, Анатоль Комар, Лявон Савёнак, Мікалай Арэхва, Юльян Саковіч, Міхась Рагуля, Барыс Рагуля, Міхась Вітушка, Віктар Чабатарэвіч, Антон Антановіч)

А д а м о в і ч: -- Доктар Тумаш затрымліваецца. Будзе пазьней. Галоўнае – чакаем Родзьку. Уцёк з Польшчы. Цяпер у Віцебску старшыня гарадзкой Управы. Калі хто ня ведае – наш беларускі афіцэр з польскага войска. Беларусы Варшавы выцягнулі яго зь нямецкага палону.

*(Нясьмела адчыняюцца дзьверы. Заходзіць Антановіч.)*

А н т а н о в і ч: -- Добры дзень.

А д а м о в і ч: -- Вось гэта навіна! Антон! Жывы! Мне сказалі, што цябе саветы схапілі ў Лідзе і павезьлі на расстрэл.

А н т а н о в і ч: -- Павезьлі, але драпанулі. Дык і я ўцёк.

А д а м о в і ч: -- Выдатна! Зьбіраемся ўсё ж. Спадары, калі хто ня ведае, -- Антон Антановіч гісторык, Віленскі ўнівэрсітэт – сацыялісты-рэвалюцыянер.

*Адчыняюцца дзьверы, уваходзіць Усевалад Родзька.)*

Р о дз ь к а: -- Добры дзень, панове, вітаньне ад беларусаў Віцебска і Варшавы. О, амаль усе знаёмыя. Прыемна бачыць.

А д а м о в і ч: -- Тады пачнем. Тумаш падыйдзе. Перш, чым выслухаць спадара Родзьку, кароткая інфармацыя пра справы ў Менску. Уладарыць Вэрмахт. Справамі культуры, школьніцтва, навукі і мастацтва заведуе гісторык доктар Гайнрых Куртц. Стаўленьне да нас пакуль што даволі лаяльнае. Немцы зьвярнуліся да жыхароў, каб справы горада ўзялі ў свае рукі і прыйшлі працаваць у гарадзкую адміністрацыю. Ну, то мы тут, прыехаўшы, сталі працаваць.

Хацелі ехаць, як належыць, у Вільню. Але там справы цяпер складаныя. Немцы з маскалямі яшчэ ў 39-м вызначылі сфэры ўплыву. Віленскую інтэлігенцыю бальшавікі зьнішчылі, і цяпер нам, каб усё там аднавіць, -- наўрад ці ўдасца знайсьці падтрымку немцаў. Вільня ня ўключана ў беларускую зону. І Вільню не асягнем, і Менск страцім.

На сёньняшні дзень старшыня Ўправы Менскай гарадзкой адміністрацыі доктар Вітаўт Тумаш. Я і Іваноўскі яго намесьнікі. Я адначасна ёсьць загадчыкам жыльлёва-гаспадарчага аддзелу. Трэба ратаваць людзей. Хаця неўзабаве перайду ў выдавецтва і культуру. Паўтаруся, немцы пакуль што адносяцца даволі спакойна. Але ў нашу адміністрацыю за гэты час паналазіла поўна розных саветаў, і нават маскоўцаў, добрая палова зь якіх – гэта агентура НКВД. Надпісы – па-руску, гарадзкі тэатр – па-руску. Вы бачылі такое? Пры бальшавіках такога не было. Словам, працы шмат, і найперш трэба вычысьціць бальшавіцкія канюшні.

*(Уваходзіць Тумаш)*

Т у м а ш: -- Вітаю, панове. Прыемна бачыць столькі сваіх людзей. *(Сядае.)*

А д а м о в і ч: -- А цяпер, увага. Слухаем нашага шаноўнага госьця спадара Родзьку.

Р о дз ь к а: -- Дзякуй, спадары. Сапраўды, прыемна бачыць сваіх. Таму я шмат казаць ня буду, але толькі пра галоўнае. Бытнасьць мая ў польскім войску, на вайне, у нямецкім палоне, потым у акупаванай Польшчы і цяпер у Беларусі, і ўсё тое, што я ўбачыў, прывяло мяне да высновы: мы ня мусім мець ніякіх ілюзіяў наконт немцаў. Ніякай будучыні зь імі ў нас няма. Калі яны перамогуць у вайне, то нас вынішчаць, выселяць у Сібір і анямечаць. Калі пераможа маскаль, нас таксама вынішчаць і абмаскаляць. І таму мы мусім змагацца, бо толькі змагаючыся, можам перамагчы.

Палякі цяпер у стане псіхічнага стрэсу, лічаць сябе ахвярным народам і жывуць сваёй уяўнай ахвярнасьцю. Немцы да іх адносяцца дрэнна. Любога могуць схапіць на вуліцы і паслаць працаваць на фабрыку ў Нямеччыну, альбо ў турму. Спадзяваньняў на немцаў у палякаў няма.

Але самае страшнае, што я там убачыў, -- гэта вынішчэньне жыдоў. Немцы жыдоў за людзей ня лічаць. Ім забаронена хадзіць па ходніках, толькі па вуліцы, забаронена асьвета, адукацыя і ўсялякая дзейнасьць. Яны жывуць у гета, за дротам, адкуль іх бяруць і натоўпамі расстрэльваюць. Я бачыў адзін раз на свае вочы, як іх расстрэльвалі. Сотнямі ставілі на бераг рову і касілі з аўтаматаў ды кулямётаў. Людзі падалі зь дзецьмі, капашыліся, крычэлі на дне рову, а п’яныя немцы (ім давалі алькаголь) стралялі ў гэтую крывавую масу. Некаторыя пры гэтым сьмяяліся. І тут я ўбачыў, панове, што гітлерскія немцы – гэта бальшавікі. Бальшавікі, якія вылезьлі зь пекла ў зялёных фрэнчах, каб зрабіць свой “правільны” нямецкі сацыялізм. Той, хто ня немец, -- будзе зьнішчаны, выселены на выміраньне; рэшта – гэта анямечаныя ўнтэрмэншы для абслугі і чорнай працы. Яны гэтак кажуць і пішуць, а я тое ўжо бачыў. Яны зрабілі ў Польшчы адмысловы канцлягер для жыдоў – Асьвенцым, -- дзе іх спальваюць у адмысловых печах. Усё гэта засакрэчана, але палякі ведаюць.

У Беларусі я ехаў праз Іўе. Там эсэсаўцы сагналі жыдоў і пастралялі ў яме. Усё Іўе ў страху. Я быў каля той ямы. Зь пяску тырчэла жаночая рука. Гэта не перадаць словамі той жах, які я адчуў. *(Маўчанка.)*

І цяпер пра галоўнае, дзеля чаго я тут. Трэба змагацца супраць немцаў. Яны даюць нам магчымасьць адбудаваць нацыянальнае жыцьцё. Але гэта пакуль вайна. Трэба скарыстаць магчымасьць адрадзіць Беларусь і адначасна ствараць антынямецкае падзем’е. Трэба ствараць беларускую сілу супраціву. Інакш наш народны лёс вырашаць іншыя ў сваіх інтарэсах. Мы ня зможам сябе абараніць.

Другая задача. Мы мусім ратаваць жыдоў. Іх абараніць няма каму. Мы ня можам застацца ў баку, калі іх нішчаць на нашых вачах. Гэта таксама наш народ.Такая ёсьць лёгіка змаганьня зь немцамі – жыдоў трэба ратаваць. Гэта мусіла б стаць адной з дзялянак працы беларускага падзем'я.

Вось такія думкі я хацеў да вас данесьці і чакаю на вашае меркаваньне.

*(Маўчанка.)*

Л я в о н  С а в ё н а к: -- А ён праўду кажа. Усё так.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Жыды стварылі сацыялізм і бальшавізм, праводзілі тэрор, насаджалі русіфікацыю. Цяпер, калі прышла расплата, мы мусім іх бараніць? Чаму?

Р о дз ь к а: -- Жыды – гэта ня партыя. Гэта людзі, народ. Калектыўнай адказнасьці за бальшавікоў, за Маркса, Леніна яны не нясуць.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Але ж яны падтрымлівалі бальшавізм і палітыку бальшавікоў.

Р о дз ь к а: -- Тыя, што падтрымлівалі, уцяклі ў Маскву. А тыя, што жылі так сабе, -- засталіся. А заходнебеларускія жыды? А аўстрыйскія жыды, якіх немцы прывезьлі ў менскае гета і тут забіваюць? Яны паняцьця ня маюць пра бальшавізм.

А л е с ь  М а т у с е в і ч: -- А ўсё ж такі такая заява, як калектыўная адказнасьць, ёсьць. На Нямеччыну ў 1918-м наклалі такія рэпарацыі, кантрыбуцыі і абмежаваньні ў разьвіцьці, што народ стагнаў. Але пры чым тут той нямецкі народ? Яго на вайну пагналі, мільёны людзей забілі, пакалечылі, газам патравілі, а пасьля вайны за тое, што гэты народ цярпеў, зь яго яшчэ і сем скураў садралі. Вось вам і калектыўная адказнасьць за палітыку ўладаў.

Т у м а ш: -- Сапраўды, у ваенных дзеяньнях калектыўная адказнасьць існуе, і людзі церпяць без віны. Але гэтая адказнасьць не павінна мерацца жыцьцём невінаватых мірных людзей. Інакш тады гэта людабойства, генацыд. У дачыненьнях цяперашніх гітлераўскіх уладаў да жыдоў якраз тое і ёсьць. Жыдоў забіваюць толькі за тое, што яны жыды.

Альбо вось на Івейшчыне нехта стрэліў па немцу ў вёсцы Шаркуці. Немцы спалілі ўсю вёску разам зь людзьмі. Вось табе і

на. А мы тут нешта мяркуем, хто за каго адказны. Ратаваць трэба жыдоў і сябе самых. Мы яшчэ ня ведаем, што нас чакае.

А д а м о в і ч: -- Значыцца, так. Маю плян: ствараем беларускую партыю незалежнасьці ці, карацей, -- Незалежніцкую партыю. Гэта будзе партыя шырокага адраджэнскага ўжытку. Мы яе сцьвердзім адкрыта на вялікім сходзе. У гэтай партыі будзе схаваны падземны актыў. Вось ён і будзе змагацца зь немцамі і церабіць вольную будучыню Беларусі. Падземны актыў – гэта мы, якія тут ёсьць. А там паглядзім. Значыцца, што вы на гэта скажаце?

А р э х в а: -- Добры плян. Ухваляю.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Мне падабаецца. Трэба рухацца.

С а в ё н а к: -- Нарэшце, зварухнулася. Будзе мэта.

Т у м а ш: -- Здаецца, усе пагаджаемся. І цяпер аб задачах і падземных накірунках працы.

А д а м о в і ч: -- Дазвольце мне. Я ўжо раней думаў. Значыцца, галоўныя задачы:

1. Сацыяльна-бытавое ратаваньне насельніцтва;
2. Беларусізацыя грамадзкага жыцьця. Значыцца, -- школа, асьвета, культура, тэатр, адміністрацыя і г. д., выкараненьне рэштак савецкай акупацыі;
3. Ратаваньне жыдоў;
4. Арганізацыя беларускай моладзі;
5. Стварэньне беларускага краёвага войска.

С а в ё н а к: -- Згодны, але немцы войска не дазволяць.

Ч а б а т а р э в і ч: -- А зь кім ваяваць? Усходні фронт?

А д а м о в і ч: -- Войска патрэбнае для абароны. Краёвая абарона.

А р э х в а: -- Нічога ня будзе.

Т у м а ш: -- Спадары, усё можна зрабіць, калі разумна падыйсьці. Пачнем з вайсковай вучэльні. Тут немцы пагодзяцца, а мы будзем рыхтаваць афіцэрскі корпус.

М а т у с е в і ч: -- А хто будзе рыхтаваць?

Т у м а ш: -- Вайскавікоў хапае. Заўтра еду ў Доры і прывожу ў Менск Кушаля. Ён зможа.

Ратаваньнем жыдоў трэба заняцца неадкладна. Патрэбна арганізаваць дзіцячыя прытулкі, каб выцягваць дзяцей з гета. Потым наладзіць выраб арыйскіх дакумантаў для тых, хто ня ў геце, вывад жыдоў з гораду і іншае.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Мяне непакоіць школьніцтва і культура. Кругом саветчына і расейскія надпісы.

Т у м а ш: -- Гэта праўда. Паналазіла шмат саветаў. У аддзеле школьніцтва і культуры сядзіць нейкі прафэсар Прыляжаеў. Нават Гарадзкі тэатр перавёў на расейскую мову. Яны думаюць, што тут будзе нямецкі СССР. Вось я і мяркую кім такія кадры замяніць.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Аддайце гэты аддзел мне. А з прафэсарам я разьбяруся.

Т у м а ш: -- Згода. Будзе загад.

М і х а с ь  Р а г у л я: -- О, гэта мне падабаецца – з ходу і па конях!

А д а м о в і ч: -- Першым чынам трэба павыганяць саветаў з Управы. Замена ёсьць.

Т у м а ш: -- Трэба аднавіць Беларускі музэй. Гэтым параіў бы заняцца спадару Антановічу. Але найперш даручаю яму ўпарадкаваць архіў ЗАГС. Людзі мусяць мець пасьведчаныя дакуманты. Інакш цяпер могуць і расстраляць. Гэта неадкладная задача.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Я вам скажу: душа радуецца. Нарэшце, возьмемся за справу. Жыве Беларусь!

Т у м а ш: -- Адным словам, так: праца важная і неадкладная. Едзем да мяне. Запрашаю ўсіх на вячэру. Там абмяркуем.

*(Усе выходзяць, гаворачы.)*

Г у дз ь к а-Д у дз і ц к і *(у дзявярах)*: -- З саветамі я разьбяруся.

М і х а с ь  Р а г у л я: -- Гнаць трэба.

Г у ц ь к а- Д у дз і ц к і: -- Ага, за каршэнь ды за дзьверы.

*(Управа пусьцее. У дзьвярах яшчэ Юльян Саковіч і Мікалай Арэхва.)*

С а к о в і ч: -- Спадар Арэхва, вы рашылі працаваць у беларускім падзем'і?

А р э х в а: -- І што вас дзівіць?

С а к о в і ч: -- Нічога ня дзівіць. Тут мы шмат хто, калі ні палова, прайшлі праз сваё камуністычнае падпольле і праз Картуз-Бярозу ў барацьбе з "санацыяй" і з польскім фашызмам. Але цяпер ворагі іншыя. Вы дзейнічалі з БССР.

А р э х в а: -- Юльян, не шукай агентуры. Цяпер мы ўсе ў адной лодцы, і Беларусь – наша абарона.

*(Выходзяць.)*

## С Ц Э Н А 3

(Гуцька-Дудзіцкі, Прыляжаеў. Прыляжаеў сядзіць за сталом у сваім кабінеце. Павольна ўваходзіць Гуцька-Дудзіцкі і набліжаецца да Прыляжаева. Прыляжаеў спалохана ўзіраецца.)

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Прафэсар Прыляжаеў?

П р ы л я ж а е ў: -- Да. Прилежаев.

*(Маўчанка.)*

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Дудзіцкі.

П р ы л я ж а е ў: -- Очень приятно.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Чым вы займаліся пры бальшавіках?

П р ы л я ж а е ў *(устае зь месца)*: -- Я... э... извините, в партии не состоял.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- А чым займаліся?

П р ы л я ж а е ў: -- Я преподавал-с. В университете... филологию... да. То есть – да, филологию.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Зразумела. Вы сядайце, калі ласка.

П р ы л я ж а е ў: -- Спасибо. *(Сядае.)*

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Не, не сюды. Туды. *(Паказвае на крэсла збоку. Сам сядае за стол на месца Прыляжаева.)* Рашэньнем старшыні Управы я прызначаны загадчыкам Аддзелу асьветы, адукацыі і культуры. Ваша вакансія заканчваецца.

П р ы л я ж а е ў: -- Да. Понятно.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Наконт працаўладкаваньня – вы пераходзіце ў рэзэрву.

П р ы л я ж а е ў: -- Теперь я должен вам передать дела.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Ня трэба. Я разьбяруся.

П р ы л я ж а е ў: -- Как изволите.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Ведаеце, прафэсар, перш чым разьвітацца, ці мог бы я спытаць у вас пра тое, што мяне цікавіць?

П р ы л я ж а е ў: -- Да, конечно, пожалуйста.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Бальшавікі зьнішчылі, расстралялі тысячы нявінных людзей, вытаўклі ўсю нашу беларускую інтэлігенцыю, адміністрацыю, пазабівалі паэтаў, пісьменьнікаў, расстралялі беларускія тэатры, вынішчылі да аднаго акцёра, выбілі сялян, ператварыўшы іх у рабоў. Іх забівалі толькі за тое, што яны былі беларусамі. Ці вам іх ня шкода было?

П р ы л я ж а е ў: -- Это ужасно!

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- І вось цяпер вы – трэгер рускай філалогіі – прышлі да немцаў штурхаць гэтую філалогію ў галовы тых, хто застаўся жывы пасьля вашага рускага генацыду.

П р ы л я ж а е ў: -- Это ужасно! Я ни в чем не виноват. Возможно, вы тогда не жили в Минске. Страх, ужас висел в воздухе под бравурные песни. Каждую ночь ездили “черные

вороны” и хватали людей. Мы спали не раздеваясь, ожидая, что за нами придут. Когда схватили Николая Николаевича, я постарался забыть белорусский язык, даже то, что уже знал.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Хто такі Мікалай Мікалаевіч?

П р ы л я ж а е ў: -- Николай Николаевич Щекотихин. Я приехал вместе с ним из Украины. Мы вместе учились в Санкт-Петербурге. Мы вот, русские. А Николай Николаевич стал великим белорусским искусствоведом и патриотом Белоруссии. Он любил белорусский язык. За это его схватили и уничтожили. Да, я слабый человек. Я испугался. Но я никого не предал. Если бы вы тогда были в Минске...

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Я быў у ГУЛАГу.

П р ы л я ж а е ў: -- Извините.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Ну, а цяпер вы каго баіцёся?

П р ы л я ж а е ў: -- Большевиков.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Іх жа няма.

П р ы л я ж а е ў: -- Их много осталось. Они затаились и ждут момента. Если бы я сейчас начал работать по-белорусски – они бы меня убили, как Николая Николаевича. Не смотрите на меня удивленно. Вас подстерегает та же опасность. Их полно даже в форме СД. Они мелькают везде и пристально смотрят в глаза.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Зразумела. *(Маўчанка, узіраецца на прафэсара.)* А ведаеце, прафэсар, хоць вы і перабольшваеце, але доля праўды ў вашых думках ёсьць. Словам, так. Мы вас не выкідаем. Калі вы ня зможаце ўладкавацца на працу, зьвяртайцеся да мяне. Я дапамагу. Слова гонару. Гэта шчыра. *(Праводзіць Прыляжаева – які забірае свой партфэль – да дзьвярэй і разьвітваецца.)* Да пабачэньня, прафэсар.

П р ы л я ж а е ў: -- До свидания. Премного благодарен за разговор.

## С Ц Э Н А 4

(Гуцька-Дудзіцкі йдзе да стала, глядзіць паперы. Пастукаўшы, уваходзіць Адамовіч.)

А д а м о в і ч: -- Добры дзень, Валодзя. Важная навіна. Вэрмахт зыходзіць. Будзе цывільная адміністрацыя “Генэральнай акругі Беларусь” пры Остляндзе. Гаўляйтарам прызначаны Вільгельм Кубэ, апальны фаварыт Гітлера, паэт, пісьменьнік, драматург, пратэстант, прыхільнік “Нямецкага Хрысьціянства”, член нацысцкай партыі.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і:-- Я ведаю, мне Шлегель казаў, што Гітлер потым хоча яго прызначыць гаўляйтарам Масквы і ўсёй усходняй тэрыторыі.

А д а м о в і ч: -- Ого!

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і:-- Я думаю, што нам варта ўсё ж спадзявацца на лепшае. Драматург, паэт... – творчыя людзі, звычайна далей ад варварства. Хаця, хто яго ведае. Ёзаф Гёбэльс таксама кніжку нагрэмзаў. Ды й фюрар мастацтвам забуляўся.

А д а м о в і ч: -- Трэба будзе адразу навязаць кантакты. Трэба яго спаткаць.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і:-- Куртуазыйная рэч. Управа мусіць спаткаць разам зь немцамі.

А д а м о в і ч: -- Тумаш ужо рыхтуецца. Словам, вось так. Пакуль што. Зыходжу. Дарэчы, толькі што Прыляжаева спаткаў. Ён павітаўся са мной “Жыве Беларусь!”. Не паверыў сваім вушам.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і:-- Я зь ім гаварыў. Ён трохі “ку-ку”. Бальшавікі напалохалі.

А д а м о в і ч: -- Але ж дзіва дзіўнае. *(Выходзіць.)*

## С Ц Э Н А 5

(Беларускі музэй. Антановіч, Луцкевіч)

А н т а н о в і ч *(седзячы за сталом):* -- Лявон, я чуў, што

школьны музэй ствараеце ў Радашкавічах?

Л у ц к е в і ч: -- Так. Гісторыя, этнаграфія, Купала. Шмат што дзеці прыносяць.

А н т а н о в і ч: -- Дык от мяне цікавіць Вязынка. Ці засталася там купалава хата, і ў якім яна стане? Хто там ёсьць?

Л у ц к е в і ч: -- Засталася. У якім стане – ня ведаю.

А н т а н о в і ч: -- Ці маглі б паглядзець і напісаць мне? І наогул, пра ваколіцы, бо разумееце, Купала ў Маскве.

Л у ц к е в і ч: -- Усё разумею. Зраблю.

А н т а н о в і ч: -- Ну, то дзякуй, васпане. Добра, што зайшоў.

*(Разьвітваецца.)*

Л у ц к е в і ч: -- Да пабачэньня *(Выходзіць.)*

## С Ц Э Н А 6

(Заходзіць Габрыель Віер)

А н т а н о в і ч: -- О, Габрыэль, нарэшце. Як добра, што вы знайшліся.

В і е р: -- Цяпер жыву ў вёсцы. Прыехаў па вашай вестцы.

А н т а н о в і ч: -- Зараз я вам нешта пакажу. Чакайце. *(Выходзіць і неўзабаве вяртаецца з карцінай, загорнутай у палатно.)* – Вось, паважаны Габрыель, глядзіце *(разгортвае карціну).*

В і е р *(глядзіць):* -- Дык гэта ж абраз Маці Божай Менскай. Бальшавікі яго зьнішчылі. Аказваецца – ацалеў.

А н т а н о в і ч: -- Ацалеў. У дровах знайшоў у дравальцы. Не пасьпелі спаліць.

В і е р: -- Ну, тут, відаць, воля Боская. Дзякуй Богу. Гэта проста шчасьце для нас.

А н т а н о в і ч: -- Але бачыце, у якім цяпер стане.

В і е р: -- Ну, так.

А н т а н о в і ч: -- Можа, узяліся б? Акрамя вас ніхто не адновіць.

В і е р: -- Буду рабіць.

## С Ц Э Н А 7

(Уваходзіць Готфрыд Шлегель.)

Ш л е г е л ь: -- Шаноўны дырэктар, вітаю вас на ніве гісторыі і культуры нашых народаў у новай аб’яднанай Эўропе. О, у вас карціна!

А н т а н о в і ч: -- Спадар обэрштурмбанфюрэр, дазвольце прадставіць вам майго калегу: мастак-рэстаўратар Габрыэль Віер.

Ш л е г е л ь: -- О, мастак! Гэта так міла і прыемна. Я з маладых гадоў вывучаў мастацтва і добра знаюся ў ім. Гэта мая пасія, як добрая маладзіца *(рагоча)*. Мастацтва, панове, -- гэта вечная маладосьць, гэта як вечнае каханьне, якое ніколі не канчаецца, гэта як сьвятая чаша, як грэчаская амфара, зь якой п’еш і ўсё хочацца, а жыцьцё кароткае, і чалавек у роспачы скача з абрыву ў вечныя воды Сьцікса, здурэўшы ад шчасьця, нібы Рафаэль у абдымках каханай, сьпяваючы аб нібелюнгах, і не наталіцца яму, не ўцішыць смагу свайго арганізмў і не спатолоіць свой апетыт, бо ідэалы вечныя і недасяжныя, як гара Эверэст у завоблачным зьзяньні, непарушныя, як вайсковы статут, як нявіннасьць дзіцяці, як несьмяротнае хараство. Вось што такое мастацтва.

А н т а н о в і ч: -- Спадар обэрштурмбанфюрэр, вы філёсаф і знаўца мастацтва. Рэдка прыходзіцца чуць нешта падобнае.

Ш л е г е л ь: -- О, так, я ўніклівы знаўца. Калі я часам пачынаю думаць пра мастацтва, мяне ўздымаюць хвалі духа і нясуць па бязьмежных прасторах Айкумэны паміж Сцылай і Харыбдай у сінюю далячынь Бадэн-Бадэн, дзе сьпявае Марлен і шчабечуць сірэны...

Ну, але пераходзім да справы. *(Узіраецца ў абраз.)* Вы ведаеце, дырэктар, што перад намі? Гэта абраз.Тут намалявана

ікона Mater Dei, і я думаю, што абраз даволі старога гатунку.
*(Віер нешта хоча сказаць, але Антановіч перапыняе яго.)*

А н т а н о в і ч: -- Дасканала, спадар обэрштурмбанфюрэр. Мне таксама так падумалася. Але цяпер ня маю сумненьняў.

Ш л е г е л ь *(углядаецца ў абраз)*: -- Так, гэта Mater Dei. Яна можа быць экспанатам у вашым музэі. Вы ведаеце, спадар дырэктар, што наш гаўляйтэр, які нядаўна заступіў на пасаду, ёсьць вялікі знаўца гісторыі, археалёгіі і старыны. Праз 30 хвілін ён будзе тут, каб паглядзець на музэй. Так што рыхтуйцеся.

А н т а н о в і ч: -- Я гатовы.

Ш л е г е л ь *(да Віера)* : -- Спадар мастак, як вы глядзіце на грэчаскае мастацтва з пэрспэктывы дыянізаўскага духа Ніцшэ?

В і е р *(глядзіць на Антановіча)* : -- Думаю, што тут аснова творчасьці Новай Эўропы.

Ш л е г е л ь: -- Дасканала. А хто вам больш падабаецца: Афрадзыта Кнідская, Афрадыта Мілоская ці Марлен Дзітрых?

В і е р: Мне больш падабаецца фальклёр.

Ты ня жмі мяне да плоту
І ня лезь абы куды.
Я дзяўчына не такая,
Як пажэнімся – тады.

Ш л е г е л ь *(рагоча):* -- Брава! Геніяльна! Бравісіма! Фальклёр – гэта здаровы пачатак народнага духа, які адпавядае нямецкаму ўвасабленьню рэчаіснасьці. Я рады быў мець прыемнае знаёмства з вамі. *(Да Антановіча)* Мушу адыходзіць. Рыхтуйцеся.

А н т а н о в і ч *(праводзіць Шлегеля да дзьвярэй)*: -- Спадар оберштурмбанфюрэр, мы заўсёды радыя вас бачыць у нашым музэі. *(Шлегель выходзіць.)*

В і е р: -- Што гэта такое?

А н т а н о в і ч: -- Го, пане мой, штучка. Гохштаплер вышэйшай маркі. Дарадца шэфа СС генэрала Курта фон Готбэрга. Мае

прэтэнзіі разьбірацца ў мастацтве. Толькі ня думайце, што ён балван. Обэрштурмбанфюрэра СС дарма не даюць.
Але трэба йсьці на ганак спатыкаць гаўляйтара.

В і е р: -- Не, я адыходжу. А то як бы мне яшчэ раз ні прышлося цытаваць фальклёр.

А н т а н о в і ч *(выходзячы, сьмяецца ў дзьвярах)*: -- Але вы й пальнулі: “Ты ня жмі мяне да плоту”. Тут ужо Шлегель цытаваць будзе.

## С Ц Э Н А 8

(Нейкі час сцэна пустая. Потым уваходзяць Вільгельм Кубэ, Карл Вільдэнштайн, Антон Антановіч.)

К у б э *(разглядаецца)*: -- Я думаў, што спаткаю дырэктара ў гадах, зь вялікай сівой барадой. Але ён вось які малады чалавек. Пахвальна. У нас, у Нямеччыне, усе такія маладыя на фронце. Тут вы маеце магчымасьць праўдзіць сваю адукацыю.

А н т а н о в і ч: -- Дзякуй, спадар гаўляйтар. Я сапраўды вельмі люблю гісторыю і рады вітаць вас у нашым музэі.

К у б э: -- Нашыя захапленьні супадаюць. Я ўжо аб’езьдзіў некаторыя ваколіцы. Быў у Лошыцы, у Прылуках, на Лютэранскіх могілках, на Кальварыі. І ведаеце, тут, недалёка, на гары, на закінутых могілках я ўбачыў вельмі старажытны крыж, выбіты з цэлага каменя. Гэта сьведчаньне вашай шматвяковай арыйскай культуры. Я вам раю прывезьці яго ў музэй і паставіць у вестыбюлі, каб кожны, хто заходзіць, бачыў, што беларусы, -- гэта эўрапейскі гістарычны народ.

А н т а н о в і ч: -- Мы так і зробім, спадар гаўляўтар.

К у б э: -- Свой народ трэба паважаць і дэманстраваць лепшыя яго якасьці, каб ён шанаваў самога сябе.

А н т а н о в і ч: -- Бальшавікі нам не давалі тое рабіць, і тыя могілкі на Залатой горцы, дзе крыж, гэта яны разбурылі.

К у б э: -- Масква – гэта мэнтальная Азія, арда. Вы ня мусіце больш яе баяцца. Нямеччына дапаможа вам адрадзіць вашу нацыю і культуру, якая будзе вольнай у новай Эўропе.

А н т а н о в і ч: -- Мы гатовыя падтрымліваць вашу пазыцыю і вашу адміністрацыю, спадар гаўляйтар. У сваю чаргу я дазволю сабе прапанаваць вам сябе ў якасьці гіда па Менску і ваколіцах, калі ў вас зьявіцца такая патрэба.

К у б э: -- Выдатна. Мне будзе прыемна мець такога дасьведчанага субяседніка.

*(Да Вільдэнштайна)* Карл, што ў нас?

В і л ь д э н ш т а й н: -- Праз дзьве гадзіны обэрштурмбанфюрэр Штраўх па вашым выкліку.

К у б э: -- Так. Вось што. Пакуль той мясьнік Штраўх, мы едзем на горку. Потым агледзім музэй. *(Да Антановіча)* Спадар дырэктар, едзем паглядзець крыж і капліцу на горцы. Вы мне пра ўсё раскажыце.

*(Выходзяць.)*

## С Ц Э Н А 9

(У прасторнай кватэры начальніка менскай гарадзкой паліцыі Юльяна Саковіча з нагоды ад’езду Тумаша – банкет. Тут актыў Незалежніцкай партыі і некалькі нечаканых гасьцей. Усе ўжо адышлі да стала і гавораць між сабой купкамі аб розным. Некаторыя падыходзяць да бакавога століка і наліваюць сабе трункі, віно ці крэм-соду. Сярод прысутных Юльян Саковіч, Вітаўт Тумаш, Антон Адамовіч, Уладзімер Гуцька-Дудзіцкі, Антон Антановіч, Лявон Савёнак, Барыс і Міхась Рагулі, Франц Кушаль, Анатоль Комар, Вацлаў Іваноўскі, Міхась Вітушка, Алесь Матусевіч, Леанід Маракоў, Фаб’ян Акінчыц, Вячаслаў Сэлех, Аўген Калубовіч.)

Т у м а ш: -- Паважаныя спадары, прашу ўвагі. Мы добра падсілкаваліся, дзякуючы гаспадару Саковічу, і цяпер нам лепш будзе слухаць аб прыемным, пра што я буду гаварыць. Мы жывем і разьвіваемся. На сёньняшні дзень маем у горадзе сваю беларускую выканаўчую адміністрацыю, сваю грамадзкую беларускую паліцыю і кіраўніка ў асобе спадара Юльяна Саковіча. Маем беларускія школы па ўсіх акругах Камісарыяту, маем Беларускі музэй і Беларускі тэатр. Мы арганізавалі Самапомач з шырокімі функцыямі па ўсёй Генэральнай акрузе Беларусь, дзякуючы найперш спадару Ермачэнку, рыхтуемся стварыць Самаабарону, якая можа стаць асновай беларускага тэрытарыяльнага войска, але галоўнае цяпер – самаабарона вёсак ад савецкіх партызанаў, якія рабуюць людзей і паляць будынкі. Народ мусіць бараніць сябе сам. У нас дзейнічае ўжо

беларуская вучэльня афіцэраў, якой кіруе прысутны тут спадар Франц Кушаль. Дзейнічаюць перасоўныя выставы, рыма-каталіцкія касьцёлы па-беларуску, рыхтуемся да арганізацыі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Мы стварылі ўжо чатыры прытулкі для бяздомных дзетак-сірот, дзе ратуем таксама жыдоўскіх дзяцей з гета. Тут асаблівая падзяка спадарыням Марыі Сухой і Надзеі Абрамавай, якая, дарэчы, сама ўдачкавала жыдоўскую дзяўчынку.

А к і н ч ы ц *(добра падпіты, кажа голасна)* : -- Ну і дурная дзеўка.

А н т а н о в і ч: -- Ну, і чаму ж гэта яна “дурная”? Мы во разам зь ёй адвозілі дзяцей з гета ў прытулак і дурнымі не пачуваліся.

А к і н ч ы ц: -- Не-а. Яна разумная. Але хто яе замуж возьме з чужым дзіцём? Дык от і ня надта разумная.

А н т а н о в і ч: -- Вы нешта ня тое кажаце. Добра яна зрабіла.

А к і н ч ы ц: -- Пачакай, пачакай... мне нешта твой голас знаёмы, а?

С а к о в і ч *(гледзячы на Акінчыца) :* -- Спадары, працягваем слухаць старшыню.

Т у м а ш: -- На заключэньне я хацеў бы адзначыць вельмі важнае. Хвала ўсім працаўнікам на беларускай ніве. Ёсьць плён, які даўся нам імкліва і пазытыўна. Але паверце, нам крыху шанцуе ў асобе яго гонару спадара гаўляйтара Вільгельма Кубэ, які спрыяе беларушчыне. Прасіў бы ўсіх задумацца над гэтым і зрабіць правільныя высновы, бо ня ўсё так проста. У Менску ёсьць розныя грозныя сілы. А палітыку гітлераўскай Нямеччыны мы ўжо ведаем. І нават тое, што я вымушаны зьехаць зь Менска ў іншую краіну – таксама ня проста. Старшынёй Управы будзе спадар Вацлаў Іваноўскі. Вы тое ведаеце.

*(Прысутныя загулі-загаварылі, абмяркоўваючы пачутае. Разышліся па групах.)*

А к і н ч ы ц: -- Нешта мне надта голас яго знаёмы. *(Устае і крыху няўпэўненай паходкай ідзе ў бок Антановіча, які занята размовай з Матусевічам.)* – Во, дык я цябе памятаю, бальшавік зь Вільні.

А н т а н о в і ч: -- Я не бальшавік. Спадар Акінчыц нешта наблытаў.

А к і н ч ы ц: -- Го, дык ён мяне ведае. Ты ў Студэнцкім саюзе ў Вільні, калі я прамаўляў у трыццаць шостым, выступіў супраць мяне і нацыянал-сацыялізму. А цяпер ты што тут робіш, а?

А н т а н о в і ч: -- Так, выступіў супраць эклектыкі, эпігонства і дылетантызму, які вы там дэманстравалі. І што?

А к і н ч ы ц: -- А тое, што бальшавікоў у нашым асяроддзі трэба душыць. А ты пахнеш бальшавіком.

А н т а н о в і ч: -- Вы шмат сабе дазваляеце, спадар Акінчыц. У нашым асяроддзі так не размаўляюць.

А к і н ч ы ц: -- У нашым асяроддзі бальшавікоў выстрэльваюць, як качак. *(Цягне з кішэні ”вальтэр” і зьбіраецца наставіць на Антановіча. Сакові, які збоку ўважліва назіраў, падыходзіць і рэзкім рухам вырывае пісталет у Акінчыца.)*

С а к о в і ч *(Акінчыцу)* : -- Прашу пакінуць памяшканьне. Хутка і без пярэчаньняў. Чакаю.

А к і н ч ы ц *(які крыху працьверазеў ад нечаканасьці)*: -- Гэта абуральна! Я не дарую. *(Выходзіць. Потым вяртаецца.)* – Мой “вальтэр”!

С а к о в і ч: -- Заўтра ва Управе паліцыі. І будзеце мець размову са мной. *(Акінчыц зьнікае.)*

С а в ё н а к: -- А што здарылася?

С а к о в і ч: -- Як толькі зьбяруцца прыстойныя людзі, заўсёды залезе нейкая гніль. Спадары, прашу прабачэньня, але я яго не запрашаў. Як ён тут апынуўся?

А н т а н о в і ч: -- Ён сам прышоў, бо яму было трэба. Я яго ведаю. Ускочыў у нацыянал-сацыялізм яшчэ з 30-х. Потым выехаў у Нямеччыну і зьвязаўся з АБВЭРай. Цяпер мае там нейкую дыверсійную школу пад Бэрлінам, вярбуе палонных беларусаў і засылае ў Беларусь. Ён разам з Астроўскім. Арыентуецца на Готбэрга.

А н а т о л ь  К о м а р: -- Дарэчы, а дзе цяпер Астроўскі?

Ф р а н ц  К у ш а л ь: -- У Смаленску сядзіць. Спадары, інцыдэнт, які тут толькі што адбыўся, вымушае мяне гаварыць аб вызваньнях. Цяпер Ермачэнка ў межах Самапомачы і пры спрыяньні Кубэ працуе над стварэньнем Саюзу Беларускай Моладзі. Паверце, цяпер гэта найважнейшая справа. Калі аб'яднаем моладзь у патрыятычным руху, Беларусь будзе мець будучыню.

Другое вызваньне – рэпрэсіі насельніцтва. Эсэсаўцы паляць вёскі разам зь людзьмі і масава расстрэльваюць жыдоў. Кіруе Готбэрг, выконвае Штраўх. Калі спалілі людзей у Дорах, я напісаў пратэст Кубэ і Готбэргу. Кубэ заступіўся і напісаў абурэньне Готбэргу. Узьнік канфлікт. А калі зноў расстралялі жыдоў у Трасьцянцы, дык Кубэ выклікаў да сябе Штраўха і нават не запрасіўшы сесьці разьнёс яго ўшчэнт, назваўшы мясьніком. Тады Готбэрг напісаў на Кубэ скаргу Гімлеру, а Кубэ накатаў на іх ліст самому Розэнбэргу. Мне гэта пераказаў спадар Ермачэнка, які, як вядома, ёсьць дарадцам спадара Кубэ. Тое, што адбываецца, -- дрэнна і небясьпечна, бо калі верх возьмуць эсэсаўцы, то нас таксама пачнуць граміць. Першая ластаўка – выцісканьне спадара Тумаша зь Менску і зьяўленьне тут гэтага тыпа, якога толькі што выдалілі.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Але ўся ўлада ў Генэральнай акрузе Беларусь належыць гаўляйтару. Яму падпарадкавана і СС.

В а ц л а ў  І в а н о ў с к і: -- фармальна – так, але фактычна – не. Згодна нямецкага закону СС павінна выконваць толькі загады Гітлера і райхсфюрэра СС, і нічые іншыя. Сам Кубэ ім нічога ня зробіць. Хіба што праз Гітлера ці Розэнбэрга, што малаверагодна. Мы гэта павінны ведаць.

А д а м о в і ч: -- У Гэбітскамісарыяце працуюць дзясяткі жыдоў. Эсэсаўцы ведаюць. А Кубэ кажа, што яму спэцы патрэбныя.

К у ш а л ь: -- Ну, тут яшчэ ўсё лагічна. Мне Ермачэнка расказаў, што Кубэ выцягнуў з канцлягеру свайго школьнага таварыша-музыканта, нейкага Лёвэнштанта. Гэты габрэй цяпер вольна жыве ў Менску, ходзіць у госьці да Кубэ¸ дзе яны разважаюць пра літаратуру, і Лёвэнштант пры гэтым грае Моцарта на піяніна.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і *(рагоча)*: -- Люблю, халера, люблю авантурыстаў. Вось гэта мне падабаецца! Вось гэта "ад клясы"!

І в а н о ў с к і: -- Хаця, калі глядзець па-людзку, дык паводзіны цалкам прыстойныя.

А д а м о в і ч: -- Сапраўды – прыстойныя. Але сьвет перакуліўся. Ёсьць над чым падумаць, каб не змарнаваць гэты час. Ёсьць над чым падумаць…

## С Ц Э Н А 10

(Перад домам Саковіча пасьля банкету. Кушаль, Матусевіч.)

К у ш а л ь: -- Ну, вось усе разышліся. Ёсьць важная размова, Алесь, якую лепш за ўсё мець на вуліцы. Ты бачыш, што становішча абвастраецца.

М а т у с е в і ч: -- Ну, пэўня – вайна ж бо.

К у ш а л ь: -- Мне вядома, што немцы маюць у партызанах сваю агентуру. Немцы могуць скарыстаць партызан супраць нас. А мы ня ведаем, што там робіцца.

М а т у с е в і ч: -- Вёскі рабуюць, людзей забіваюць.

К у ш а л ь: -- Самае подлае, што партызаны правакуюць немцаў паліць вёскі.

М а т у с е в і ч: -- Самаабарона супраць немцаў не дапаможа.

К у ш а л ь: -- Словам, трэба мець у партызанах сваіх людзей.

М а т у с е в і ч: -- Трэба.

К у ш а л ь: -- Ці змог бы ты?

М а т у с е в і ч: -- Калі трэба, дык змагу.

К у ш а л ь: -- Я не сумняваўся. Рабі, што трэба. Сувязь са мной.

М а т у с е в і ч: -- Разьвітваемся. Будзем рабіць.

## С Ц Э Н А 11

(Брыгадэнфюрэр СС Курт фон Готбэрг, обэрштурмбанфюрэр Готфрыд Шлегель, обэрштурмбанфюрэр Эдуард Штраўх. Кабінэт фон Готбэрга.)

К у р т ф о н Г о т б э р г *(Шлегелю)* : -- Гэты ліст пра Смаленскую СД райхсфюрэру адаслаць сёньня. Назаўтра падрыхтаваць адносіны аб пераводзе Смаленскай СД у Менск райхсміністру Розэнбэргу. На сёньня – усё. Зараз прыйдзе спадар Штраўх.

Ш л е г е л ь: -- Спадар брыгадэнфюрэр, я хацеў бы выказаць думку пра Смаленскую СД.

Г о т б э р г : -- Выказвайце.

Ш л е г е л ь: -- Калі СД застанецца ў смаленскім падпарадкаваньні, у нас могуць зьявіцца складанасьці. Маем ужо Кубэ.

Г о т б э р г : -- Райхсфюрэр нас падтрымае. Пра гэта будзем гаварыць.

*(Уваходзіць Штраўх.)*

Ш т р а ў х: -- Гайль Гітлер!

Г о т б э р г і Ш л е г е л ь: -- Гайль Гітлер!

Г о т б э р г : -- Ёсьць важныя справы, якія мы павінны вырашыць. У нас шматкроць павялічылася праца па жыдоўскім пытаньні з-за наплыву транспартаў з Аўстрыі. У сувязі з гэтым я зьвяртаюся да райхсфюрэра і да райхсміністра з просьбай перавесьці ў маё падпарадкаваньне Смаленскую СД, каб разгрузіць графік. Спадар Штраўх зь Менскай СД забясьпечвае жыдоўскае пытаньне. Тым часам Смаленская СД займецца беларусамі. У іх гэта добра атрымліваецца. Смаленская служба СД укамплектавана рускімі афіцэрамі НКВД. Трэба прызнаць, што ў вобласьці мэтадаў і падыходаў мы ад іх адстаем.

Другое пытаньне – Кубэ. Невытлумачальнае юдафільства. Апошнія дадзеныя паказваюць, што Кубэ знаходзіцца пад уплывам беларусаў, асабліва што датычыць Івана Ермачэнкі, якога ён зрабіў асабістым дарадцам.

Адміністрацыйная палітыка Кубэ адносна беларускай адукацыі, зямельнага пытаньня, структураў беларускай

супольнасьці не адпавядае палітыцы Нямеччыны на ўсходніх тэрыторыях; яго пазыцыя ў жыдоўскім пытаньні адкрыта супярэчыць задачы, якую паставіў перад намі фюрэр. Кубэ даўно павінен быць у канцлягеры, але ніхто ня хоча ім заняцца, баючыся патурбаваць фюрэра, які мае сантымэнты да гэтага ерэтыка. Кубэ піша на нас кляўзы ў Бэрлін.

Улічваючы ўсё гэта, я паслаў рапарт райхсфюрэру і сёньня атрымаў паведамленьне. Райхсфюрэр СС Гайнрых Гімлер прыбывае ў Менск з візітам і групай праверкі.

У сувязі з гэтым, спадар Шлегель, падрыхтаваць усе апэратыўныя дакуманты па Кубэ, па беларускіх функцыянерах і беларускай дзейнасьці, і асобна – па Ермачэнку.

Спадар Штраўх: дакуманты па ліквідацыі жыдоўскага насельніцтва. Будзьце гатовыя паказаць гасьцям Трасьцянец. Пытаньні?

Ш т р а ў х: -- Я доктар права, а ён абазваў мяне мясьніком.

Г о т б э р г : -- Хто?

Ш т р а ў х: -- Кубэ.

Ш л е г е л ь: -- Ці будуць правяраць Гэбітскамісарыят і Кубэ?

Г о т б э р г : -- Калі будуць паўнамоцтвы. Спадары, гэта важны для нас візіт. Ён можа выклікаць перамены. Прыступаем да справы.

## С Ц Э Н А  12

(Кабінэт Кубэ ў Гэбітскамісарыяце. Кубэ і Ермачэнка. Потым Шлегель.)

К у б э: -- Я паклікаў вас, Іван, каб сказаць, што прыязджае райхсфюрэр Гімлер. Мне не паведамілі. Гэта азначае, што едзе па рапарту Готбэрга, але, магчыма, завітаюць да нас.

Е р м а ч э н к а: --  Мы перанясём крыху далей зьезд СБМ і семінар Самаабароны. Райхсфюрэру будзе прыемна адчуць спакой і цішыню ў нашым горадзе.

К у б э: -- Гуртаваньне сьведамай, маральна здаровай моладзі ёсьць патрыятычная задача. Новая Эўропа павінна ствараца з разумных, здаровых і перадавых людзей, грамадзянаў і патрыётаў сваёй краіны. Я зацікаўлены, каб такая беларуская

арганізацыя ўзьнікла і буду рады выступіць на яе арганізацыйным зьезьдзе.

Е р м а ч э н к а: -- Спадар гаўляйтар, ёсьць шмат дарадчых пытаньняў, якімі б павінны займацца дасьведчаныя людзі, прапаноўваць тэмы і рашэньні.

К у б э: -- Дзе такія людзі мусяць быць?

Е р м а ч э н к а: -- Пры Гэбітскамісарыяце, спадар гаўляйтар. Беларуская Рада Даверу дзеля больш шчыльнага супрацоўніцтва зь нямецкай адміністрацыяй і дзеля ўзаемаразуменьня.

К у б э: -- Добрая прапанова Мы надзелім Раду паўнамоцтвамі. Давайце кандыдатуры. Сьпіс, статут, рэглямант. І не марудзьце.

Е р м а ч э н к а: -- Спадар гаўляйтар, мушу сказаць шчыра. Я лічу за гонар супрацоўнічаць пад вашым кіраўніцтвам. Усё робіцца хутка і без валакіты.

К у б э: -- У будучай новай Эўропе Беларусь таксама будзе разьвівацца хутка і без затрымкі. Я зацікаўлены ў гэтым. Упэўнены, што так і будзе.

*(Уваходзіць сакратарка Лінда.)*

Л і н д а: Спадар Годфрыд Шлегель.

К у б э: -- Запрашаю.

Е р м а ч э н к а: -- Да пабачэньня. Буду дзейнічаць.

*(Выходзіць. Заходзіць Шлегель.)*

Ш л е г е л ь: -- Гайль Гітлер!

К у б э *(не адказвае на вітаньне.)* :-- І што, дарагі Готфрыд, сарока на хвасьце прыносіць?

Ш л е г е л ь: -- О, вельмі сакрэтныя навіны. Хаця, можа, яны ўжо сакрэты Полішынэля. Заўтра ў Менск прылятае райхсфюрар Гімлер у суправаджэньні групы кантролю.

К у б э: -- Гм... І гаўляйтар пра тое ня ведае. Няўжо фон Готбэрга правяраць будуць?

Ш л е г е л ь: -- Магчыма, будуць назіраць справу з жыдоўскім пытаньнем і, магчыма, пазыцыю Гэбітскамісарыяту.

К у б э: -- Вось як?

Ш л е г е л ь: -- Вы ж разумееце, хто напісаў у Бэрлін.

К у б э: -- Хто?

Ш л е г е л ь: -- Курт.

К у б э: -- Курт, кульгавы д’ябал.

Ш л е г е л ь: -- І ён не адзін, хто кампрамэтуе Нямеччыну.

К у б э: -- Вы сапраўды немец, Готфрыд. На такіх трымаецца наш вялікі Райх. Вам, канешна, вядома, што напісаў Курт?

Ш л е г е л ь: -- Гэта жахліва!

К у б э: -- Што жахліва?

Ш л е г е л ь: -- Ён называе гаўляйтара юдафілам і прыхільнікам асобнай Беларусі.

К у б э: -- Ёсьць людзі, дарагі Готфрыд, якім недаступныя тонкія сфэры палітыкі. Неразумна пазбаўляцца ад жыдоўскіх спэцыялістаў, калі йдзе вайна. Яны ня ворагі Нямеччыны. Хай працуюць на перамогу нямецкай зброі і вялікіх ідэй. Ніколі ня позна будзе разьвітацца зь імі культурным спосабам, дзеля гэтага існуюць дасягненьні навукі, і фюрэр ведае пра гэта.

Вы разумееце, Готфрыд, беларусы па псіхалогіі і звычках ёсьць найбліжэйшы да немцаў народ. Хоць гэта для некаторых здавалася б дзіўным, але так ёсьць. Толькі справа ня ў гэтым. Калі мы хочам перамагчы ў гэтай вайне, тады прыгнечаныя народы павінны быць нашымі саюзьнікамі, прытым рэальна, а не на словах. Пасьля вайны разьбярэмся. І ня трэба баяцца, калі застануцца асобныя саюзныя зь Нямеччынай дзяржавы. Эвалючыя нацыянал-сацыялізму прывядзе ўсіх пад адзіны назоўнік. Беларусам трэба даць надзею, дарогу для нацыянальнага разьвіцьця і ўмовы для сацыяльнага дабрабыту. Тады яны будуць любіць Нямеччыну і стануць немцамі. Але калі

імі будзе камандаваць рыла мясьніка Штраўха, тады ні на што не спадзявайцеся. І ведаеце, Готфрыд, пры ўсім пры тым, я мяркую, што Курт фон Готбэрг разумны чалавек.

Ш л е г е л ь: -- О, так, паважаны гаўляйтар. Курт фон Готбэрг найразумнейшая істота, хаця, па праўдзе кажучы, проста швайн.

Жыцьцё, паважаны гаўляйтар, складаная штука. Чалавек хоча дасягнуць яго зьзяючых вяршынь, але звычкі і жарсьці і, скажам проста, заганныя звычкі, цягнуць яго на дол. І ён, не раўнуючы, як самотная барка, брыкаецца на бурных хвалях сусьветнага акіяна бяз толку, бяз грошай, без любові да чалавецтва, хаця сам можа быць дасканаласьцю, якой яшчэ сьвет ня бачыў і не ўяўляў у сваёй злоснай сапсутасьці і хранічнай дэпрэсіі, пра якую пісаў таксама самотны Заратустра, перш чым памерці ад сіфілісу і самоты ў вялікім збунтаваньні духа, які вечна лятае над пустыннымі водамі цывілізацыі, думаючы пра надзею. У гэтым трагізм чалавечага існаваньня, паважаны гаўляйтар. Я так, як ніхто, разумею вас.

К у б э: -- Вы такі філёсаф, Готфрыд.

Ш л е г е л ь: -- Ну, але мушу зьбірацца. Сьпяшаюся. Гайль Гітлер!

К у б э: -- Гайль Гітлер!

*(Шлегель выходзіць. Кубэ задуменна сам сабе.)*

– Сьпяшайся, Готфрыд, сьпяшайся.

(Канец 1-й дзеі)

# ДЗЕЯ 2

## СЦЭНА 1

(Кабінет Курта фон Готбэрга. Уваходзяць Гайнрых Гімлер, Курт фон Готбэрг, Эдуард Штраўх, Готфрыд Шлегель і супраааджаючыя Гімлера эсэсаўскія афіцэры – чатыры асобы.)

К у р т  ф о н  Г о т б э р г: -- Глыбокапаважаны райхсфюрэр, гэта сядзіба цэнтралі нашай арганізацыі. Пасьля перамогі ўсё будзе выглядаць лепш.

Г і м л е р *(разглядаецца)*: -- Што ж, вельмі міла і з густам. Там, дзе Нямеччына, там мусіць быць культура. *(Сядае ў мяккае крэсла.)* Прашу сядаць, панове. Учарашні дзень быў выніковы. Мне спадабалася. І выдатнае завяршэньне – усходні банкет. А, дарэчы, як называецца той самаробны мясцовы шнапс?

Ш л е г е л ь: -- Самагонка, спадар райхсфюрэр.

Г і м л е р: -- Са-ма-гонка. Арыгінальны напітак. Трошкі падобны на шатландскую віскі. Але працягнем па справе. Я ўважліва пазнаёміўся з вашым рапартам, брыгадэнфюрэр Готбэрг. Мяне цікавяць канкрэтныя ўлікі.

Г о т б э р г: -- Ёсьць лісты, дзе Кубэ выказваў мне абурэньне з прычыны ліквідацыі жыдоў і спаленьня бандыцкіх вёсак мясцовага насельніцтва. Больш таго, ён выклікаў да сябе начальніка СД і выказаў яму тое ў твар.

Ш т р а ў х: -- Я доктар права. Ён абазваў мяне мясьнікам, спадар райхсфюрар.

Г о т б э р г: -- У Гэбітскамісарыяце працуюць дзясяткі жыдоў. Зафіксаваныя дзеяньні, нягодныя для члена нацыянал-сацыялістычнай партыі. Кубэ некалькі разоў пасылаў служанку ў гета, якая насіла жыдам прадукты, а дзецям яблыкі і мандарыны. *(Усе зашавяліліся, пераглянуліся.)*

Юдафільская пазыцыя гаўляйтара Кубэ цесна зьвязана зь яго хваравітай беларускай прыхільнасьцю. Ён знаходзіцца пад уплывам свайго дарадцы беларускага палітычнага аўтарытэта Івана Ермачэнкі. Нядаўна яны разам выпусьцілі і падпісалі адозву да беларусаў, дзе вось што напісана. Цытую “У дзіцячых садах мы павінны даглядаць і выхоўваць сірот і дзяцей, якія не падлягаюць школьнай павіннасьці.” Гэты двухсэнсоўны запіс дае падставы даглядаць там жыдоўскіх дзяцей, паколькі жыдоўскія дзеці не падлягаюць школьнай павіннасьці і не павінны вучыцца. Тут наўпроставае парушэньне патрабаваньня фюрэра і палітыкі нацыянал-сацыялізму ў жыдоўскім пытаньні.

Нам вядома па агентурных зьвестках, што беларускае падзем’е таемна перавозіць жыдоўскіх дзяцей  з гета ў такія прытулкі. Прытулкі стварае “Самапомач”. Гэта арганізацыя, якую зрабіў Ермачэнка пры дапамозе Кубэ. Яна каардынуе ўсе сфэры

беларускай дзейнасьці і зьяўляецца, па сутнасьці, неаб'яўленым беларускім урадам. У руках Самапомачы ўжо апынулася і беларуская школа, якая пры неафіцыйным дазволе Кубэ дзейнічае не як прафэсійная, а як агульнаадукацыйная, што ў корані супярэчыць нашай палітыцы на ўсходзе. Больш за тое, Кубэ і Ермачэнка рыхтуюць адчыніць тут беларускі ўнівэрсітэт, што забаронена рабіць на ўсходзе па законах Райха.

Гаўляйтар Кубэ тлумачыць сваю пазыцыю прагматызмам, тактыкай часовай палітыкі, каб скарыстаць усе магчымасьці для перамогі Нямеччыны ў вайне.

Але гэта дэмагогія. Ён уяўляе сябе ў будучыні Вялікім Князем асобнай Беларусі. Але тут поўная супярэчнасьць палітыцы фюрэра і збочанае ўяўленьне пра будучыню вялікай Нямеччыны.

*(Маўчанка.)*

Г і м л е р: -- Падрыхтуйце дасье па ўсім, што сказана. Асобным лістом -- копія райхсміністру Розэнбергу. Мушу сказаць, што справа не выглядае простай і хуткай па адной прычыне: Кубэ прызначыў на пасаду гаўляйтэра асабіста фюрэр пры асабістым спрыяньні. Але справядлівасьць, брыгадэнфюрар фон Готбэрг *(шматзначна глядзіць на яго),* перамагае тады, калі ажыцьцяўляе справядлівую ініцыятыву.

Г о т б э р г *(устае)* : -- Гайль Гітлер! *(Усе ўсхапіліся, ўстаюць і разам гукаюць "Гайль Гітлер!")*.

Г і м л е р *(седзячы, сагнутай у локці рукой):* -- Гайль Гітлер! Сядайце, панове.

На завяршэньне майго візіту, панове, цяжкі абавязак – мы едзем назіраць нялёгкую працу спадара обэрштурмбанфюрэра Штраўха. *(Штраўх ускоквае зь месца. Гімлер знакам паказвае яму, каб сеў. Штраўх сядае.)*

Панове, канчатковае вырашэньне жыдоўскага пытаньня – гэта высакародная задача ўсяго новага арыйскага чалавецтва, якое прасякнута ідэямі фюрэра. Ажыцьцяўляем яе мы, немцы, выбраны народ вялікім фюрэрам. Наступныя пакаленьні будуць удзячныя нам за наш подзьвіг. Але сёньня – гэта праца. Праца і пакліканьне. Мы павінны быць моцныя і суровыя, інакш гісторыя не даруе нам нашай слабасьці. Ітак, едзем. Куды мы едзем, спадар Штраўх?

Ш т р а ў х: -- Трасьцянец, спадар райхсфюрэр.

Г і м л е р: -- Трась-ця-нец.

*(Усе выходзяць)*

## С Ц Э Н А 2

(Трасьцянец. Расстрэльны роў. Немцы гоняць натоўпы габрэяў на край траншэі. У натоўпе мужчыны і жанчыны. Некаторыя жанчыны, хаваючыся (каб не адабралі і ня кінулі ў роў) прыціскаюць да грудзей немаўлят. Усе габрэі прадчуваюць апошнія хвіліны жыцьця. Адчуваецца асаблівая містычная атмасфэра. Людзі ўжо быццам у іншым сьвеце. Канвойныя падганяюць натоўп і ставяць людзей на край рову. Гучаць каманды “шнэлер”, “шнэлер”. Нехта сьмяецца: “Шнэлер, швайн!”.

Збоку каля рову стаяць групай Гімлер, ягоная афіцэрская “сьвіта”, фон Готбэрг і Штраўх. У гэты час шараговы немец (эсэсман) нясе раскошнае венецыянскае крэсла ў стылі ракако з чырвонай драпіроўкай і пазалотай. Побач ідзе Шлегель, камандуе і падганяе шараговага, паказвае яму, каб крэсла паставіў каля Гімлера. Жаўнер ставіць крэсла. Шлегель знакам праганяе яго. Гімлер паглядзеў на крэсла, але сядаць ня стаў.

Жаўнеры з аўтаматамі займаюць пазыцыі. Гучыць каманда: “Ахтунг! Фоер!” Пачынаецца страляніна, крыкі, лямант, плач. Калі ўсе ўпалі ў роў, крыкі, лямант, стогны даносяцца з рову. Гучыць паўторная каманда: “Ахтунг!” Жаўнеры падыходзяць да краю рову. “Фоер!” Жаўнеры страляюць у роў. Неўзабаве стогны і крыкі сьціхаюць. У цішыні чуваць зь ямы гучны, плач немаўляці, яно плача, аж заходзіцца. Узьнікае замяшаньне сярод прысутных. Тады спахапіўся Штраўх.)

Ш т р а ў х *(раве)*: -- Шыссэн! Шыссэн! Доннэрвэттэр!

*(Гучыць доўгая адзінокая аўтаматная сэрыя. Плач сьціхае. У гэты час Гімлер захістаўся і самлеў; падае ў веніцыянскае крэсла.)*

Ш л е г е л ь *(бегае вакол крэсла)*: -- Вады! Вады! Лекара! Лекара хутчэй! *(Махае рукамі каля Гімлера. Гімлер падымае галаву і глядзіць перад сабой, нібы ў прастрацыі.)*

Г і м л е р *(апамятаўшыся):* -- Я абураны! Абурэньне зваліла мяне з ног. Штраўх! Обэрштурмбанфюрэр Штраўх, я вамі незадаволены. Вы забыліся пра культуру. Вы не павінны быць мясьнік!

*(Штраўх захістаўся і, здаецца, зараз самлее.)*

Ш л е г е л ь *(круціцца вакол Штраўха і падхоплівае яго)*: -- Эдуард, спакойна, Эдуард! Вы нямецкі мужчына. Вы салдат. *(Штраўх выпростваецца.)*

Г і м л е р: -- Рашэньне жыдоўскага пытаньня павінна адбывацца разумна, на ўзроўні гуманных задач. Мы мусім памятаць, што немцы – вялікая культурная нацыя, якая дала сьвету Гётэ і Гітлера – сьветачаў цывілізацыі. Тут не павінна быць неахайнасьці. Расстрэл ёсьць частка культуры чалавецтва і мусіць адбывацца гуманна. Гэта цяжкі, але і ганаровы абавязак. *(Устае з крэсла.)* Памятайма пра гуманізм, панове. *(Паварочваецца і ідзе. Усе ідуць за ім.)*

## С Ц Э Н А 3

(Кабінэт фон Готбэрга. Готбэрг, Штраўх, Шлегель.)

Г о т б э р г: -- Райхсфюрэр ад’ехаў незадаволены. Незадаволены сабой. Так што парада ня быць мясьнікам хай вас не бянтэжыць, спадар Штраўх.

Ш т р а ў х: -- Я доктар права.

Г о т б э р г: -- Прыкры выпадак, хвілёвая слабасьць, але ў выніку мы страцілі падтрымку. Райхсфюрэр не даруе, што мы сталі сьведкамі гэтага выпадку.

Такім чынам пытаньне з Кубэ вырашым самы. І неадкладна. Спадар Шлегель, тэрмінова зьвязацца з агентурай у партызанах.

Ш л е г е л ь: -- Гэта зойме тры-чатыры дні.

Г о т б э р г: -- Сталін выдаў загад зьнішчыць Кубэ. Нам застаецца правільна выкарыстаць іхныя задачы. У бліжэйшы час Кубэ і Ермачэнка зьбіраюць у тэатры зьезд Саюзу Беларускай Моладзі. Кубэ будзе выступаць. Заданьне для агентуры, спадар Шлегель: спасылаючыся на загад Сталіна, падштурхнуць партызанаў падкласьці міну пад Кубэ ў тэатры. Далейшыя распараджэньні – у залежнасьці ад пляну партызанаў.

Спадар Штраўх, мусіць быць папярэджана агентура і ахова ў тэатры, калі настане час “ікс”, каб не затрымлівалі і прапусьцілі, каго трэба. Але пра гэта потым. Ці ёсьць пытаньні?

Ш т р а ў х: -- Геніяльнае рашэньне. Мне падабаецца. Усё проста. Трах-бах – і кліент сьпёкся.

## С Ц Э Н А 4

(Сьвятліца ў кватэры Франца Кушаля. За сталом, на якім гарыць сьвечка, сядзяць людзі. Саракавіны пасьля сьмерці сына Арсеньневай, што загінуў ад выбуху ў тэатры. Прысутнічаюць Франц Кушаль, Натальля Арсеньнева, Яніна Шабуня, Надзея Абрамава, Уладзімер Гуцька-Дудзіцкі, Антон Антановіч, Лявон Савёнак, Юльян Саковіч, Міхась Вітушка, Міхась Рагуля, Барыс Рагуля.)

А р с е н ь н е в а: -- Мінула 40 дзён, як ня стала сына. Ніяк не магу прыйсьці да ладу. Усё стаіць у вачах: гэты жахлівы выбух, гэтая кроў на сьценах. Маскоўскія бальшавікі – гэта самыя страшныя бандыты на зямлі. Бачыце, Масква ня зь немцамі ваюе, а зь беларусамі. Ёй страшней нашае нацыянальнае адраджэньне, чым нямецкі Вэрмахт. Забілі 20 маладых беларусаў.

К у ш а л ь: -- Тое, што мы ведаем, гэта тое, што хацелі забіць Кубэ. Гаўляйтару пашанцавала, што ад’ехаў раней.

С а к о в і ч: -- Усё гэта ня проста. Калі ўзарвалі партызаны, то за імі нехта стаяў. Магчыма, СД. Яны з Кубэ варагуюць. Ня так проста ўсталяваць міну ў тэатры. Асабліва, калі там выступае гаўляйтэр. Гэта элемэнтарна немагчыма без ўнутраннай нямецкай дапамогі СС.

Я н і н а   Ш а б у н я: -- У нас увесь шпіталь быў запоўнены параненымі маладымі хлопцамі і дзяўчатамі. Некаторым ногі паадрывала.

Н а дз е я  А б р а м а в а: -- Але ведаеце што, ніхто не спалохаўся. Моладзь масава ідзе ў СБМ. Ужо дзясяткі тысячаў. Усе нашыя беларускія справы робяцца праз ахвяры і кроў. Так ёсьць, і мы ня будзем баяцца пакут.

А н т а н о в і ч: -- А я згодны са спадаром Саковічам. Усе гэтыя выбухі арганізуюць немцы, СС і СД. Партызанаў выкарыстоўваюць. Лёгіка – вялікая навука. Вы ж глядзіце: выціснулі Тумаша. Зьехаў. Адамовіч прыходзіць у кабінэт, адчыняе шуфляду. А там – бомба. Не атрымалася забіць, дык назаўтра ж яму СД сказала, каб вымятаўся ў Бэрлін. Далі на

зборы адзін дзень. Гэта ж усё  белымі ніткамі сфастрыгавана. Потым пачалі нішчыць беларускіх сьвятароў. Ксяндзоў Глякоўскага і Мальца – у канцлягер, сьвятара Рыбалтоўскага нядаўна застрэлілі. Тут СД ваюе супраць Кубэ, але б’юць па нас. Праўду некалі казаў Родзька, што немцы нас панішчаць, як і жыдоў.

А р с е н ь н е в а: -- Ох, спадар Антон, не кажыце так. Неяк страшна жыць стала. Вакол вайна. Але мы не збаімся. Спадарства, дазвольце я прачытаю малітву, якую я напісала пасьля сьмерці нашай моладзі ў тэатры. *(Чытае малітву.)*

Магутны Божа! Уладар сусьветаў,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых,
Над Беларусяй, ціхай і ветлай,
Рассып праменьні свае хвалы.

Дай спор у працы штодзённай шэрай,
На лусту хлеба, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласьць дай.

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай
Краіну нашу і наш народ.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Моцная малітва. Каб жа толькі яна дайшла да Бога!

С а в ё н а к: -- Каб дайшла, па ёй трэба маліцца. Калі ўсе будзем маліцца, тады дойдзе. Але ўжо позна. Набліжаецца камэнданцкая гадзіна. Трэба адыходзіць.

*(Усе ўстаюць. Некаторыя жагнаюцца і кажуць: “Вечны спакой яго душы і ўсім забітым.)*

## С Ц Э Н А  5

(Сьвятліца ў доме Кушаля пасьля саракавін. Усе разышліся. Кушаль адзін. Потым Пётра Шашкель. Стук у дзьверы.)

К у ш а л ь: -- Хто там?

Ш а ш к е л ь: -- Франціш, гэта Шашкель. *(Уваходзіць у памяшканьне.)*

К у ш а л ь: -- Пётра, во не чакаў. Заходзь, братка. Ці ўсё ў парадку?

Ш а ш к е л ь: -- Ня ўсё. Трэба тэрмінова ўбачыць Кубэ.

К у ш а л ь: -- У чым справа?

Ш а ш к е л ь: -- Яго зноў хочуць забіць. Я адмыслова прыехаў з Баранавіч. Словам, пазаўчора я атрымаў зьвесткі ад нашых людзей (выпівалі з партызанамі), што каля Налібоцкай пушчы па дарозе партызаны рыхтуюць засаду на Кубэ, які будзе ехаць на паляваньне.

К у ш а л ь: -- Кубэ едзе заўтра, я ведаю. Пачакай, калі ты кажаш атрымаў зьвесткі?

Ш а ш к е л ь: -- Пазаўчора.

К у ш а л ь: -- Немцы прапанавалі Кубэ ўчора, каб ехаць заўтра. Мне дакладна Ермачэнка сказаў, бо не адобрыў гэтую справу. Значыцца, спачатку партызаны рыхтуюць засаду, а назаўтра немцы запрашаюць Кубэ паехаць на гэтую засаду. Арыгінальна. Усё дагары нагамі. Выходзіць, нехта трэці кіруе і партызанамі, і немцамі.

Ш а ш к е л ь: Той трэці якраз і хоча забіць.

К у ш а л ь: Словам, так. Ужо камэнданцкая гадзіна. У цябе няма менскага пропуску. Заставайся тут, а я еду да Ермачэнкі. Заўтра нараніцы Кубэ будзе папярэджаны.

## С Ц Э Н А  6

(Кабінет Готбэрга. Готбэрг, Штраўх, Шлегель.)

Г о т б э р г: -- Адбылася ўцечка інфармацыі. Вязунчык зноў выкруціўся. Яго папярэдзілі. Мы адсачылі, што ён ад’ехаў з дому, але з паўдарогі вярнуўся. Тым часам нашага афіцэра аднаго забілі, двух паранілі. Усё праехала ў халастую. *(Ходзіць па пакоі, стукае кіем у падлогу.)* Доннэрвэттэр! Спадар Штраўх, адкуль уцечка?

Ш т р а ў х: -- Толькі ад дзікіх варвараў, мяркую.

Г о т б э р г: -- Адкуль?

Ш т р а ў х: -- Ад партызанаў.

Г о т б э р г: -- Спадар Шлегель, якія вынікі назіраньняў за домам Кубэ?

Ш л е г е л ь: -- Заўважана асоба, якая пастаянна імкнецца навязаць кантакты з прыслугай і абслугай гаўляйтара. Адзначана, што яна мае сувязь з партызанамі.

Г о т б э р г: -- Што за асоба?

Ш л е г е л ь: -- Сьцервоза вышэйшай катэгорыі, між іншым.

Г о т б э р г: -- Што за асоба, спадар Шлегель, я вас пытаю?

Ш л е г е л ь: -- Вырабленая супрацоўніца НКВД.

Г о т б э р г: -- Прозьвішча?

Ш л е г е л ь: -- У яе шмат прозьвішчаў. Сапраўднае невядома. Але праўдападобна – Восіпава.

Г о т б э р г: -- Добра. Працягвайце назіраць. Па ўсіх прозьвішчах высьветліць, дзе яе сям'я і якія сваякі ў Менску.

Ш л е г е л ь: -- Так ёсьць. Раблю.

Г о т б э р г: -- Што вы пра гэта думаеце, Шлегель?

Ш т р а ў х: -- Яна хоча ўладкавацца на працу да гаўляйтара.

Ш л е г е л ь: -- Мяркую, што партызаны шукаюць слабое зьвяно ў абслузе дома, каб неяк скарыстаць яго.

Г о т б э р г: -- Выглядае, што так. Ім хочацца выканаць загад Сталіна. Ня будзем перашкаджаць. Актывізуйце нашых людзей у партызанах. Усе працуем па гэтай тэме.

*(Да Штраўха)* Спадар Штраўх, прашу тэрмінова, зараз жа прадставіць мне сьпіс і графік каравула, дзяжурных і аховы СС у Гэбітскамісарыяце і ў доме Кубэ.

Ш т р а ў х: Так ёсьць. *(Выходзіць.)*

Г о т б э р г: -- Готфрыд, ёсьць тонкае даручэньне. Напісаць ліст без подпісу ў Бэрлін спадарыні Аніце Кубэ (Ліндэнколь). Мусіць быць намёк, што Кубэ падазрона сябе паводзіць і што яе прыезд у Менск мог бы направіць становішча. Разумееце сэнс намёку?

Ш л е г е л ь: -- О, так, вядома.

Г о т б э р г: -- Яго трэба пастаянна прывязаць да дому. Гэта складнік посьпеху нашага пляну.

Ш л е г е л ь: -- О, так! Мушу сказаць, паважаны спадар брыгадэнфюрэр, жанчыны – гэта наша ўцеха і асалода, і адначасна наша жыцьцёвая турма. Разумею, усё разумею. Вялікія паэты рэнесансу і ўсіх стыляў апісвалі іх вабноты і захапляліся харством. Жаўнеры на фронце трызьнілі ў акопных снах пад посьвіст куль і разрывы снарадаў, бо жанчына здольная ўлагодзіць сэрца мужчыны, калі яно разрываецца на часткі паміж жарсьцю і абавязкам, і як цар Эдзіп быў здольны ступаць па камяністай зямлі Элады, так і жаўнер гатовы памерці за Райх зь імем жанчыны на вуснах і, як карабель, паплысьці па халодных водах вечнасьці. Жанчына, паважаны спадар брыгадэнфюрэр, -- гэта посуд, амфара, судно ўсялякага...

Г о т б э р г: -- Выконвайце, спадар Шлегель.

Ш л е г е л ь: -- А... Э... ага. Так ёсьць, спадар брыгадэнфюрэр. Раблю.

*(Выходзіць. Готбэрг глядзіць яму ўсьлед.)*

## С Ц Э Н А 7

(Гасьціная заля ў доме Кубэ. Кубэ і Аніта.)

К у б э: -- Аніта, мілая Аніта, як добра, што ты прыехала! Як мне не хапала цябе! Як я люблю цябе! *(Абымае жонку.)*

А н і т а: -- Ах, Вільлі! Мне аж ня верыцца, што мы ўжо разам. Як трывожна было без цябе.

К у б э: -- А хлопчыкі за гэты час так падрасьлі.

А н і т а: -- А мне здаецца такія ж, як і былі. Я рана іх падняла. У самалёце ня спалі, глядзелі ў вокны, а цяпер вось покатам пападалі, як жаўнеры на полі.

Ох, як даўно мы ня бачыліся. Ты, напэўна, зьмяніўся, Вільлі?

К у б э: -- Ты ж бачыш.

А н і т а: -- Ой, ня ведаю, адразу ўсё і ня ўбачыш.

К у б э *(усьміхаецца і глядзіць на жонку.)*: -- Ты такая шчырая і любімая.

А н і т а: -- Ой, ня ведаю, ня ведаю.

К у б э: -- Ня ведаеш? Напэўна, таму, што ты чытала лісты ад кульгавага д'ябла.

А н і т а: -- Якога д'ябла? Я атрымала ананімку. Гэта пісаў д'ябал?

К у б э: -- Я так і ведаў! Я та-а-к і ведаў. Гэта пісаў д'ябал, Аніта. Ты не ўяўляеш, у які гімлерскі гадзюшнік я тут патрапіў. Я маю ўладу, але ня маю забесьпячэньня ўлады. Усім варочае СС. Яны ўсюды бандыты, але тут – гэта мясьнікі, выпарэньне пекла. Яны паляць беларускія вёскі разам зь людзьмі проста так, ад бандыцкай прагі, а жыдоў забіваюць тысячамі, ськідаюць у роў і засыпаюць бульдозерамі. Гэта пекла выйшла з апраметнай. І ведаеш, што яны робяць? Прывозяць сюды нямецкіх жыдоў, ветэранаў 1-й вайны, маіх аднакласьнікаў, і забіваюць натоўпамі.

Я спрабую гэта спыніць, пісаў у Бэрлін, але толькі ўзварушыў гэтую д'ябальшчыну супраць сябе. Але я сумленны чалавек, Аніта. Я не магу глядзець на іхныя пабоішчы і маўчаць.

А н і т а: -- Але ж у цябе ёсьць сябры, заступнікі, наш фюрэр, нарэшце.

К у б э: -- Любая Аніта. На вайне ўсё валіцца дагары нагамі. Ведаеш, на каго я магу найбольш спадзявацца? На беларусаў, якім дапамагаю адбудоўваць нацыю і культуру, зьнішчаную саветамі. Вось нядаўна яны мяне ўратавалі ад сьмерці.

А н і т а: -- Ой, Вільлі, не кажы такога. Я не змагу без цябе. Не хачу нават думаць пра сьмерць.

К у б э: -- Ведаеш, апошнім часам у мяне зьявіліся дрэнныя прадчуваньні. І я падумаў, калі са мной што здарыцца, каб мяне пахавалі на нашых эвангельскіх могілках каля Бэрліна. Ты ведаеш – там, дзе ляжаць мае бацькі. Урэшце, мы пратэстанты. Мы хрысьціяне.

А н і т а: -- Ох, як цяжка такое чуць. Я ўвесь час хачу быць з табой. І пасьля сьмерці таксама.

К у б э: -- Я ня ўпэўнены, як бы цяпер мяне ўспрыняў фюрэр. Я пераглядзеў свае ацэнкі жыдоў, калі ўбачыў, што СС вытварае тут. Я ім кажу, што да жыдоў і беларусаў павінен быць прагматычны падыход, няхай, маўляў, працуюць на Райх, а там вырашым. Але ім гэта не падабаецца. Яны зразумелі, чаму я ім тое кажу. Гэта хітрыя д'яблы.

Я думаю, што нельга забіваць народы. У тым ліку і жыдоў. Усё можна зрабіць інакш і лепш пад кіраўніцтвам Нямеччыны.

А н і т а: -- Божа! Вільлі, цябе замкнуць у канцлягер. Пакінь іх усіх у спакоі.

К у б э: -- Мне цяжка, Аніта. Гэта забойцы з апраметнай. Ты ведаеш, колькі забіў людзей гэтым летам за два з паловай месяцы такі алігафрэн Штраўх? 55 тысячаў! Я напісаў Розэнбэргу.

Я бачу іншую Нямеччыну – не на трупах панішчаных нацый, а на салідарнасьці народаў пад нямецкім першынством і кіраўніцтвам. Гэта магчыма, але не з штраўхамі, готбэргамі ды гімлерамі.

А н і т а: -- Вільлі, змоўкні. Я баюся. Гэта сьмерць. Нельга ісьці супраць Нямеччыны! Гімлер – гэта цяпер Нямеччына.

К у б э: -- А ведаеш, твая праўда. Толькі я адчуваю, што ў Нямеччыне Гімлера мне ня будзе месца.

А н і т а: -- Вільлі, мілы, дарагі мой Вільлі, я так люблю цябе. Мы ўсё пераможам. Хай наша каханьне ўратуе нас. Памятаеш, як нас злучыў кароль Таціла?

К у б э: -- Караля забілі, і здрадзілі паплечнікі. Ён трапіў у бязвыхаднае становішча.

А н і т а: -- Але караля не кахалі так, як я цябе. І ён таксама не кахаў.

К у б э *(узіраецца на Аніту.):* -- Ты верыш у сілу каханьня:

А н і т а: -- Я веру, мілы, веру ў наша каханьне. Ты ж бачыш, у нас будзе ўжо чацьвёрты сын. Ён будзе сумленны, такі, як ты. Мы ўсё пераможам. Вось паглядзеш. Нашыя анёлы над намі нам дапамогуць і нас зьберагуць.

К у б э: -- Якое шчасьце, што мы разам, любая, якое шчасьце! Ты ня думай, што я тут спалохаўся і рукі апусьціў. Проста я хацеў усё табе расказаць па праўдзе, каб ты ведала і разумела. У нас так заўсёды было. Ты мой надзейны сябра, Аніта. Ты ведаеш.

Ого! Мы яшчэ пазмагаемся і пераможам! Далёка ім да Вільгельма Кубэ.

## **С Ц Э Н А 8**

(Кабінэт Готбэрга. Матыльда, Готбэрг, Шлегель, потым Штраўх.)

М а т ы л ь д а *(у дзьвярах)*: -- Готфрыд Шлегель.

Г о т б э р г: -- Запрашаю.

Ш л е г е л ь: -- Спадар брыгадэнфюрэр, Аніта Кубэ (Ліндэнколь) ужо ў Менску. Прыехала зь дзецьмі.

Г о т б э р г: -- Выдатна. Вам падзяка.

Ш л е г е л ь: -- Гайль Гітлер!

М а т ы л ь д а *(у дзьвярах)*: -- Доктар Штраўх.

Г о т б э р г: -- Запрашаю. *(Шлегелю)* Застаньцеся.

Ш т р а ў х: -- Гайль Гітлер! Вось апошнія матар'ялы ад агента Ліндзы *(падае лісткі)*.

Г о т б э р г: -- Што гэта?

Ш т р а ў х: -- Гэта я зрабіў копіі.

Г о т б е р г *(цярпліва):* -- Што ў копіях?

Ш т р а ў х: -- Нядаўна адбыўся зьезд Самапомачы. Выступаў Ермачэнка. Зьезд прыняў праграму-мэмарандум будучай Беларусі ў новай Эўропе. Ермачэнка і Саковіч аформілі гэтую праграму асобным тэкстам і занесьлі гаўляйтару Кубэ. Праграма абвяшчае: асобную беларускую адміністрацыю, беларускае войска, беларускую паліцыю, беларускае школьніцтва, беларускую мову ў адміністрацыйным і грамадзкім ужытку, надзел людзей зямлёй і самакіраваньне. Тут копія тэксту праграмы.

Лічу: Самапомач трэба ліквідаваць, завадатараў арыштаваць, Кубэ – у канцлягер, Ермачэнку і Саковіча расстраляць.

Г о т б э р г *(Моршчыцца і маўчыць.):* -- Копію пакіньце. *(Шлегелю)* Спадар Шлегель, вы знаёмыя з гэтым дакумантам?

Ш л е г е л ь: -- Так, знаёмы. Ермачэнка – галоўная практычная фігура ў беларускім актыве. Гэта, фактычна, прэм'ер-міністар.

Г о т б э р г *(Штраўху)*: -- Прыняць рашэньне аб арышце Ермачэнкі. Толькі Ермачэнкі.

Ш т р а ў х: -- Так ёсьць! Заўтра будзе загад.

Г о т б э р г *(Да Шлегеля):* -- Якія вынікі назіраньня за домам Кубэ?

Ш л е г е л ь: -- Усё адбываецца так, як вы прадбачылі, спадар брыгадэнфюрэр. Восіпава сканцэнтравалася на адной асобе прыбіральшчыцы, якую нядаўна ўзялі на працу. Апошнім часам заўважана, што яна знаходзіцца ў разгубленым і вельмі прыгнечаным стане, выраз твару спалоханы. Мяркую, што яе зламалі, застрашылі забойствам, калі ня зробіць. Ёсьць толькі адна супярэчнасьць у гэтай вэрсіі. Прыбіральшчыца ня мае длступу ў кабінэт і спальню Кубэ. Ёй не дазволена там прыбіраць. Гэта робіць іншая асоба. Парадак кантралюе наша ахова.

Г о т б э р г: -- Калі можа адбыцца перадача механізму?

Ш л е г е л ь: -- Цяпер – у любы час.

Г о т б э р г: -- Як прозьвішча прыбіральшчыцы?

Ш л е г е л ь: -- Галіна Мазанік. “Фраў грос Галіна” называюць яе ў доме Кубэ.

Г о т б э р г: -- Спадар Штраўх, з сёньняшняга дня паставіць надзейных людзей на пропуск у дом Кубэ і на нагляд за пакоямі. Асаблівая інструкцыя агентуры. Прыбіральшчыцу “фраў грос Галіна” правяраць фармальна і не затрымліваць, нават пры наяўнасьці падазроных прадметаў.

Пры заўважэньні яе ў кабінэце альбо ў спальні абмежавацца вымовай і папярэджаньнем, але не затрымліваць і не правяраць. Гэта загад.

Кожны дзень агентура мусіць вам даваць справаздачу аб падзеях дня. Пра выключныя назіраньні інфармаваць мяне.

Ш т р а ў х: -- Так ёсьць!

*(Штраўх і Шлегель выходзяць.)*

## С Ц Э Н А 9

(Кабінэт Ермачэнкі ў Самапомачы. Зося, Ермачэнка, потым Шлегель і Саковіч.)

З о с я *(у дзьвярах):* -- Шлегель прышоў.

Е р м а ч э н к а: -- Запрашаю.

Ш л е г е л ь: -- Паважаны спадар Іван, вы мне сябра.

Е р м а ч э н к а *(крыху зьдзіўлены)*: -- Я думаю, што вы мне таксама сябра, спадар Готфрыд.

Ш л е г е л ь: -- О, так, спадару Іване! Так ёсьць. Колькі мы з вамі паезьдзілі, рыбы палавілі, гарэлкі пакаштавалі! А дзяўчаткі! Ох, якія дзяўчаткі, якія маладзіцы ў Беларусі! Глядзіш – не наглядзішся. А памятаеце Хвядору з Казючыкаў, а? Як яна сьпявала! Які голас! Які голас, Іван! Якія цыцкі! Лёрэляй! Слухаеш – не наслухаешся. Глядзіш – вачэй не адвядзеш.

Прыгожая жанчына, я вам скажу, -- гэта дасканаласьць чалавецтва. У ёй хаваецца таямніца і сэнс прыроды, як Венэра, што нарадзілася з ракавіны марской у капусным лісьце. І вось сьвежае паветра сонечнай Эубеі пранікае ў наш арганізм і напаўняе фібры душы, як амбра са стала цара Саламона. І

песьню песьняў сьпяваем мы, грэшныя спадарожнікі дачаснага нашага быту і палітычнае барацьбы.

Е р м а ч э н к а: -- Готфрыд, прашу цябе, ня трэба пра палітыку.

Ш л е г е л ь: -- Палітыка, паважаны спадару Іване, па цяперашнім часе ёсьць вялікая сьцерва, на якую мы наканаваны глядзець кожны са свайго дрэва, тады калі за дрэвамі лесу ня бачна. Але ж я ваш сябра ёсьць і, як вы заўважылі, да вас, беларусаў, не варожы. Дык вось такая суровая проза, пра якую я не магу не казаць. Будзе загад заўтра вас арыштаваць. Вас чакае канцлягер альбо расстрэл. Мне гэта непрыемна.

Е р м а ч э н к а: -- Та-ак *(паўза)*. Мушу тэрмінова выехаць.

Ш л е г е л ь: -- Пропуск на выезд за мяжу Генэральнай акругі выдае і ўзгадняе СД.

Е р м а ч э н к а *(глядзіць на Шлегеля)*: -- Слухайце, Готфрыд, вы ведаеце, што я багаты чалавек.

Ш л е г е л ь: -- Так, ведаю. І пры гэтым вы шчодры чалавек.

Е р м а ч э н к а: -- Калі б я вас папрасіў гэтую справу ўладзіць і каго трэба ўзнагародзіць, ці пагадзіліся б вы?

Ш л е г е л ь: -- Тут рызыка, спадар Іван, але зраблю.

Е р м а ч э н к а (*дастае з сэйфу дзьве пачкі купюр)*: -- Тут вельмі шмат. Скарыстайце ўдала. Пропуск патрэбен сёньня.

Ш л е г е л ь: -- Прыйду вечарам. *(Выходзіць)*

Е р м а ч э н к а *(адзін сам сабе)*: -- “І песьню песьняў сьпяваем мы, грэшныя"... – ты лапчывы сквапны хітры бош.

З о с я *(у дзьвярах)*: -- Саковіч прышоў.

Е р м а ч э н к а: -- Запрашаю.

С а к о в і ч: -- Добры дзень. Забілі Казлоўскага. Проста ў рэдакцыі. Цяпер там усе ў страху, і Кубэ забірае рэдакцыю ў Генэральны камісарыят.

Е р м а ч э н к а: -- Хто забіў?

С а к о в і ч: -- Ськідваюць на партызанаў, але падобна, што немцы праз падстаўных.

Е р м а ч э н к а: -- Гучаць стрэлы, і падаюць толькі беларусы. Немцы забіваюць рукамі рускіх, рускія – рукамі немцаў. “Шермерка” паміж СД і НКВД. Мы як на чыстым полі, якое прастрэльваецца з усіх бакоў.

Юльян, аддадзены загад СД мяне арыштаваць. Канцлягер альбо расстрэл. Заўтра рана зьязджаю ў Прагу, калі ўдасца.

Наступнае. Трэба трымаць Самапомач. Будуць сыпаць. Падтрымка толькі ў Кубэ. Таксама трымайце СБМ. Туды СД пакуль што ня лезе.

І яшчэ важнае для цябе. Будзь асьцярожны на выяздах. Скарыстаюць рускіх, латышоў, палякаў, украінцаў, каго хочаш – наштампавалі, -- але самы ня будуць. Тактыка. Пра гэта ж папярэдзь Іваноўскага.

С а к о в і ч: -- Вось табе і на. Родзька казаў праўду.

Е р м а ч э н к а: -- Усё, Юльян, бывай. Я мушу сабрацца.

С а к о в і ч: -- Да пабачэньня. *(Выходзіць)*

## С Ц Э Н А 10

(Памяшканьне музэю. Пасярэдзіне стаіць Антановіч і ўглядаецца ў вокны. На вуліцы чуваць стрэлы. Пасьпешна заходзяць устрывожаныя Натальля Арсеньнева і Мікола Караленка.)

А р с е н ь н е в а: -- Добры дзень, спадар Антановіч. Што гэта робіцца? На вуліцы немцы страляюць па людзях.

К а р а л е н к а: -- Перада мной забілі мужчыну. Стрэлілі з машыны.

А р с е н ь н е в а: -- Гэбітскамісарыят ачэплены. Нікога не пускаюць. У рэдакцыю не зайсьці. Мы кінуліся да вас, каб схавацца. Нічога не разумею. Страляюць і ўсё.

А н т а н о в і ч: -- Я тут з раніцы. На працу ніхто не прыйшоў. Тут я і вартаўнік.

А р с е н ь н е в а: -- Адыйдзем ад вокнаў. Як бы ў музэй ні пачалі страляць.

*(Адчыняюцца дзьверы, уваходзіць Шлегель.)*

Ш л е г е л ь: -- Спадарства, страшнае паведамленьне. Ноччу партызанскія бандыты забілі гаўляйтара Вільгельма Кубэ.

*(Усклікі: “Як!” “Божа!” “О, бяда!”. Замяшаньне.)*

А р с е н ь н е в а: -- Спадар Шлегель, чаму жаўнеры страляюць па людзях на вуліцы?

Ш л е г е л ь: -- Гэта помста за забойства гаўляйтара.

А р с е н ь н е в а: -- Помста каму?

Ш л е г е л ь: -- Усім, спадарыня Арсеньнева. Нямецкі парадак ня мусіць парушацца. Мы не даруем забойства нямецкай адміністрацыі. І прасіў бы вас думаць, што вы гаворыце. Мы памятаем вашыя юдафільскія вершы.

*(Шлегель, задраўшы галаву, пакруціўся па памяшканьні, зазірнуў у суседнія дзьверы і моўчкі выйшаў.)*

## С Ц Э Н А  11

(Праз дзень пасьля забойства Кубэ. Кабінэт Готбэрга. Готбэрг, Штраўх, Шлегель,  потым Аніта Кубэ і ад’ютант Кубэ Карл Вільдэнштайн.)

Г о т б э р г: -- Паведаміце абставіны.

Ш т р а ў х: -- Міна выбухнула. Кубэ не існуе. Яго жонка на дзявятым месяцы цяжарнасьці жывая, але ў стане нэрвовага завалу. Грос-Галіне далі магчымасьць уцячы да партызанаў. Учора я аддаў загад страляць у горадзе ўсіх мясцовых без разбору ў знак помсты. Павінна быць забіта дзьве тысячы тубыльцаў. На сёньня забіта дзьвесьце.

*(Уваходзіць Матыльда.)*

М а т ы л ь д а: -- Удава Аніта Кубэ і ад’ютант Карл Вельдэнштайн.

Г о т б э р г *(пасьля роздуму)*: -- Запрашаю.

А н і т а  К у б э *(Яна ў шырокай жалобнай сукні, якая скрывае цяжарнасьць. На галаве чорны капялюшык. Чорная вуаль.):* -- Спадар фон Готбэрг, мая размова будзе мець канфідэнцыйны характар.
*(Готбэрг паглядзеў на Штраўха і Шлегеля. Яны выходзяць. Аніта дае знак Вільдэнштайну – той таксама выйшаў.)*

Г о т б э р г: -- Паважаная спадарыня Кубэ, прымеце мае ўзрушаныя спачуваньні. Гэта страшэннае няшчасьце для вас, для нас і ўсёй Нямеччыны. Мае жалобныя пачуцьці з вамі. СС і СД гатовыя дапамагчы вам усімі наяўнымі і магчымымі сродкамі.

А н і т а: -- Гэта вялікае гора. Мой муж загінуў, як салдат. Яго памяць і жалоба павінны быць чыстымі. Прашу вас спыніць расстрэлы мірнага насельніцтва ў знак помсты. Жыхары горада не вінаватыя.

Г о т б э р г: -- Нямецкая адміністрацыя і паліцыя ня могуць паказваць слабасьць перад бандытамі. Пакараньне мусіць быць дзеля застрашэньня. Інакш бандытызм ня спыніцца.

А н і т а: -- У такім разе, спадар генэрал, знайдзіце бандытаў, што забілі майго мужа, і пакарайце іх. Прашу вас не масьціць апошні жалобны шлях майго мужа нявіннай крывёй мірнага насельніцтва. Мой муж ня быў крывавым.

Г о т б э р г: -- Я разумею вашае ўзрушэньне і вашу рэзкасьць. Але, паверце, нават фармальна я не магу тое зрабіць. Загад аддадзены начальнікам СД горада Менска спадаром Штраўхам. Так што трэба зьвяртацца да яго.

А н і т а *(Уражаная пачутым, падыходзіць бліжэй да Готбэрга)*: -- У жалобныя дні я вылятаю ў Бэрлін, дзе будзе пахаваньне майго мужа. Там я буду мець аўдыенцыю ў фюрэра. І, паверце, мне ёсьць што яму сказаць і напісаць пра забойства гаўляйтара Вільгельма Кубэ.*(Паварочваецца і выходзіць.)*

Г о т б э р г *(Ходзіць з кіёчкам па кабінэце. Потым падыходзіць да стала і націскае кнопку. Уваходзіць Матыльда.):* -- Паклікаць спадара Штраўха. *(Уваходзіць Штраўх.)* Спыніць расстрэлы і адмяніць загад.

Ш т р а ў х: -- Спадар брыгадэнфюрэр, мы прадэманструем слабасьць перад тубыльцамі. Як нас ацэніць райхсфюрэр?

Г о т б э р г: -- Ён вас назваў мясьніком. Ці вы забыліся, доктар Штраўх? Спыніць расстрэлы. Гэта загад. І паведаміць аб выкананьні. *(Штраўх моўчкі выходзіць.)*

## С Ц Э Н А 12

(Пакой у музэі. Антановіч, Кушаль, Савёнак, Матусевіч, Барыс Рагуля, Вітушка, Гуцька-Дудзіцкі, Комар, Міхась Рагуля.)

А н т а н о в і ч: -- Сёньня мы сабраліся ўжо невялікай грамадой не ва Управе, а тут, у музэі, з увагі на становішча.

Па даручэньні кіраўніцтва я падрыхтаваў агляд падзеяў і з вашага дазволу пра тое паведамлю. Гаўляйтарам цяпер стаў Готбэрг. Абсалютная ўлада СС. Выбіта, выгнана і вынішчана наша партыйная верхавіна. Нядаўна, як ведаеце, забілі старшыню Управы Вацлава Іваноўскага, перад гэтым забілі Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова, яшчэ раней – ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага (па даносу Акінчыца расстралялі ў Трасьцянцы), выгналі зь Беларусі Ермачэнку, ну, і забілі Кубэ.

Па нашым аналізе і па зьвестках за ўсім відаць рука СД. Сьвежы прыклад. Пасьля забойства Іваноўскага на месца старшыні Управы заступіў спадар Анатоль Комар, які тут прысутнічае. Праз тыдзень яго сакратарка выявіла ў шафе падкладзеную бомбу. Акрамя СД туды ніхто ня мог зайсьці. Забойствы звальваюць на партызан.

Што датычыць нашых арганізацыяў. Пасьля таго, як на месца Кубэ заступіў Готбэрг, палітыка зьмянілася. Самапомач, фактычна, разгромлена. Пакінута толькі яе дапамаговая функцыя. Самаабарона зачынена. Але ў некаторых акругах, дзе прыхільныя камісарыяты, яшчэ дзейнічае. Беларускую школу абкарналі, але яна існуе. Арганізацыю Беларускай Краёвай Абароны прыпынілі, але, я думаю, што дазволяць, бо справы немцаў на ўсходнім фронце кепскія. Мы можам выставіць трыццаць дзевяць батальёнаў. А эскадрон Рагулі (150 коней) ужо створаны ў Наваградку.

Што ў нас існуе і разьвіваецца – гэта Саюз Беларускай Моладзі. Тое вельмі важна.

К у ш а л ь: -- Вялікі энтузіязм. Людзі хочуць у БКА, але немцы баяцца даваць зброю і зацягваюць справу.

В і т у ш к а: -- Што з Акінчыцам?

А н т а н о в і ч: -- Вельмі шкодная дзейнасьць. Прапагандыстаў з гэтай сваёй школы АБВЭРы суне ў нашыя арганізацыі ўсюды, дзе можна. Падтрымлівае Готбэрга.

Б а р ы с  Р а г у л я: -- Мы занадта мяккія. Ён нашых людзей здае, а мы цырымонімся.

К у ш а л ь: -- Тут варта падумаць. Але я мушу сказаць вось што. Ня вешайма носу і не апускайма рук. Беларускае Адраджэньне зрушылася зь месца, і немцы ўжо яго ня спыняць.

Што я бачу наперадзе. Гітлер вайну прайграе. У гэтым становішчы нам вельмі важна стварыць беларускую збройную сілу, бо вайна будзе працягвацца. Паканаўшы Гітлера, вольны сьвет, Амэрыка, Англія, уся вызваленая Эўропа мусяць будуць паканаць бальшавікоў – другога зьвера вайны – Савецкі Саюз. Вось да гэтага мы павінны быць гатовымі, бо, не стварыўшы беларускай сілы, нічога не дасягнем. Воля настане толькі тады, калі, як казаў Каліноўскі, маскаля над намі ня будзе.

К о м а р: -- Спадары, пагаджаемся з усім. Шмат не гаворым, і дзеім далей. *(Усе ўстаюць, разыходзяцца.)*

К у ш а л ь *(Матусевічу)*: -- Алесь, затрымайся.

М а т у с е в і ч: -- Затрымаўся.

К у ш а л ь: -- Падгавары там у атрадзе якую шваль партызанскую, каб яго прыстрэлілі.

М а т у с е в і ч: -- Навошта. Я сам расквітаюся. Зьнішчэньне Гадлеўскага дараваць нельга.

К у ш а л ь: -- Небясьпечна ўсё ж гэта табе.

М а т у с е в і ч: -- Нічога. Масква яшчэ мэдаль дасьць. Уступіць у партыю прапануюць. *(Сьмяецца)*

**С Ц Э Н А 13**

(Кабінэт Готбэрга ў Гэбітскамісарыяце. Готберг, Шлегель.)

Г о т б э р г: -- Бальшавікі на Дняпры. Фюрэр рыхтуе магутны ўдар, які спыніць наступ і перакуліць маскоўскія пляны.

Тым ня менш мы тут мусім ствараць дадатковыя сілы. Беларусы насядаюць, каб быў загад аб стварэньні Краёвай Абароны. Мяне непакоіць энтузіязм. Я ня веру гэтаму народу. Яны сабе на ўме, і невядома яшчэ, як скарыстаюцца той зброяй, якую мы ім дадзім.

Ш л е г е л ь: -- Так, былі непаразуменьні. Галоўнае – яны ня любяць, калі імі камандуюць нямецкія афіцэры. Яны хочуць быць самы па сабе, і мы з гэтым зьмірыліся.

Г о т б э р г: -- Вось гэта мне і не падабаецца. Мы даём ім зброю пад самастойнае кіраваньне. Наш уплыў і кантроль зьнікае.

Ш л е г е л ь: -- Супраць нас яны ня пойдуць. Будуць старацца скарыстаць нас, як і мы іх. Ім галоўнае наша рашэньне і зброя. Афіцэрскі корпус у іх ёсьць. Падрыхтавалі пры нашай дапамозе і галавацяпстве Кубэ.

Г о т б э р г: -- Рашэньне будзе, але зброі яны шмат не атрымаюць.

Ш л е г е л ь: -- Гэта разумна, спадар брыгадэнфюрэр.

Г о т б э р г: -- Ваша задача ведаць, якія ў іх настроі і пляны. Не губляйце час. Скарыстайце вашыя сувязі зь імі. Назірайце.

Ш л е г е л ь: -- Так ёсьць. *(Выходзіць)*

М а т ы л ь д а *(у дзьвярах)*: -- Доктар Штраўх.

Г о т б э р г *(раздражнёна)*: – Обэрштурнбанфюрэр Штраўх.

М а т ы л ь д а: -- Вінаватая. Обэрштурнбанфюрэр Штраўх.

Г о т б э р г: -- Запрашаю.

Ш т р а ў х: -- Спадар брыгадэнфюрэр. Справа надзвычайнага характару. Вось дакумант з аддзелу пропускаў, падпісаны обэрштурмфюрэрам Шульцам, які сьведчыць, што ў той дзень, калі было прынята рашэньне аб арышце Ермачэнкі, яму быў выдадзены пропуск на выезд. Шульц засьведчыў, што Ермачэнка не зьвяртаўся. Пропуск на яго імя быў выдадзены па

патрабаваньні обэрштурмбанфюрэра Шлегеля. Гэта пахне канцлягерам, спадар брыгадэнфюрэр.

Г о т б э р г *(Непранікнёна)*: -- Вы вельмі добры начальнік паліцыі і шчыры немец, доктар Штраўх. За Шлегелем назірайце.

Ш т р а ў х: -- Так ёсьць, спадар брыгадэнфюрэр. *(Выходзіць. Готбэрг глядзіць яму ўсьлед)*

**С Ц Э Н А 14**

(Лета 1944 г. Управа. Кабінэт Комара. Барыс Рагуля, Кушаль, Антановіч, Савёнак, Вітушка, Гуцька- Дудзіцкі, потым Комар.)

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Ну вось, нас ужо няшмат, але ўсе жывыя.

Б а р ы с Р а г у л я: -- Ня жалься. Нас ужо шмат, і яшчэ якія жывыя.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- А хочаце зьдзівіцца? СД арыштавала Шлегеля і заперла ў канцлягер.

А н т а н о в і ч: -- Го, браце! Але мастакі: ужо драпаюць, а яшчэ грызуцца. Праўда, Шлегель нам ня шкодзіў.

К у ш а л ь: -- Дык за гэта ж і ўпяклі, што ня шкодзіў.

*(Уваходзіць Комар)*

К о м а р: -- Панове, сябры. Немцы пачынаюць эвакуацыю. Галоўныя нашы накірункі:

Першы – насельніцтва. Зь Менска ўцякаюць дзясяткі тысячаў. Прытым рускія бамбуюць цягнікі з уцекачамі. Трэба забясьпечыць парадак і ад’езд.

Другі – нашыя ўзброеныя фармаваньні.

Трэці – музэй і культурныя каштоўнасьці.

Г у ц ь к а-Д у дз і ц к і: -- Наконт каштоўнасьцяў. Для каштоўнасьцяў лепш за ўсё, калі яны застаюцца ў Бацькаўшчыне. Вазіць па замежжы – можна страціць і расстрэсьці.

А н т а н о в і ч: -- Трэба вырашыць. Але нагадаю агульнавядомае. Гарантавана захаваць культурныя каштоўнасьці можа толькі дзяржава. Калі дзяржавы няма і краіна акупаваная, і ўлада антынацыянальная, то яна кашоўнасьці зьберагаць ня будзе. У народзе, асабліва ў нацыянальна разбураным, культурныя каштоўнасьці не захоўваюцца. Гэта факт. Вось і вырашайце. Маскалі як прыйдуць – зноў ікону Менскай Божай Маці на дровы кінуць, сьвятыні паўзрываюць і старыну панішчаць, тое, што засталося, -- зглумяць.

К о м а р: -- Пакуйце музэй. Вывозім. Нешта ўратуем.

К у ш а л ь: -- Аддзелы БКА часткова распускаем, часткова вывозім асобнымі групамі. Шлях праз Прусію. Там будзе бачна. У пэрспэктыве трэба будзе пераходзіць да аліянтаў. Бальшыню людзей БКА пакідаем ў Беларусі для партызанскай барацьбы з маскалямі і савецкім рэжымам.

Б а р ы с  Р а г у л я: -- Эскадрон кіруецца на Прусію праз Вільню. Коней пакідаем. Палову эскадрона распускаем. Такая рэальнасьць.

К о м а р: -- Адміністрацыя і Управа выязджаюць апошнімі.

## С Ц Э Н А  15

(Менск. Пляц Волі. Барыс Рагуля, Міхась Рагуля, Міхась Вітушка, жаўнеры эскадрона Рагулі шчыльным натоўпам стаяць абняўшыся пасярод разбуранага пляцу.)

Б а р ы с  Р а г у л я: -- Вось, хлопцы, мы тут тыя, хто ад’язджае на вайну змагацца за Беларусь. Наш плян зразумелы. Мы далучаемся да тых, хто, паканаўшы гітлерцаў, будзе біць маскоўскіх бальшавікоў. Мы на пляцы Волі. Углядайцеся ў гэты наш горад Менск. Мы мусім сюды вярнуцца.

1-ы  ж а ў н е р: --Прыйдзе́ вясна, распусьцяцца бярозы – мы вернемся дамоў.

2-і  ж а ў н е р: -- Мы вернемся.

3-ці  ж а ў н е р: -- Мы вернемся.

В і т у ш к а: -- Наш шлях будзе цяжкі. Але мы ніколі не складзем зброі, пакуль будзе паняволенай Беларусь. Мы вернемся.

М і х а с ь  Р а г у л я: -- Дзе б мы ні апынуліся, мы будзем змагацца пад нашым Бел-Чырвона-Белым Сьцягам. І наша моцная Пагоня хай нам пакажа шлях. Мы вернемся.

В і т у ш к а: -- Якая б небясьпека ні падсьцерагала нас, якія б спакусы і выпрабаваньні, мы – жаўнеры БКА – будзем памятаць: Беларусь перад усім. І калі трэба, пакладзем на яе аўтар нашы жыцьці. Мы вернемся.

Б а р ы с  Р а г у л я: -- Успомнім жа першыя словы нашай прысягі: “Я жаўнер Беларускай Краёвай Абароны, прысягаю на Усемагутнага Бога і жаўнерскі гонар, што буду верна служыць свайму Беларускаму народу”.

Часова разьвітваючыся з радзімай, кажам малітву жаўнера БКА:

У с е  р а з а м:

Беларусь, наша маці-краіна,
Ты з нас моцных зрабіла людзей –
Не загінулі мы і ня згінем
Покуль ты нас наперад вядзеш.

Прысягаем табе мы сягоньня,
Што пакуль хоць адзін з нас жыве,
Нашай слаўнай Літоўскай Пагоні
Мы ня зганьбім, мы ўславім яе!

*(Паўторна):*

Прысягаем табе мы сягоньня,
Што пакуль хоць адзін з нас жыве,
Нашай слаўнай Літоўскай Пагоні
Мы ня зганьбім, мы ўславім яе!

(Заслона. Канец драмы )

*23.XII. 2019.*

## ЗАЎВАГІ І АЗНАЧЭНЬНІ

**Драпцы –** трохзубая гачка для капаньня бульбы.

**Здэйся –** здаецца *(дыялект)*.

**Зеляноўка –** вёска каля Курапатаў. З 1980-х гадоў не існуе. Зьнесена саветамі.

**Доры –** вёска на Валожыншчыне, у якой жыў Франц Кушаль з жонкай (Арсеньневай). У ліпені 1943 г. эсэсаўская айнзацгрупа спаліла тут у  царкве 146 жыхароў, у тым ліку 36 дзяцей.

**БКА –** Беларуская Краёвая Абарона – беларускае войска, створанае ў 1944 годзе пры дазволе немцаў.

**КПЗБ –** Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (1923-1938)

**АБВЭР [Abwehr] –** Ваенная разьведка і контрразьведка Вэрмахта.

**Вэрмахт [Wehrmacht] –** Узброеныя сілы гітлераўскай Нямеччыны.

**Курт фон Готбэрг (1896-1945)** – Камандуючы войскам СС і паліцыі ў Генэральным Камісарыяце Беларусь; брыгадэнфюрэр (генэрал-маёр) СС. У канцы вайны – обэргруппэнфюрэр (генэрал арміі) СС. Ваенны злачынца. 1945 г. – самазабойства.

**Эдуард Штраўх (1906-1955) --** Начальнік паліцыі СД у Менску; оберштурмбанфюрэр (падпалкоўнік) СС. Ваенны злачынца. Сказаны на сьмерць. Звар'яцеў, пазьбегнуў расстрэлу з-за вар'яцтва.

**Альфрэд Розэнбэрг (1893-1946) –** Ідэолаг нацыянал-сацыялізму. У 1940-1945 гг. райхсміністар усходніх акупаваных тэрыторый. Обэргрупэнфюрэр СС. Ваенны злачынца. Павешаны.

**СС [Schutzstaffeln -- Атрады аховы] –** Войска нацыянал-сацыялістычнай партыі. Падпарадкоўвалася асабіста Гітлеру і Гімлеру. У веданьні СС былі канцэнтрацыйныя лягеры і лягеры сьмерці. СС займаліся тэрорам, зьнішчэньнем людзей па расавых і нацыянальных прыкметах, па ідэйных перакананьнях.

**СД --** Паліцыя СС з шырокімі паўнамоцтвамі. Фармальна называлася “Служба бясьпекі райхсфюрэра СС” (Sicherheitsdienst des Reichsfürers SS).

**НКВД –** (Народный Комиссариат Внутренних Дел) – Маскоўска-бальшавіцкая спэцслужба тыпу жандармэрыі, нямецкага СД і Гестапа. Праводзіла рэпрэсіі і генацыд беларусаў у 1930-1940-х гадах. У сфэры адказнасьці НКВД знаходзіліся, практычна, усе вобласьці жыцьця СССР. НКВД займаўся палітычным сыскам, меў права выносіць прысуды ў пазасудовым парадку; у веданьні НКВД была сістэма выкананьня пакараньняў, зьнешняя разьведка, памежныя войскі, вайсковая контрразьведка і інш. Злачынная арганізацыя супраць чалавецтва, зьнішчыла мільёны людзей.

**“Гайль Гітлер!” [Heil Hitler] –** “Слава Гітлеру!” – Нацыстоўскае вітаньне. Абавязвала ўсіх членаў СС. У Вэрмахце не ўжывалася да 23 ліпеня 1944 года. Але на вітаньне члена СС адказ мусіў быць аналягічны. Тым часам нацысты-эсэсаўцы патрабавалі такога вітаньня ад усіх немцаў. За адмову – пакараньне.

**СБМ –** Саюз Беларускай Моладзі; арганізаваны 22 чэрвеня 1943 года (45 тысячаў удзельнікаў).

**“Картуз Бяроза” –** Польскі канцэнтрацыйны лягер у Картуз-Бярозе (Берасьцейская вобласьць). Створаны санацыйнымі ўладамі Польшчы ў 1934 г. для палітычных апанэнтаў – беларускіх і ўкраінскіх нацыянальных змагароў. У лягер зьмяшчалі людзей без суду (рашэньнем паліцыі і адміністрацыі). Па апісаньнях вязьняў і сьведак, гэта быў, відаць, самы страшны канцэнтрацыйны лягер у сьвеце па вычварнасьці катаваньняў і жорсткасьці зьдзекаў над людзьмі.

**“Санацыя” –** (аздараўленьне). Назва палітыкі і паўфашыстоўскага рэжыму у Польшчы, які ўсталяваўся пасьля дзяржаўнага перавароту 1926 г. Юзафа Пілсудзкага. Рэжым праводзіў ”пацыфікацыю” ўкраінцаў і задушэньне беларускага нацыянальна-культурнага руху. Галоўная “фішка” рэжыму – канцлягер у Картуз-Бярозе.

**Остлянд –** Райхскамісарыят, створаны немцамі на акупаваных тэрыторыях Эстоніі, Латвіі, Летувы і часткі Беларусі. Уключаў у сябе “гэбітскамісарыяты” гэтых краін.

**Восіпава –** Марыя Осіпава, агент НКВД СССР. У сакрэтных уліковых дакумантах НКВД СССР і ГРУ ГШ Чырвонай арміі, значылася пад агентурнай клічкай “Чорная” (алобо Марыя “Чорная”). Зрусіфікаваная беларуска. Пасьля вайны працягвала шкодзіць беларускай нацыянальнай справе. Уваходзіла ў склад савецкай дзяржаўнай камісіі па рассьледваньні злачынства ў Курапатах. Выступала супраць прызнаньня расстрэлаў у Курапатах злачынствам НКВД.

**Радаслаў Астроўскі (1887-1976) –** Беларускі палітычны дзеяч 30-х гадоў з супярэчлівымі пазыцыямі. У час 2-й Сусьветнай вайны і нямецкай акупацыі Беларусі стварыў і ўзначальваў беларускія адміністрацыі ў Бранску, Смаленску, Магілёве. У 1944 годзе пры падтрымцы Курта фон Готбэрга пераехаў у Менск. Быў ініцыятарам стварэньня БЦР.

**Галіна Мазанік –** Алена Мазанік, рэальная асоба, якая падклала міну пад Кубэ. Пры саветах і пры немцах увесь час працавала афіцыянткай і прыбіральшчыцай.

**Вінцэнт Гадлеўскі (1888-1942) –** Беларускі рэлігійны нацыянальны дзеяч, ксёндз, сябра Цэнтралі Самапомачы ў 1942 г., галоўны школьны інспэктар пры Генэральным Камісарыяце Беларусь. Адкрыта крытыкаваў нямецкую палітыку ў Беларусі. Расстраляны немцамі ў Трасьцянцы.

**Жыды –** раней прынятая традыцыйная назва габрэйскага народа ў Беларусі, і асабліва ў заходняй Беларусі. У расейскім грамадзтве гэты назоў носіць адмоўны, зьняважлівы сэнс. Расейская акупацыя, і асабліва русіфікацыя, пакінула свой адбітак і ў Беларусі.

У п’есе ўжываецца назоў “жыды”, прыняты ў той час без адмоўнага адценьня сярод беларускай інтэлігенцыі. Пасьля ліквідацыі СССР частка беларускай моладзі і інтэлігенцыі (у тым ліку і габрэйскай) зьвярнулася да традыцыйнага назову “жыды”. Іншая частка, улічваючы русіфікацыю, стала ўжываць напоўзабытую літаратурную форму “габрэі”. Рэшта постсавецкага насельніцтва карыстаецца расейскім тэрмінам “яўрэі”. Тэрміналагічная разнастайнасьць зьвязана з непрыняцьцем расейскага антысемітызму, які меў раней афіцыйныя формы.

**Таціла –** кароль остготаў у 541-552 гг. Аднаіменная п’еса В. Кубэ. У тэатральнай пастаноўцы “Тацілы” акторка Аніта Ліндэнколь

іграла галоўную ролю. Кубэ закахаўся ў Ліндэнколь. Яна стала ягонай жонкай.

**“Шэрмерка”** (*з польскай*) – фехтаваньне, перапалка, спаборніцтва.

**Брыгадэнфюрэр** – генэрал-маёр.

**Обэрштурмбанфюрэр** – падпалкоўнік.

**Оберштурмфюрэр –** обэр-лейтэнант.

**Ахтунг! Фоер! –** Увага! Агонь!

**Шыссэн! Шыссэн! Доннэрвэттэр! –** Страляйце! Страляйце! Каб вас Пярун!

------------

**З Я Н О Н**

# Э В А Н Г Е Л Ь С К І Я  Д З Е І
**(«Ірад», «Хрыстос», «Юда», «Пётра»)**

**П'есы для тэатра і чытаньня**

# І Р А Д

(Маралітэ ў адной дзеі і дзевяці сцэнах для тэатра і чытаньня.
Дзеецца ў Бэтлееме і Ерусаліме)

## ПРАДМОВА

Гэтае маралітэ захоўвае адзнакі жанру, але напісана ў стылі Народнай драмы і Батлейкі. Менавіта там у гісторыі беларускага тэатра была традыцыйна адлюстраваная тэма цара Ірада. П'еса прымеркаваная да сьвята Нараджэньня Хрыстовага і прызначана для прафэсійнага тэатра. Тым ня менш канфэсійная самадзейнасьць пры касьцёлах, цэрквах, малельных дамах ды суполках можа скарыстаць яе, альбо паставіць фрагмэнты п'есы ў межах сваіх магчымасьцяў (напрыклад, сцэны 1, 2, другая частка сцэны 3, сцэны 4 і 5).

Сама тэматыка Нараджэньня Хрыстовага, адлюстраваная на сцэне, мусіла б спрыяць людзям ў асягненьні добрых думак і здаровага разуменьня рэлігійнай гісторыі Хрысьціянства.

*23. 01. 2020. Зянон*

## А С О Б Ы

Ц а р І р а д

М а р ы л я

Я з э п

Г а с п а д а р г а с ь ц і н і ц ы

1-ы в я ш ч у н

2-і в я ш ч у н

3-і в я ш ч у н

С п р а в я д л і в а с ь ц ь (алегорыя; выконваецца мужчынам)

Г і с т о р ы я (алегорыя; выконваецца жанчынай)

1-я б л у д н і ц а

С т р а т э г

С ь в я т а р з Б э т л е е м а

1-ы ж а ў н е р

2-гі ж а ў н е р

3-і ж а ў н е р

4-ы ж а ў н е р

К а т

Д’ я б а л

Д у ш а І р а д а

1-я л і р н і ц а

2-я л і р н і ц а

## С Ц Э Н А 1

(Гасьцініца на ўскраіне Бэтлеема. Язэп, Марыля, гаспадар гасьцініцы)

Я з э п *(стукае ў дзьверы):* -- Гаспадар!

Г а с п а д а р г а с ь ц і н і ц ы *(на парозе)*: -- А каму трэба?

Я з э п: -- Я Язэп з Галілеі з жонкай. Просім начлегу.

Г а с п а д а р г а с ь ц і н і ц ы *(разглядае іх, а потым кажа)*: -- Няма месца ўжо. Нямашка зусім.

Я з э п: -- Нам трэба. Ты ж бачыш. Яна цяжарная.

Г а с п а д а р г а с ь ц і н і ц ы *(разводзіць рукамі):* -- Бачу, але ж нямашка, зусім нямашка. Ці ты ня верыш?

Я з э п: -- Можа, дзе збоку. Ты ж гаспадар.

Г а с п а д а р  г а с ь ц і н і ц ы: -- Ну, дзе там збоку. Няма месца збоку. Я ж табе кажу – нямашка.

Я з э п: -- Ты ж бачыш, што нам трэба.

Г а с п а д а р  г а с ь ц і н і ц ы: -- Ха! Ім трэба. Хіба я супраць? Хіба я ня добры чалавек? Але хай сабе. Я разумны чалавек. Я пускаю цябе, а кабета раджаць пачне. А ў мяне мытнік сьпіць, халера на яго, і таксама кажа, што з жонкай. Ён прачнецца. Уй, гэта ж гвалт! Гэта будзе такі гвалт, а!

Я з э п: -- Дык, можа, мытнік таксама добры чалавек?

Г а с п а д а р  г а с ь ц і н і ц ы: -- Уй! Мытнік? Што ты кажаш?! Дзе ты бачыў, каб мытнік быў добры чалавек? Сьвет прайдзі – такога мытніка не спаткаеш. Ці ты думаеш, што я табе месца шкадую? Ці ты думаеш, што я цябе не разумею?

Я з э п: -- Дык што б ты зрабіў на маім месцы?

Г а с п а д а р  г а с ь ц і н і ц ы: -- Уй! На яго месцы. Ты на сваім месцы, я – на сваім месцы. Яны прыйшлі – ім трэба. Хіба ты думаеш, што такі разумны гаспадар, як я, пакіне іх начаваць пад дзьвярыма. Ён іх не пакіне. Ты чалавек просты і бачу таксама добры, як і я. А во тут побач якраз хлеў стаіць, саломка, ціха,.. дык можна і там схавацца, каб дождж ня капаў ды каб не зладзеі чаго. І шмат я не вазьму – чуць-чуць. Прашу мне верыць. Мы ж разумеем, ну.

Я з э п: -- Ага. *(Адчыняе дзьверы хлява  і заходзіць туды з Марыляй.)*

Г а с п а д а р  г а с ь ц і н і ц ы: -- Чуць-чуць. І нават не маркоцься.

*(Хаваецца ў гасьцініцы.)*

## С Ц Э Н А  2

С п р а в я д л і в а с ь ц ь *(выходзіць на сцэну перад гасьцініцай)*: -- Я Справядлівасьць. Гэта значыць, што я ёсьць найвялікшая

цнота ў Сусьвеце. Тут я назіраю, што адбываецца. Людзі думаюць часам, што ніхто ня бачыць, ня чуе і ня ведае, што яны робяць і што кажуць. Але яны памыляюцца, бо ня вераць у Бога і не шануюць справядлівасьць. Яны ня хочуць разумець, што нічога няма таемнага, каб ня стала яўным.

Ёсьць людзі хітрыя і думаюць, што яны разумныя. Але хітрасьць – гэта ня розум. Хітрасьць – гэта хцівае выкарыстаньне свайго розуму толькі на карысьць сабе і на шкоду іншым.

Я яшчэ буду прыходзіць сюды. (*Ідзе ў глыбіню сцэны прэч. Потым напаўбока паварочваецца і кажа):* -- А хто з вас пусьціў бы Марылю зь Язэпам? *(Выходзіць.)*

С Ц Э Н А 3

(Палац цара Ірада. Ірад сядзіць на высокім раскошным царскім крэсьле. Побач дзьве лірніцы граюць на лірах. 1-ы жаўнер, 2-гі жаўнер, 1-я блудніца.)

І р а д: -- Я цар. Я вялікі цар Ірад. Мяне ўсе баяцца. Тыя, што баяцца, ня ведаюць, як добра быць царом. Я магу ўсё, што захачу.

*(Пляскае ў далоні. Ускокваюць два жаўнеры-стражнікі.)*

1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р *(разам):* -- Мы тут, валадар.

І р а д: -- Паклікаць маю 1-ю блудніцу.

Ж а ў н е р ы (разам): -- Ужо клічам, валадар.

*(Выбягаюць.)*

І р а д: -- Маю дванаццаць блудніц, якія любяць мяне, але 1-я блудніца мне надта да душы і для ўсёй маёй натуральнасьці. Так мяне да яе цягне, што на астатніх адзінаццаць і глядзець не хачу.

1-я б л у д н і ц а *(убягае, прытанцоўваючы і сьмеючыся)*: -- О, сьветазарны цар! О, уладар! О, вялікі цар, найлепшы з усіх цароў! Каб ты ведаў, якое мне шчасьце бачыць цябе! Ох! Ох-ох! Я падаю, мне займае дых ад пачуцьця, што я побач з царом, такім мудрым і найразумнейшым з усіх людзей. Ох! Мне толькі глядзець на цябе – такое шчасьце! А слухаць... О, мне страшна падумаць, страшна наблізіцца да тваёй вялікасьці, якая выпраменьвае сьвятло, такую моц і здароўе!

І р а д: -- Можаш наблізіцца. Я і праўда – вельмі мудры цар, бо люблю праўду. І ніхто так ня ўмее яе шчыра сказаць, як ты. Калі ты гаворыш – сірэны пяюць і душа дрыжыць. Ты дасканаласьць, найпрыгажэйшая з жанчын. А цяпер патанцуй мне, я табе залатыя пацеркі дам.
*(Да лірніцаў)*: -- Гэй, вы! Грайце.

*(Лірніцы граюць на лірах, 1-я блудніца танцуе і сьпявае.)*

Я блудніца ўдалая,
Прыгажэйшая за ўсіх.
Як падскокну, патанцую –
Усіх чыста зачарую.

Маю золата, маністы,
Стан мой гнуткі, як зьмяя,
Аднаму цару належу,
Аж хістаецца зямля.

Я блудніца ўдалая
Тут танцую для цара,
Бо мой цар найлепшы ў сьвеце
І магутны, як гара.

Ножкай дрыгну, пакручуся,
Скокам-бокам павярнуся,
А як лягу на кілім –
Аж дрыжыць Ерусалім.

Ой, ля-ля! Ой, ля-ля!
Аж хістаецца зямля.
Я блудніца ўдалая,
Я хітрушчая зьмяя.

Цар сядзіць – і сонца ўсходзіць.
Цар сказаў – яно заходзіць.
Ой, ля! Ой, ля-ля!
Я танцую для цара.

І р а д: -- О-о! Нябеснае хараство. Твой танец запальвае зьмест маёй душы і ўсяго нутра майго. Я ўзьвялічу цябе гэтак жа, як ты ўзбуджаеш утробу маю. Я зраблю цябе лаўніцай Сангедрына, каб усе бачылі цябе, зайздросьцілі і ведалі, што гэта вялікі цар Ірад трымае такую красу.

1-я б л у д н і ц а: -- О, наймудрэйшы, нічога няма для цябе немагчымага, і я ўжо бачу, як яны ўсе напалохаюцца і закрычаць з свайго малога розуму ды запярэчаць, што жанчына ня можа быць лаўніцай Сангедрына.

І р а д: -- А? Э... Так. Значыцца, гэтак. Я разганю Сангедрын.

1-я б л у д н і ц а: -- А я?

І р а д: -- А ты будзеш Сангедрын. Я так хачу.

1-я б л у д н і ц а: – О-о, наймудрэйшы цар. Няма межаў твайму розуму і хаценьню. Я іх усіх навучу блудзіць, гэтых, на ўсіх падобных, гэтых кніжнікаў ды разумнікаў. Яны забыліся, што толькі цар разумны ёсьць. Я буду моцна і верна служыць найлепшаму з цароў, найразумнейшаму зь людзей.

А гэтыя адзінаццаць няўмек ужо ж лопнуць ад зайздрасьці. Ха-ха-ха! Яны і блудзіць добра ня ўмеюць.Ха-ха-ха!

І р а д: -- А што яны робяць?

1-я б л у д н і ц а: -- Нічога ня робяць.

*(Ірад пляскае ў далоні. Зьяўляюцца два жаўнеры.)*

1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р: -- Мы тут, валадар.

І р а д: -- Паклікаць Стратэга.

1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р: -- Ужо клічам, валадар.

С т р а т э г *(уваходзіць разам з жаўнерамі):* -- Я тут, валадар.

І р а д: -- Што робяць блудніцы, акрамя 1-й блудніцы?

С т р а т э г: -- Нічога ня робяць, валадар. Дурэюць ад нерабленьня.

І р а д: -- Дурэюць?

С т р а т э г: -- Дурэюць бяз толку, валадар.

І р а д: -- Усіх накіраваць на маё поле гарбузы зьбіраць.

С т р а т э г *(жаўнерам):* -- Усіх блудніц, што бяз справы дурэюць, адвесьці ў поле гарбузы зьбіраць. Раз-два!

*(Жаўнеры зьбягаюць.)*

*(Да Ірада):* – О, валадар, паведамляю, я падазроных людзей злавіў.

І р а д: -- Што за людзі?

С т р а т э г: -- Кажуць, што вешчуны з Усходу. Я іх арыштаваў, бо калі хто з Усходу, то альбо злодзей, альбо тацЬ.

І р а д: -- Падаць сюды.

С т р а т э г *(крычыць убок):* -- Падаць сюды вялікаму цару Іраду.

*(Жаўнеры ўводзяць трох вешчуноў.)*

В е ш ч у н ы *(разам):* -- Шануем вялікага цара Ірада.

1-ы  В я ш ч у н: -- Мы радыя бачыць тваю вялікасьць і адчуваць сваю прысутнасьць у тваім палацы.

І р а д: -- Адкуль вы і чаму тут?

1-ы  В я ш ч у н: -- Мы вешчуны з усходняга боку Зямлі, якім дадзена ведаць тое, чаго ня ведаюць людзі.

І р а д: -- І што вы ведаеце?

2-гі  В я ш ч у н: -- У Бэтлееме нядаўна нарадзілася Дзіця, якое потым стане царом юдэйскім і ўсіх людзей на Зямлі. Мы ідзем павітаць Яго і пакланіцца Яму.

І р а д: -- І вы ведаеце, дзе яно ёсьць?

3-ці  В я ш ч у н: -- Мы шукаем Яго.

І р а д: -- Тады слухайце. Ідзеце хутчэй і шукайце. Як знойдзеце, дык вярніцеся да мяне ў Ерусалім і раскажыце, дзе ёсьць тое Дзіця, бо я таксама хачу пайсьці і пакланіцца Яму – цару ўсіх людзей на Зямлі.

1-ы В я ш ч у н: -- Добра, мы так і зробім: вернемся і скажам. Ідзем шукаць.

*(Выходзяць.)*

## С Ц Э НА 4

(Вешчуны выйшлі і стаяць на ганку перад палацам, глядзяць у неба.)

2-гі В я ш ч у н: -- Во, глядзіце, зорка спынілася над адным месцы і ня рухаецца.

3-ці В я ш ч у н: -- Гэта значыць, што там Бэтлеем і там Дзіця.

1-ы В я ш ч у н: -- Мусім туды ісьці.

*(Адыходзяць.)*

## С Ц Э Н А 5

(Хлеў каля гасьцініцы. Марыля і Язэп. У яськлях для каровы на сене ў пялюшках ляжыць Немаўля. Марыля схілілася над ім і сьпявае.)

М а р ы л я: -- Люлі-люлі, прыляцелі гулі,
Крыльцамі махалі,
Пёркі паськідалі.
Хлопчык мой маленькі
Вочкамі міргае,
Спаткі засынае.
Люлі-люлі, спаткі засынае.

*(Грукат у дзьверы.)*

1-ы В я ш ч у н: -- Гэй! А хто ёсьць? Зора над вамі.

Я з э п *(адчыняе дзьверы. Уваходзяць вешчуны.):* -- Якая зора?

3-і В я ш ч у н: -- Зора нябесная, якая сьведчыць, што тут нарадзіўся ад Дзевы цар усіх людзей на Зямлі.

Я з э п: -- Хто вы ёсьць?

2-гі В я ш ч у н: -- Мы вешчуны з усходняга краю Зямлі, прыйшлі пакланіцца Дзіцяці і прынесьлі дары. Вось золата, ладан і сьмірна.

*(Становяцца на калені перад Дзіцяткам і кладуць перад ім свае дары.)*

М а р ы л я: -- Вы добрыя людзі. Бог узнагародзіць вас. Мне ў сьне зьявіўся Архангел і сказаў, каб вы не вярталіся ў Ерусалім да цара Ірада, пакінулі Бэтлеем і пайшлі іншай дарогай.

1-ы Вя ш ч у н: -- Хвала Богу і Дзіцяці, якое тут. Мы выйдзем іншай дарогай.

*(Выходзяць.)*

Я з э п: -- Мы мусім зьбірацца хутчэй, каб ісьці ў Егіпет. Архангел Гаўрыіл зьявіўся мне ў сьне і тое сказаў. Цар Ірад будзе нам пагражаць.

М а р ы л я: -- Рука і воля Госпада над намі.

## С Ц Э Н А 6

(Палац цара Ірада. Ірад, Стратэг, 1-ы жаўнер, 2-гі жаўнер.)

І р а д *(убягае ў залю і сядае ў царскае крэсла. Пляскае ў далоні)*: -- Гэй, там, вы!

1-ы ж а ў н е р і 2-гі ж а ў н е р (*убягаюць у залю. Разам):* -- Мы тут, валадар!

І р а д: -- Паклікаць Стратэга.

1-ы ж а ў н е р і 2-гі ж а ў н е р *(разам):* -- Ідзем клікаць, валадар.

*(Выбягаюць.)*

С т р а т э г *(убягае):* -- Я тут, валадар.

І р а д: -- Дзе вешчуны?

С т р а т э г: -- Зьніклі, валадар.

І р а д: -- Куды зьніклі?

С т р а т э г: -- Уцяклі іншай дарогай.

І р а д: -- Чаму не злавіў?!

С т р а т э г: -- Не было загаду. Абяцалі самы прыйсьці.

І р а д: -- Зараз будзе загад. Дрэнна выканаеш – галава далоў.

С т р а т э г: -- Баюся і дрыжу, і ўсё зраблю.

І р а д: -- Колькі маёй стражы пад тваёй камандай?

С т р а т э г: -- Дзьве тысячы жаўнераў, валадар.

І р а д: -- Усіх паставіць і мне паказаць.

С т р а т э г *(пстрыкае пальцамі):* -- Стража цара, гоп! Роўна стаць, гоп! *(Жаўнеры выстройваюцца.)* Крокам руш, гоп! *(Жаўнеры цугам маршыруюць перад царом бясконцым ланцугом.)* Песьню, гоп!

Ж а ў н е р ы *(сьпяваюць)*: -- Мы жаўнеры за цара,
Пташачка, канарэечка,
Усіх паб’ем! Усіх паб’ем!

Мы жаўнеры за цара,
Сьмелыя, мечаносныя.
Усіх паб’ем! Усіх паб’ем!

Раз-два, раз-два, раз-два!
Усіх паб’ем! Усіх паб’ем! Усіх паб’ем!

І р а д: -- Добра. А цяпер слухай загад: Акружыць горад Бэтлеем! Заняць брамы! Нікога з гораду не выпускаць! Ноччу забіць усіх немаўлят -- ад нараджэньня і да двух год! Паўтарыць загад!

С т р а т э г: -- Акружыць Бэтлеем. Заняць брамы. Нікога не выпускаць. Забіць усіх немаўлят ад нараджэньня да двух гадоў.

І р а д: -- Мяне папярэдзіў астролаг. У Бэтлееме нарадзіўся сын д’ябла, які (калі яго цяпер не забіць) потым зьнішчыць усю Юдэю і юдэйскі народ. Ідзем на ахвяру, каб усім ацалець. *(Кідае Стратэгу мяшэчак з грашыма.)* Гэта серабро. Пасьля працы будзе золата.

С т р а т э г: -- Служу найлепшаму цару!
Стража цара! Гоп!
Роўна стаць! Гоп!
Крокам руш! Гоп!
Раз-два, раз-два, раз-два.
Песьню! Гоп!

*(Жаўнеры сьпяваюць і адыходзяць.)*

Ж а ў н е р ы: -- Мы жаўнеры за цара,
Пташачка, канарэечка.
Усіх паб’ем! Усіх паб’ем!

Мы жаўнеры за цара,
Сьмелыя, мечаносныя.
Усіх паб’ем! Усіх паб’ем!

Раз-два, раз-два, раз-два!
Усіх паб’ём! Усіх паб’ем! Усіх паб’ем!

*(Ірад застаецца адзін, сядае ў царскае крэсла.)*

І р а д *(пляскае ў далоні):* -- Гэй, там, вы!

1-ы ж а ў н е р і 2-гі ж а ў н е р *(убягаюць):* -- Мы тут, валадар.

І р а д: -- Паклікаць 1-ю блудніцу.

1-ы ж а ў н е р і 2-гі ж а ў н е р: -- Ідзем клікаць, валадар.

1-я б л у д н і ц а *(убягае)*: -- Ах, найясьнейшы, найвялікшы валадару, не магу надзівіцца тваёй мудрасьці, глядзеньню наперад і разуменьню ўсяго. Мне так спадабалася, мне так люба быць Сангедрынам з тваёй ласкі і варушэньня. Ах! Кружыцца галава! Сёньня прывялі мне сем блудніц асудзіць на біцьцё камянямі. А я ўзнагародзіла іх гарбузамі і падтрымала. Кажу, блудзіце, колькі можаце. Блуд – гэта так добра, такая ахвота для гэтых людзей. Прышласьць твайго вольнага царства, о сьветазарны і найлепшы валадару, будучыня яго – у блудзе, які ёсьць найлепшай цнотай, і ўсе будуць блудзіць – ад малога да старога па ўсёй зямлі і славіць цябе, наймудрэйшы з цароў, бо толькі блуд уратуе людзей ад маркоты і дурных абавязкаў.

І р а д: -- Маё царства – гэта ёсьць царства маёй волі. І ўсе палюбяць маю волю і адчуюць радасьць гэтак жа, як адчуваю яе я ад тваёй прысутнасьці.

1-я б л у д н і ц а: -- Ах, не кажы так, сьветазарны валадару, бо мне зноў кружыцца галава аж так, што не магу ўжо сабой кіраваць.

*(Стук у дзьверы.)*

І р а д: -- А гэта яшчэ што?!

*(Убягаюць два жаўнеры.)*

1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р: -- О, валадару! Сьвятар з Бэтлеему просіцца тут.

І р а д *(махае рукой 1-й Блудніцы, тая зьнікае):* -- Упусьціце яго.

С ь в я т а р з Б э т л е е м у: -- О, вялікі цар Ірад, я ўдзячны табе, што хочаш мяне пачуць. У Бэтлееме стражай тваёй забітыя ўсе немаўляты. Сабакі цягаюць іхныя целы. Ці вядома пра гэта тваёй царскай вялікасьці?

І р а д: -- Гэта дзікунства. Я загадаю забіць там усіх сабак!

С ь в я т а р з Б э т л е е м у *(уражаны маўчыць, потым кажа)*: -- Я зразумеў. Спыніся, вялікі цар Ірад. Ідзі ў храм Саламона, які ты аднавіў, і маліся, бо будзеш пракляты.

*(Паварочваецца і хоча выйсьці.)*

І р а д: -- Спыніся. *(Пляскае ў далоні.)*

1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р: -- Мы тут, валадар.

І р а д *(жаўнерам):* -- Узяць яго ў цямніцу.

*(Жаўнеры хапаюць сьвятара і цягнуць у цямніцу.)*

С ь в я т а р з Б э т л е е м а *(крычыць):* -- Душа твая ў пекле, Ірад.

І р а д *(пляскае ў далоні):* -- Гэй, там, вы!

3-ці ж а ў н е р, 4-ы ж а ў н е р *(убягаюць)*: --Мы тут, валадар.

І р а д: -- Паклікаць ката.

3-ці ж а ў н е р, 4-ы ж а ў н е р: -- Ідем клікаць ката.

*(Выходзяць.)*

К а т *(уваходзіць):* -- Я прышоў, уладар.

І р а д: -- Сьвятару з Бэтлеема адсекчы галаву.

К а т: -- Іду адсякаць галаву сьвятару з Бэтлеема.

*(Выходзіць. Ірад адзін, сядае ў царскае крэсла і думае.)*

Г і с т о р ы я *(выходзіць на сцэну)*: -- Я ёсьць Гісторыя. Жыцьцё і дзеяньні людзей, замацаваныя ў памяці, -- гэта і ёсьць гісторыя. Людзі імкнуцца ведаць гісторыю, каб мець грунт для свайго быцьця, для цяпершчыны і для будучыні. Але мала хто на гісторыі вучыцца, таму шмат што паўтараецца тое, што ня мусіла б паўтарацца.

*(Выходзіць.)*

С п р а в я д л і в а с ь ц ь: *(слухала, што казала Гісторыя):*-- Я ёсьць Справядлівасьць. *(Выходзіць наперад.)* У гісторыі людзі ацэньваюць іншых людзей па злачынствах і па заслугах перад людзьмі. Але шмат хто цэніць усё ў сваіх інтарэсах, таму з разбойніка могуць зрабіць сьвятога, а з сьвятога – злачынцу. Але справядлівасьць зыходзіць ад Бога і на Боскім судзе кожны атрымае сваё.

*(Выходзіць. Чуваць крыкі і шум за сьценамі.)*

І р а д (*падымае галаву):* -- А што гэта за шум? Хто крычыць? *(Пляскае ў далоні.)*

1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р: -- Мы тут, валадар.

І р а д: -- Хто шуміць? Хто крычыць?

1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р: -- Гэта народ крычыць, валадар.

І р а д: -- Чаго ён крычыць?

1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р: -- Ён злуецца.

І р а д: -- Чаго ён злуецца?

1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р: -- Мы баімся казаць, валадар.

І р а д: -- Ня бойцеся. Ну!

1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р: -- Народ дурны. Ён крычыць на цара, бо нехта пабіў дзяцей у Бэтлееме.

І р а д: -- Гэта Стратэг пабіў. Паклікаць Стратэга.

1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р: -- Клічам Стратэга, валадар.

*(Выбягаюць.)*

С т р а т э г: -- Я тут, валадар.

І р а д: -- Схапіць народ і аддаць пад суд Сангедрына.

С т р а т э г: -- Іду хапаць, валадар.

І р а д *(пляскае ў далоні):* -- Гэй, там, вы!

1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р: -- Мы тут, валадар.

І р а д: -- Паклікаць сюды Сангедрын.

1-ы ж а ў н е р, 2-гі ж а ў н е р: -- Ідзем клікаць Сангедрын.

*(Выходзяць.)*

1-я Б л у д н і ц а *(уваходзіць):* – О, найясьнейшы! О, валадару! Якая радасьць, што ты мяне паклікаў! Я ўся дрыжу ад павагі да цябе і ад нецярпеньня.

І р а д: – Я загадаў арыштаваць народ і аддаць пад суд Сангедрына. Судзіць строга. Усім адсекчы галовы.

1-я Б л у д н і ц а: -- О, так! О, так, наймудрэйшы, найсправядлівейшы валадару! Я ў захапленьні ад твайго разумнага рашэньня. Гэты народ дурны. Ён ня хоча блудзіць. Ён не разумее патрэбы і вялікасьці блуду. Суд будзе скоры і справядлівы. Ах, валадар! Ах, валадар! Ля-ля-ля-ля *(сьпявае і*

*падтанцоўвае).*Як добра стала жыць пад сьветлым яго кіраўніцтвам. Бягу! Бягу, о, найясьнейшы. Бягу судзіць.

*(Выбягае.)*

І р а д: -- Я ім пакажу “злавацца”. Я вялікі ца Ірад! Бойцеся і дрыжыце! *(Ходзіць па залі, раптам спыняецца.)* А хто тут?!

*(У глыбіні палацу ўзьнікае фігура Д’ябла.)*

Д’ я б а л *(моўчкі глядзіць на Ірада, злавесна ўсьміхаючыся):* -- Гэта я, Д’ябал. Настае пара мне спаткацца з табой, Ірад.

І р а д *(спалохана):* -- Чаго ты хочаш? Чаго прыйшоў?

Д’ я б а л: -- Тваё царства скончыцца. Ты будзеш сьцінуты ў пыл і растаптаны натоўпам. Дзіця, якое ты хацеў забіць, жыве, пасталее і стане царом юдэйскім.

І р а д: -- Гэта гора мне, сьмяртэльнае гора! Я – цар. Я – валадар. Я не магу стаць у пыле!

Д’ я б а л: -- Станеш. А потым будзеш забіты.

І р а д: -- Ты што гаворыш! О, гора мне! Я няшчасны. Раптам, за адзін міг я стаў няшчасным, самым няшчасным на сьвеце. Я не магу быць у пыле. Я – цар. Я цар найлепшы, наймацнейшы, найразумнейшы. Я ўладар над усімі. І што – гэтаму стане канец? Не! Не! Не магу! Не хачу! Лепей сьмерць! Сьмерць. Сьмерць? Але ж я жыву. Але ж мусіць быць надзея.

Д’ я б а л: -- Ты шукаеш выхаду?

І р а д *(утрапёна глядзіць на Д’ябла):* -- І што? Што?

Д’ я б а л *(пасьміхаецца):* -- Хто шукае, той можа знайсьці.

І р а д: -- І што? Дзе выхад?

Д’ я б а л *(набліжаецца да Ірада)*: -- Вось скура, вырабленая з чорнага казла.

І р а д: -- І што?

Д’ я б а л: -- Бяры стыло. Пішы сваёй крывёй.

І р а д: -- Што?

Д’ я б а л: -- Пішы: “Я, Ірад, аддаю душу д’яблу”. Застанешся царом. Я -- Д’ябал, валадар гэтага сьвету.

І р а д *(у трансе, апантана глядзіць на Д’ябла):* -- Я застануся царом? Я застануся? Я буду?

Д’ я б а л: -- Будзеш.

І р а д *(хапае скуру, стыло, разразае нажом руку і піша крывёй):* -- Напісаў. Я – цар. Я – цар.

*(Д’ябал бярэ скуру і ціха зьнікае. Ірад узбуджана бегае па сьвятліцы.)*

І р а д: -- Я – цар. Я – цар.

*(Стомлена падыходзіць да царскага крэсла, падае ў яго і засынае.)*

## С Ц Э Н А 7

С п р а в я д л і в а с ь ц ь *(выходзіць павольна праз усю залю. Спыняецца і гаворыць.):* -- З усіх жарсьцяў людзкіх самая згубная жарсьць ёсьць прага ўлады над людзьмі. Ні прага славы, ні зайздрасьць, ні блуд, ні абжорства, ні прагнасьць, на карты, ні “эго” – нішто не разбурыць душу так, як уладалюбства і цяга да ўлады. Той, кім валодае гэтая жарсьць, каб мець уладу і ня страціць яе, той ня спыніцца ні перад чым. Ён здольны прадаць за яе свайго бацьку і матку, дзяцей і сяброў, краіну і веру, і ўвесь народ, і, не задумваючыся, -- нават сваю душу.

Г і с т о р ы я *(уваходзіць і слухае, што кажа Справядлівасьць):* -- Гэта праўда. Я, Гісторыя, сьведчу, што ўсё так. Людзі, апантаныя жарсьцю ўлады над людзьмі, твораць шмат зла. Яны заўсёды былі, ёсьць і будуць. Трэба асьцерагацца такіх людзей, каб не залезьлі яны на верх гісторыі, каб ня селі на галаву народу, каб ні захапілі краіну. *(Чуваць шум і крыкі.)* -- О, чую крыкі і шум. Пачынаецца працяг бясконцага злачынства.

С п р а в я д л і в а с ь ц ь: -- Гэта так. Праўду сьведчыць Гісторыя. Злачынства бясконцае. Першае злачынства цягне за

сабой другое, потым – трэцяе -- і так без перапынку. Злачынства ўжо ня можа спыніцца. Гэта ёсьць дарога д'ябла. Бойцеся першага злачынства, бо яно пацягне другое. Калі ж яно ўжо сталася, то толькі пакаяньне і прызнаньне віны можа ўратаваць чалавека і адвярнуць з дарогі зьнішчэньня. Інакш морд душы атрымае. *(Паказвае на сьпячага ў крэсьле Ірада.)* -- Паглядзіце, што ён ужо натварыў і зараз убачыце яшчэ, што зь ім будзе.

*(Выходзіць усьлед за Гісторыяй. Шум і крыкі павялічваюцца.)*

## С Ц Э Н А 8

(У палац урываецца раззлаваны Стратэг з жаўнерамі. Усьлед за імі ўбягае 1-я Блудніца.)

С т р а т э г: -- Во, гляньце! А ён тут яшчэ сьпіць, як кот зладзейскі.

І р а д *(прачынаецца):* -- Тут што за шум!? Хто цябе клікаў? Ты без дазволу як сьмеў зайсьці?

С т р а т э г: -- А ты нам надакучыў! Народ во з намі. *(Чуваць крыкі за вокнамі.)* І мы яму галовы не адсеклі, каб ты іх потым нам паадсякаў.

1-я б л у д н і ц а: -- Так! Так! І суд наш справядлівы. Народ наш падтрымае блуд.

І р а д *(уражаны)*: -- І ты, блудніца?

1-я Б л у д н і ц а: -- Стратэг, сьпяшайся, а то ён уцячэ!

С т р а т э г: -- Памры, забойца!

*(Кідаецца на Ірада зь мячом і працінае яго наскрозь.)*

1-я б л у д н і ц а: -- Ай, Стратэг! Ай, ды Стратэг! Які ты моцны, які ты сьмелы, які прыгожы, які разумны! Я ўся дрыжу ад захапленьня. Ты – цар! Ты цар! *(Падскокваючы і падтанцоўваючы, ляціць да вокнаў).* – Гэй, вы! Крычыце там! Крычыце!

*(Чуваць крыкі:* “Цар! Цар! Цар! Стратэга на цара!*)*

С т р а т э г *(кідаецца ў царскае крэсла)*: -- Гы-гы-гы! Я – цар! Гы-гы-гы-гы! Я цар!

1-я  б л у д н і ц а *(кідаецца да Стратэга)*: -- Ты цар! Ты цар! Ты такі моцны цар, якіх яшчэ не было на сьвеце. Ты дасканалы цар! Я ўся дрыжу ад тваёй велічы. Жаўнеры, крычыце, што ён цар!

Ж а ў н е ры *(крычаць):* -- Цар! Цар! Цар!

1-я б л у д н і ц а *(кружыцца вакол Стратэга, рагоча і падтанцоўвае):* -- О, цар! Якое шчасьце, якая радасьць для народа і царства! Цяпер блуд стане свабодным. Ну, скажы, скажы жаўнерам, што цяпер яны могуць блудзіць колькі хочуць, а то я лопну ад нецярпеньня. Настае новая эра – вольны народ, вольная ўлада, дасканалы цар і вольны блуд. *(Танцуе і сьпявае.)*

Я блудніца ўдалая
Увесь сьвет спакушу,
Усіх блудам абкружу.
Ой, ля-ля! Ой, ля-ля!
Я, блудніца, за цара.

Усе блудзяць таямніча,
Ва ўсіх посныя абліччы.
Я свабоду аб’яўляю,
Блудам волю адчыняю.
Ой, ля-ля! Ой, ля-ля!
Я блудніца за цара.

– Ах, мне кружыцца галава. Гэта такі цар, такі цар, якіх сьвет ня бачыў. А мы маем яго тут і будзем слухаць ягоных мудрасьцяў, што б ён ні выказаў, чаго б ні сказаў у буйным розуме сваім.

С т р а т э г: -- Гы-гы-гы-гы! Я цар. А гэты во... *(паказвае жаўнерам на мёртвага Ірада).* Вывалачыце яго і кіньце пад ногі ў пыл, хай сабакі цягаюць. Усім даю з царскага скарбу срэбрам па трыццаць сікляў.

Ж а ў н е ры *(крычаць):* -- Цар! Цар! Слава цару!

*(Валакуць цела Ірада прэч.)*

1-я б л у д н і ц а: -- Ну, вось, глядзіце, разумны, моцны, сьмелы цар навёў парадак у гаспадарстве. На такіх, як ты, вялікіх,

трымаецца Зямля. Але пайшлі, пайшлі. Я бачу, ты хочаш хутчэй кіраваць царствам, а я, блудніца, гатовая дапамагаць табе ва ўсім і рабіць усё, што ты пажадаеш, бо ты ёсьць вялі кі і магутны, дужы цар.

*(Выходзяць убок.)*

## С Ц Э Н А 9

(Палац Ірада напаўняецца сінім містычным сьвятлом. Павольна зьяўляецца Душа Ірада. Яна стаіць пасярэдзіне, задуменна глядзіць перад сабой. Яна на "тым сьвеце".)

Д у ш а І р а д а: -- Я тут, і ніхто з жыцьця мяне ня бачыць. Але я тут, на тым сьвеце, бачу ўсё, што там, дзе жыў, дзе быў царом. *(Углядаецца перад сабой.)* А хто тут ёсьць? Хто тут?

Д' я б а л: -- Гэта я. Чакаю цябе.

Д у ш а І р а д а: -- Хто ты?

Д' я б а л: -- Д'ябал.

Д у ш а І р а д а: -- Ты ашукаў мяне, падлюга. Я забіты.

Д' я б а л: -- Ты ашукаўся сам.

Д у ш а І р а д а: -- Ты абяцаў мне, што буду цараваць. Душу табе аддаў за царства. А ты – нікчэмная істота. Ты нізкі хлус. Мо' ты ня д'ябал, а чорт каравы, што гадзіць заўсягды. Ты гонару ня маеш, хоць вядома, што Сатана зьвіхнуўся на гардыні. Дзе яна, твая гардыня! Нікчэмнасьць ты, ня д'ябал!

Д' я б а л *(рагоча):* -- Ты цёмны, Ірад. Ты ня ведаў, што найвялікшай чорнай цнотай д'ябла ёсьць ілжа. Д'ябал лжэ. Д'ябал хлусіць. У няпраўдзе яго сіла. Ілжа – мой гонар. Разумны д'яблу не паверыць. А ты паверыў. Дурны ты, Ірад. І царом ты быў дурным, і неразумным, і ня мудрым. Ты апантаны быў уладай, ды не разумеў яе істоты. Ты быў рабом сваіх спакус. Цяпер ты ёсьць маім рабом навечна. Ідзі туды.

*(Паказвае на чорныя дзьверы бяз клямкі, бяз ручкі, без замка.)*

Д у ш а І р а д а: -- Там што?

Д’ я б а л: -- Пекла. *(Маўчаньне.)* Сам пойдзеш, ці завесьці?

*(Махае рукой, зьяўляюцца шэсьць чарцей, па тры з кожнага боку дзьвярэй. Д’ябал зноў махае рукой. Чэрці зьнікаюць.)*

Д у ш а  І р а д а: -- Гора мне. Позна. Я дарма пражыў жыцьцё. Тут зразумеў. Але тут не жыцьцё. Позна. І цяпер нават словы свае ня маю каму казаць. Ня д’яблу ж пра ўсё гаварыць. Позна. Наканавана. Разумею. Дарогі назад няма. Калі б была, можа б сталася ўсё інакш. Але позна.

*(З размаху штурхае нагой чорныя дзьверы. За дзьвярыма чорная халодная цемра. Душа Ірада ступае за парог і паволі ідзе, аддаляецца, пакуль постаць яе ні зьнікае, ні раствараецца ў цемнаце. Доўгая паўза. Запальваецца белае сьвятло. Зьяўляецца Гісторыя і Справядлівасьць.)*

Г і с т о р ы я: -- Вось такая гісторыя Ірада паказана ў нашым маралітэ, якая вельмі падобная на сапраўдную.

С п р а в я д л і в а с ь ц ь: -- Найвялікшай каштоўнасьцю і найвышэйшай цнотай ёсьць Справядлівасьць, бо Бог справядлівы. А мне дык шкода загубленай душы Ірада. Шкода, бо жаль ёсьць найвялікшая любоў, што зыходзіць ад Бога. Хто ведае, можа, Бог даруе яму па ўплыве вечнасьці. Ён жа чуў яго словы. Але шляхі Божыя невытлумачальныя родам людзкім.
Пакуль жывем, памятайма пра вечнасьць.

К А Н Е Ц

*23. 01. 2020.   Зянон*

## З А Ц Е М К І

| | |
|---|---|
| М ы т н і к | Зборшчык падаткаў |
| С т р а т э г | Галоўнакамандуючы войскам у антычным сьвеце |
| С а н г е д р ы н | Юдэйскі суд |
| Т а ц ь | Разбойнік, бандыт |

| | |
|---|---|
| С і к л ь | Юдэйская манета вагой 11,4 г. золата альбо срэбра |
| Л а д а н | Араматычны алей з ладанавага дрэва (басвеліі) з лекавымі ўласьцівасьцямі |
| С ь м і р н а | Араматычная смала з мірравага дрэва (Мірра) з рэзкім пахам і лекавымі ўласьцівасьцямі |

# ХРЫСТОС

(Міракль у 1-й дзеі і 3-х сцэнах для тэатра і чытаньня)

## АСОБЫ

Ісус Хрыстос

*Вучні Хрыста:*

Пётра-Сымон

Андрэй (брат Пётры )

Якуб Зэвядзееў

Ян (брат Якуба)

Піліп

Барталамей

Тамаш

Якуб Алфееў

Ляўвей-Тадэй

Сымон Кананіт

Юда Іскарыёт

Мацьвей

1-ы кніжнік

2-гі кніжнік

Дз я ў ч ы н а, дачка мытніка

Ж а н ч ы н а

С ь л я п ы

П а в а д ы р с ь л я п о г а

Л ю дз і ў д о м е м ы т н і к а і н а в о к а л Х р ы с т а

## С Ц Э Н А 1

Х р ы с т о с *(на гары адзін сядзіць на камені):* -- Чалавек мусіць быць сярод людзей, бо толькі тады ён можа пазнаць дабро і ўбачыць зло.

Але заўсёды трэба мець магчымасьць пабыць аднаму, каб адчуць Бога. Я бачу, сюды ідуць спадарожнікі мае і вучні мае.

*(Уваходзяць вучні Хрыста.)*

П ё т р а: -- Госпадзе, як мы радыя бачыць Цябе!

Х р ы с т о с: -- Я падвойна рады бачыць вас усіх. Што на сэрцы ў вас сёньня? Ці добра вам тут?

А н д рэ й: -- Нам добра, Настаўнік, там, дзе Ты. Хочам ведаць. Вось Царства Нябеснае ёсьць. Але хто патрапіць туды? Што трэба рабіць?

Я к у б: -- Ага. Ёсьць жа людзі сьмелыя і баязьлівыя, багатыя і бедныя. Усе розныя.

Х р ы с т о с: -- А як ты думаеш, Якубе, ці можа сьмелы дасягнуць Царства Нябеснага, калі ён веры ня мае?

Вера – гэта ёсьць яднаньне з Богам. А калі няма такога яднаньня, то куды ён патрапіць? Ён жа нічога ня ведае.

Ізноў жа, багаты. Шмат хто хоча стаць багатым і зьбірае тут скарб свой: грошы, зямлю, быдла, будуе харомы. І як ты думаеш, Якубе, калі ён створыць сабе такі скарб на Зямлі, то дзе будзе сэрца яго? А будзе яно там, дзе скарб ягоны. Тут, на Зямлі.

Стварайце скарбы свае на Небе, у вечнасьці з Богам – тады там будзе і сэрца ваша.

Б а р т а л а м е й: -- Госпадзе, калі багаты чалавек будзе жыць па запаведзях і рабіць дабро, то ці насьледуе ён Царства Нябеснае?

Х р ы с т о с: -- Ніякая добрая справа людзкая не змарнуецца ў Госпада, і ўсё залічыцца. Але цяжка ўсядзець на двух крэслах, плысьці на двух лодках, служыць двум гаспадарам. Мусіць быць выбар! Найцяжэй зрабіць выбар багатаму. Таму ведайце, што багацьце ёсьць вялікае выпрабаваньне для духа і душы чалавека, і мала хто яго вытрымлівае. Лягчэй вярблюду прайсьці праз вушка іголкі, чым багатаму трапіць у Рай. Толькі выбраныя трапяць туды. Але кожны – можа, хто паверыць, захоча і сэрца сваё аддасьць.

*Падыходзяць два кніжнікі слухаць, што кажа Хрыстос і потым гавораць паміж сабой, стоячы наперадзе збоку і наводдаль ад Хрыста і вучняў. Вучні тым часам частуюць Хрыста садавінай, якую прынесьлі з сабой і самы частуюцца.)*

1-ы к н і ж н і к: -- Ён кажа, што багатыя не патрэбныя Богу і сябе лічыць Богам, які прыйшоў да людзей на Зямлю.

2-гі к н і ж н і к: – Але ўсе кажуць, што ён робіць цуды і ўваскрашае памерлых. Якой сілай Ён робіць свае цуды?

1-ы к н і ж н і к: – Калі тое праўда, то робіць ён гэта сілай Вэльзэвула. Бог не прыходзіць у зрэб'і (а гэты ў зрэб'і), не вячэрае з мытнікамі, не бадзяецца з натоўпам і нічога ня робіць у суботу. Яго трэба аддаць пад суд і забіць як ашуканца і чарадзея.

М ы т н і к *(падыходзіць да кніжнікаў)*: -- Цяжкі дзень. У мяне няшчасьце. Гора вялікае. Памерла дачка.

К н і ж н і к і: -- Спачуваем табе.

М ы т н і к: -- Мне яе шкода. Я хацеў бы, каб яна жыла.

1-ы к н і ж н і к: – Разумею цябе. Але ня можа жыць той, хто памёр.

М ы т н і к: -- Можа, калі захоча Бог.

2-гі К н і ж н і к: -- Маліся.

М ы т н і к: -- Я нягодны ўвагі Яго, але прышоў Яго папрасіць.

К н і ж н і к: -- Каго?

М ы т н і к: -- Бога жывога, Ісуса, які паміж нас. Ён тут.

К н і ж н і к і: -- Гм-м..

*(Пераглянуліся і падыходзяць усе разам да Хрыста і вучняў.)*

М ы т н і к: -- Я шчасьлівы, што бачу Цябе, Госпадзе, і ўсіх вучняў Тваіх. Я мытнік Мацьвей. Калі хочаш, хоць я і ня варты, дапамажы мне.

Х р ы с т о с: -- Што трэба табе?

М ы т н і к: -- Памерла мая дачка. Яна ляжыць у маім доме нежывая. Калі хочаш, вярні яе сюды, ажыві яе.

Х р ы с т о с: -- Ты верыш, што я магу яе вярнуць у жыцьцё?

М ы т н і к: -- Ты ўсё можаш, Госпадзе, калі воля Твая. Я ня варты, каб Ты зайшоў у дом мой. Але калі Ты толькі падумаеш, яна ажыве.

Х р ы с т о с *(вучням):* -- Рэдка я тут спатыкаў такую веру. Але па веры яго і зробіцца яму. *(Да мытніка):* -- Дзе твой дом, куды я прыду?

М ы т н і к: -- Тут, побач, Госпадзе.

*(Хрыстос устае з каменя, на якім сядзеў.)*

1-ы К н і ж н і к: -- А хацеў бы спытацца пра закон, бо напісана, што нельга рабіць у суботу. Дык сёньня субота. І як ты зробіш тое, што задумаў зрабіць, не парушыўшы суботы?

Х р ы с т о с: -- Я ёсьць гаспадар суботы. Дзе напісана, што ў суботу нельга рабіць дабро? Ці калі тваё ягнё ўваліцца ў студню ў дзень суботні, што ты будзеш рабіць: ратаваць яго, ці глядзець, як яно загіне? Прэч ад мяне далей, племя хітрае!

*(Ідзе ўсьлед за мытнікам у яго дом.)*

## С Ц Э Н А 2

(Дом Мытніка. На ложку ляжыць памерлая дачка. У пакоі некалькі чалавек сядзяць моўчкі.)

Х р ы с т о с *(уваходзіць і знакам паказвае прысутным, каб пакінулі памяшканьне. Прысутныя выходзяць. Хрыстос падыходзіць да мёртвай, бярэ яе за руку. Дзяўчына падымаецца жывой і глядзіць на Ісуса.)*: -- Ідзі і павітай бацьку свайго.

Дз я ў ч ы н а: -- О-о-о! Я ведаю, хто Ты! Ты Гасподзь Ісус Хрыстос! Ты толькі што быў там, сярод кветак, і казаў мне, каб я вярнулася. А цяпер Ты тут. Ты тут і там адначасна! О-о-о! Я разумею. Ты ўсюды, бо Ты Гасподзь.

Х р ы с т о с: -- Сьмерць твая дала табе шмат што ведаць, чаго ня ведаюць іншыя. Ідзі, шануй бацьку свайго і нікому не кажы, што бачыла.

Дз я ў ч ы н а: -- Госпадзе, там так хораша! Там такое дзіўнае сьвятло!

Х р ы с т о с: – Каб быць там, трэба справядліва пражыць тут. Ня бойся цяжкасьцяў і пакут. Радуйся і прымай іх. Яны для твайго збаўленьня.

Дз я ў ч ы н а: -- Госпадзе, дазволь мне ісьці за табой, хоць я ня вартая датыкацца сьлядоў Тваіх.

Х р ы с т о с: – Ідзі, пакуль я тут. Але галоўнае – ідзі тады, калі мяне тут ня будзе і калі ня ўбачыш мяне.

*(Заходзяць мытнік і людзі, якія ў жаху глядзяць на Дзяўчыну.)*

Л ю дз і: -- Яна жыве! Гляньце – яна жывая! Гэта цуд Боскі! Гэта Бог спаміж нас! О-о-о! Якое дзіва!

М ы т н і к *(кланяецца Хрысту)*: -- Маёй удзячнасьці і майму шчасьцю няма слоў. Дзякуй, Госпадзе. Дазволь мне ісьці за Табой, Хрысьце, бо Ты ёсьць жыцьцё, Госпадзе! Дазволь мне! Дазволь мне стаць Тваім вучнем!

Х р ы с т о с: -- Ідзі, Мацьвей. Мой шлях просты, цяжар мой лёгкі для такіх, як ты, хоць і непаддымны для іншых.

*(Выходзяць з дому навонкі.)*

## С Ц Э Н А 5

(Пляц перад домам мытніка. Хрыстос выходзіць з дому. Вучні і шмат людзей чакаюць Яго. Падыходзіць жанчына і няўзнак асьцярожна датыкаецца да Ягонай вопраткі.)

Х р ы с т о с *(паварочваецца да жанчыны)*: -- Што ты хацела, жанчына?

Ж а н ч ы н а: – Выздаравець ад баленьня ўнутры і цячэньня крыві. Я дакранулася да адзеньня Твайго, каб стаць здаровай.

Х р ы с т о с: -- Ты ўжо здаровая. Па веры тваёй адбылося.

Ж а н ч ы н а: -- Дзякуй, Госпадзе, слава Табе. Я чуюся, што стала здаровай.

*(Павадыр падводзіць сьляпога.)*

П а в а д ы р: -- Ну, кажы, што ты хочаш.

С ь л я п ы: -- Госпадзе, каб я бачыў.

П а в а д ы р: -- Ён ад нараджэньня сьляпы. Ён ніколі ня бачыў сьвету.

С ь л я п ы: -- Каб я бачыў, калі ты захочаш, Госпадзе.

Х р ы с т о с *(дакранаецца рукой да вачэй сьляпога):* -- Узірайся. Вера тавая дапаможа.

С ь л я п ы: -- Ой! Што гэта? Гэта сьвет? Як хораша тут! А гэта людзі? Якія харошыя людзі! Якое шчасьце бачыць сьвет! Госпадзе, я ня годны такога шчасьця, якое Ты мне адчыніў. Удзячны Табе, Госпадзе. Я буду жыць у імя Тваё.

Х р ы с т о с *(сядае на камень, а людзі вакол яго на зямлю)*: -- Той, хто бяз веры, той, як бяз зроку. Ён нічога ня бачыць. Вера

робіць людзей відушчымі. *(Да сьляпога)* Вера твая дапамагла табе, чалавек.

Людзі гэтага часу думаюць, што дастаткова схадзіць у храм, скласьці ахвяру, і гэта ўжо ёсьць сьведчаньне іхняе веры.

Любасьці і міласэрдзя хачу я замест ахвяры. Моцная вера здольная горы зрушыць і пераставіць іх зь месца на месца. Але малаверны час гэты таго ня ведае і да веданьня не імкнецца.

П і л і п: -- Настаўнік, навучы нас. Калі чалавек моцнай веры, то якім яму трэба быць, каб спадзявацца на вечнасьць і Царства Нябеснае.

Х р ы с т о с: -- Той, хто верны, найперш мусіць жыць па запаведзях, выконваць іх. Але людзі розныя. Гэта праўда. Дык вось:

-- Дабрашчасныя сьціплыя і неганарлівыя -- яны будуць у Небе.

-- Дабрашчасныя, што плачуць, бо яны ў Небе суцешацца.

-- Дабрашчасныя лагодныя, бо яны ўнасьледуюць новую Зямлю.

-- Дабрашчасныя тыя, што прагнуць праўды, бо яны спатоляцца.

-- Дабрашчасныя міласэрдныя, бо яны памілаваныя будуць.

-- Дабрашчасныя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць.

-- Дабрашчасныя міратворцы, бо яны сынамі Божымі названыя будуць.

-- Дабрашчасныя, гнаныя за праўду і справядлівасьць, бо іх ёсьць Царства Нябеснае.

-- Дабрашчасныя вы ўсе, калі будуць вас ганьбіць, перасьледваць і гнаць усялякім словам ліхім, несправядліва зьняважаць за Мяне і за Імя Маё.

Але ня бойцеся! Радуйцеся і весяліцеся, бо ўзнагарода ваша вялікай на нябёсах будзе. Ня бойцеся!

Сьвятло, якое вы спазналі, хай сьвеціць. Бо запаліўшы сьвечку, ня ставяць яе пад стол, але на стол, каб кожны бачыў сьвятло. *(Устае.)*

Дык няхай жа сьвеціць сьвятло ваша перад людзьмі, каб яны бачылі вашыя добрыя ўчынкі і ўслаўлялі Бога, Айца вашага, які ёсьць у Нябёсах. *(Усе ўстаюць.)*

Рыхтуйцеся. Я буду забіты ворагамі праўды, бо так мусіць стацца. Я павінен выканаць волю Айца майго, што ў Небе над намі. Але памятайце: на трэці дзень я ўваскрэсну, і гэтым

станецца найвялікшы цуд Айца нашага нябеснага, які зьменіць Сусьвет; цуд, які ўратуе людзей і адродзіць Зямлю.

Ня бойцеся і чувайце. Чувайце, пакуль ня скончыцца гэты час.

*(Паварочваецца і адыходзіць.*
*Людзі моўчкі глядзяць Яму ўсьлед.)*

К А Н Е Ц

*4. 02. 2020. Зянон*

# Ю Д А

(Маралітэ ў адной дзеі і пяці сцэнах для тэатра і чытаньня.
Дзеецца ў Ерусаліме)

А С О Б Ы

І с у с  Х р ы с т о с

Ю д а  І с к а р ы ё т

С о р а  (жонка Юды)

*Вучні  Хрыста:*

П ё т р а–С ы м о н

А н д р э й  (брат Пётры)

Я к у б  З э в я дз е я ў

Я н  (брат Якуба)

П і л і п

Б а р т а л а м е й

Т а м а ш

Я к у б  А л ф е я ў

Л я ў в е й–Т а д э й

С ы м о н  К а н а н і т

М а ц ь в е й

К а я ф а  (першасьвятар)

С т а р э й ш ы н а С а н г е д р ы н у

1-ы з а к о н ь н і к

2-гі з а к о н ь н і к

3-і з а к о н ь н і к

4-ы з а к о н ь н і к

1-ы ф а р ы с е й

2-гі ф а р ы с е й

1-ы с ь в е д к а -- м ы т н і к

2-гі с ь в е д к а -- м ы т н і к

3-і с ь в е д к а -- м ы т н і к

4-ы с ь в е д к а -- м ы т н і к

1-ы с л у г а С а н г е д р ы н у

2-гі с л у г а С а н г е д р ы н у

Ж а н ч ы н а

Н а т о ў п (слугі, мытнікі, гандляры, бадзягі, рыбакі, рамесьнікі, фарысеі, садукеі, начальнікі храмаў, кніжнікі, законьнікі, жанчыны, служанкі, жаўнеры і інш.)

С п р а в я д л і в а с ь ц ь (алегорыя – мужчынская роля)

В е р а (алегорыя – жаночая роля)

## С Ц Э Н А 1

(Вуліца ў Ерусаліме. Па кругу ходзяць вулічныя мінакі, хто куды.
Сора сядзіць збоку, расклаўшы на зямлі свой тавар. Потым – Юда.)

С о р а: -- Цыбулька, цыбулька, часнок, сушаныя смоквы, фінікі, рыбка сушоная. Купляйце, людцы, смачна, нядорага – і ўсё

патрэбнае. Купляйце. *(Маўчанка.)* Купляйце, купляйце, цыбулька, цыбулька, смоквы сушоныя. Купляйце! Купляйце, халера на вас! От сьвет настаў! Есьці развучыліся.

А во! А гэта ж, во! Юда ідзе. От я цябе, галубок, і спаймала. *(Крычыць.)* Юда! Павярніся, каб ты не павярнуўся, каб ты! Я жонка твая.

Ю д а *(паварочваецца і ўзіраецца на Сору):* -- Ну. І чаго ты крычыш? Ці табе дрэнна стала? Ці, можа, ты думаеш, я ня ведаю, што я Юда?

С о р а: -- Не, вы гляньце на яго – уцёк з дому і ўжо ведае, што ён Юда. Я, каб ты спух, Сора, жонка твая пакінутая, адна кручуся, пакуль Юда з бадзягамі швэндаецца. Прарока сабе знайшлі ў лахманах.

Ю д а: -- Замкні рот, жанчына! Ты не разумееш, што кажаш! Сын Божы сярод нас! Ты цемра галілейская. Язык доўгі – розум кароткі. Пакайся зараз жа! Я каму сказаў!

С о р а: -- Каюся. Але я нічога не сказала супраць Сына Божага.

Ю д а: -- Ён кажа, што ёсьць Сынам Божым. Імя Яго – Хрыстос. Ён сьляпых і глухіх робіць чуйнымі і відушчымі, падымае людзей з паралічу, выганяе дэманаў і цёмную сілу з чалавека. Ён ажыўляе памерлых. Я сьведка. Усе ведаюць і славяць Яго.

С о р а: -- А Хайка кажа -- ёй кніжнік казаў, -- што робіць ён тое сілай Вэльзэвула.

Ю д а: -- Хайка кажа? Хто такая Хайка!? Скажы ёй, калі яшчэ раз ляпне, прыйду і язык вырву. А кніжніку – галаву адарву. Глядзіць у кнігу і бачыць фігу. Гэта ж колькі дурных на сьвеце! Хіба можа Сын Божы сілай д’ябла карыстацца? У Яго свая сіла, і д’ябал уцякае ад яе.

С о р а: -- Ты, Юда, такім разумным стаў.

Ю д а: -- Я ёсьць разумны і ведаю, што раблю.

С о р а: -- Калі б ты ведаў, што робіш, то не ўцякаў бы ад сям’і і я тут не гандлявала б, каб зарабіць якога паўсікля на хлеб. Ты не шкадуеш жонку. Ён, гляньце, пайшоў за Сынам Божым. А мне што рабіць, а? І доўга ты там будзеш хадзіць? А дзе мне грошы ўзяць, а?

Ю д а: -- Чакай, Сора. Ціха. Ты не забывайся, што твой Юда – разумны Юда. Будуць табе грошы. Толькі цярпеньне май.

С о р а: -- Э-эт, Юда, што ты кажаш. Папрасіў бы хоць у Сына Божага, можа што адчваліць.

Ю д а: -- Дык от лічы, што ты амаль угадала, Сора. Ты яшчэ ня ведаеш, хто такі Юда. Але калі грошы пасыплюцца, тады ўведаеш.

С о р а: -- І што ты гэтым хочаш сказаць?

Ю д а: -- Лекаваць буду.

С о р а: -- Каго?

Ю д а: -- Хворых і невылечных, сьляпых, глухіх, кульгавых і нерухомых.

С о р а: -- Ты?

Ю д а: -- Я.

С о р а: -- Нешта раней ты не загаворваўся.

Ю д а: -- Э-эт! Шкода, што ў цябе розуму мала. Але слухай. Сын Божы абяцаў нам (гэта значыць тым, што каля Яго) даць сілу ад Духа Сьвятога вылечваць невылечных, сьляпых, глухіх, каросьлівых, нерухомых, шалёных, выганяць з чалавека бесаў, дэманаў, усялякую нечысьць, хворасьць і ведаць наперад, што будзе. Вось як.

С о р а: -- І што?

Ю д а: -- Божа Абрагамаў, Ісакаў і ўсіх прарокаў! Яна пытае. Яна нічога не разумее. Лекар грошай каштуе, вось што!

С о р а: -- Ю-ю-да-а! *(Пляскае ў далоні.)* Слухай! Па сто сікляў з кожнага.

Ю д а: -- Не кажы глупства, Сора. Усе сьляпыя ды невылечныя гэта ёсьць бедныя людзі, грошай ня маюць. Больш як па дзесяць сікляў ня возьмеш. І то шмат. Трэба пяць. А калі па-праўдзе, то два.

С о р а: -- Юда, ты звар’яцеў, якія два! 10 сікляў, -- гэта мала.

Ю д а: -- Мала, але справядліва.

С о р а: -- 50 сікляў золатам.

Ю д а: -- Гэта ты звар’яцела, Сора. Адкуль у сьляпых золата! Па 20 сікляў срэбрам і канец. Больш нельга.

С о р а: -- Ну, добра. Калі ты такі ашчадны, то ўжо пагаджаюся – 30 сікляў золатам.

Ю д а: -- Якое золата, Сора! Ці ты мяне ня чуеш? 30 сікляў срэбрам і ўсё на гэтым! Ты хоць разумееш, што такое 30 сікляў! Ты такіх грошай ніколі ў вочы ня бачыла. Праўду кажу – і я ня бачыў.

Але Юда ведае, што рабіць. Ну, то я ўжо сьпяшаюся – зборка. І ты ў мае справы свайго носу ня сунь. Прадавай тут – і да хаты, парадку глядзець.

*(Адыходзіць.)*

В е р а *(выходзіць на пляцоўку):* -- Я – Вера. Вера ў Бога Ўсявышняга і Госпада нашага Ісуса Хрыста. Я – найвышэйшая духоўная сутнасьць у чалавеку, калі ён верыць гэтак, як я.

Цёмныя людзі глядзяць на веру як на прыбытак у гаспадарцы. Яны шукаюць выгады на Зямлі. Але выгада веры ствараецца на Небе і вымагае ахвярнасьці ў зямным існаваньні. Бедны Юда, ён хоча гандляваць тым, чаго ня мае, і прадаваць тое, што даецца яму задарма.

## С Ц Э Н А 2

(Мясьціна каля гары Аліўнай. Вечарэе. У цяні празрыстага платана на камянях і траве сядзяць вучні Хрыста. Хрыстос стаіць пад дрэвам і прамаўляе да вучняў.)

Х р ы с т о с: -- Праўду кажу вам. Настане час, калі мяне сярод вас ня будзе, і я пакіну вас. Як напісана, Сына Чалавечага схопяць ворагі людзкія і аддадуць на сьмерць. І будзе забіты, памрэ і на трэці дзень уваскрэсьне.

Рыхтуйцеся, бо набліжаецца гэты час. Тут настане выпрабаваньне для ўсіх вас, бо, як сказана, пакараны Пастыр

будзе, і разьбягуцца авечкі Яго перад сілай цемры, і адзін з вас выдасьць мяне ворагам маім на пакутную сьмерць. Але так павінна быць. Такая воля Бога – Айца майго Нябеснага.

*(Усе зашавяліліся і загаманілі.)*

Я к у б; -- А хто выдасьць? Я – ніколі.

Г а л а с ы: -- І я ніколі, і я ніколі. Мы з табой, Настаўнік, і Гасподзь наш.

П ё т р а: -- Госпадзе, што да мяне, то я гатовы ўсюды з Табой – і ў цямніцу, і на сьмерць ісьці. Мне ня шкода свайго жыцьця для Цябе. Але каб Ты з намі застаўся.

Х р ы с т о с: -- Пётра, Пётра-Сымоне, яшчэ сёньня, як схопяць мяне, ты тройчы адрачэшся ад Сына Чалавечага, перш чым засьпявае певень.

П ё т р а: -- Госпадзе, хоць бы выпала мне сьмерць, я гатовы памерці, але не адракуся ад Цябе.

Г а л а с ы: -- І я, і я не адракуся. *(Усе ўзбуджана перамаўляюцца між сабой.)*

-- Як гэта? Мы не пакінем Яго.

-- Мы набудзем мячы і будзем біцца, але не аддадзім Яго на пагібель.

-- О, як цяжка такое пачуць.

-- Мы абаронім Яго.

Ю д а *(які сядзіць збоку, нахіляецца да Ляўвея, нешта кажа яму на вуха, і яны выходзяць на авансцэну, аддаліўшыся ад усіх):* -- Ляўвей, ты чуў, Яго павінны забіць. Ён зьбіраецца памерці.

Л я ў в е й: І на трэці дзень уваскрэснуць.

Ю д а: -- Як такое можа быць?

Л я ў в е й: -- Ня ведаю, але веру.

Ю д а: -- Яго заб'юць, а мы як?

Л я ў в е й: -- Ён казаў, каб несьлі людзям Слова Яго.

Ю д а: -- Ён казаў, што дасьць нам уладу над дэманамі, што мы будзем аздараўляць людзей. Дзе гэта? Ён жа кажа, што будзе забіты, а мы нічога ня маем.

Л я ў в е й: -- Значыцца, пасьля Ягонай сьмерці нам дасца ад Духа Сьвятога. Ён казаў. Ні адно слова Госпада не мінае і ня кажацца надарэмна.

Ю д а: -- А калі ня дасца? Бо і напісана, што разьбягуцца авечкі Пастыра. І што нам рабіць?

Л я ў в е й: -- Верыць. Не пакіне нас Бог.

Ю д а: -- Гэта я так сабе кажу, як чалавек просты. Разумей мяне, Ляўвей.

Л я ў в е й: -- Разумею. Слабыя мы вучні Яго.

*(Вяртаюцца да ўсіх.)*

Х р ы с т о с: -- Перад падзеяй, калі збываецца намер Божы, я буду маліцца. Іду на гару Аліўную і бяру з сабой Пётру, Якуба і Яна. Вы малецеся тут, чакайце нас і чувайце разам са мной.

*(Адыходзіць. У гэты час ускоквае Юда і выходзіць у іншы бок.)*

## С Ц Э Н А 3

(Вуліца Ерусаліма. Па вуліцы, азіраючыся, ідзе Юда. Гэтак ён доўга ідзе па кругу, разьмінаючыся зь мінакамі, пакуль ні спыняецца перад брамай Сангедрына. З брамы выходзяць Старэйшына, 1-ы законьнік, 2-гі законьнік і ўзіраюцца на Юду.)

1-ы з а к о н ь н і к: -- А я ўжо дзесьці бачыў цябе.

Ю д а: -- Можа й бачыў.

1-ы з а к о н ь н і к: -- Я бачыў цябе ў кампаніі бадзяг, што ходзяць за гэтым баламутам, які называе сябе Сынам Божым і царом Юдэйскім.

Ю д а: -- Гэта праўда. Я быў там.

С т а р э й ш ы н а: -- А ты ведаеш, што ёсьць загад схапіць баламута, які разбэшчвае народ, і аддаць пад суд Сангедрына?

Ю д а: -- Не, ня ведаю.

С т а р э й ш ы н а: -- А ты ведаеш, дзе ён?

*(Юда маўчыць.)*

2-гі з а к о н ь н і к: -- Адказвай, пеард табой старэйшына Сангедрына.

С т а р э й ш ы н а: -- Нам трэба яго схапіць. Ты мог бы ў гэтым дапамагчы, бо за блюзьнерства адкажуць усялякія. Не дазволена баламуціць народ.

Ю д а: -- Колькі вы мне дасьцё?

1-ы з а к о н ь н і к: -- Чаго?

Ю д а: -- Грошай.

*(Законьнікі глядзяць на Старэйшыну.)*

С т а р э й ш ы н а: -- Дзесяць сікляў срэбрам.

*(Юда маўчыць.)*

С т а р э й ш ы н а: -- Ну, то што?

*(Юда маўчыць.)*

С т а р э й ш ы н а: -- Дваццаць сікляў. Згода.

Ю д а: -- Трыццаць сікляў.

С т а р э й ш ы н а: -- Добра. Хай будзе трыццаць. Але ты нам пазначыш яго, каб мы ведалі, каторы ён. Ты павітаеш яго пацалункам. *(Юда маўчыць.)* Хадзем, ты гэта мусіш сказаць першасьвятару Каяфе. Ён дасьць грошы.

*Уваходзяць у браму Сангедрына.)*

## С Ц Э Н А 4

(Ля падножжа гары Аліўнай. Зьвечарэла. Усе вучні сьпяць. Зьяўляецца Хрыстос, Пётра, Якуб і Ян.)

Х р ы с т о с: -- Вось, а яны сьпяць. Вы не змаглі адну гадзіну ня спаць перад стратай Мяне і чуваць са Мною? Вам цяжка было трываць? *(Вучні маўчаць.)*

Чувайце і маліцеся, каб не паддацца спакусе. Дух ваш мусіць быць бадзёрым, нават калі цела нядужае. Вы панясеце Слова Маё ўсім людзям, пакуль ні сасьпее час, ня збудзецца воля Бога і Прышэсьце Маё. Ні дня, ні часу яго ніхто ня ведае, акрамя Айца Нябеснага, але, як маланка бліскае на небе з аднаго краю на другі край, так станецца Прышэсьце ў славе Сына Чалавечага ў дзень свой.

Але сьпярша належыць Яму шмат адпакутваць і быць адкінутым родам гэтым. Чувайце, каб не застала вас тое зьнянацку, каб не спазьніцца і не шкадаваць.

Уставайце. Вось наблізілася гадзіна, і Сын Чалавечы аддаецца ў рукі грэшнікаў. *(Усе ўстаюць узрушаныя.)* Хадзем. Вось падыходзіць той, хто Мяне прадае

*(Урываецца натоўп з каламі, нажамі і мячамі разам з першасьвятарамі і начальнікамі храмаў ды законьнікамі. Зь імі Юда.)*

К р ы к і з н а т о ў п у: -- А во, яны ўсе! А во, яны тут!

Ю д а *(падыходзіць да Ісуса)*: -- Радуйся, равві.

*(Цалуе Яго.)*

Х р ы с т о с: -- Юда, гэта знак твой, ці цалаваньнем сваім ты выдаеш Сына Чалавечага?

В у ч н і Х р ы с т а *(некаторыя схапілі мячы):* -- Госпадзе, дазволь, мы ўдарым іх мечам.

Х р ы с т о с: -- *(да апосталаў):* -- Пакіньце. Схавайце мячы. *(Да натоўпу, да старэйшын і начальнікаў храмаў)*: -- Быццам на разбойніка выйшлі вы зь мячамі ды каламі на Мяне, каб схапіць. Кожны дзень бываў Я з вамі ў храме, і вы не падымалі на Мяне рук. Але цяпер настаў ваш час і ўлада цемры.

К р ы к і з н а т о ў п у: -- Вось ён блюзьнерыць. Хапайма яго! Бярэм! На суд яго, на суд! Сьмерць адступніку! Сьмерць! На суд яго, у Сангедрын!

*(Замяшаньне. Кідаюцца да Хрыста, хапаюць Яго за рукі, за плечы і вядуць перад сабой. Натоўп з крыкамі аддаляецца. На сцэне засталося некалькі вучняў Хрыста: Пётра-Сымон, Андрэй (брат ягоны), Якуб Зэвядзееў, Ян (брат ягоны) і Піліп.)*

П ё т р а: – Я пайду зь Ім. Там, дзе Ён, там і я. *(Адыходзіць).*

П і л і п: І яго схопяць.

А н д р э й: -- Яны гатовыя забіць нас усіх. Ім толькі каманды не было.

Я н: -- Натоўп у нянавісьці забівае без каманды.

Я к у б: -- Пайшлі, мы мусім быць сьведкамі злачынства.

Я н: -- Ня разам. Трэба разыйсьціся па аднаму, каб не напалі.

П і л і п: -- А нас Юда не прадасьць?

Я н: -- Напэўна, не, калі ня скажуць. Але тут будзьма ад яго далей.

Я к у б: -- Ну, дык ідзем.

*(Адыходзяць.)*

*(Вера і Справядлівасьць выходзяць на сцэну.)*

С п р а в я д л і в а с ь ц ь: -- Я – Справядлівасьць, найвышэйшая цнота на сьвеце. Калі думаць па справядлівасьці чалавечай, зямной, то вучні хрыстовыя мусілі б Яго абараняць, не шкадуючы свайго жыцьця, і яны гатовыя былі. Але таго не адбылося, і сам Гасподзь, шкадуючы іх, не дазволіў ім Яго бараніць. Тут творыцца вышэйшая Боская справядлівасьць ахвяры. Вырашаюць не апосталы, а род чалавечы часу таго. Людзям воля была: ці Ісуса прыняць, ці забіць. І выбар волі свабодна мусіў адбыцца. І сталася неверагоднае. Людзі, што верылі ў Бога, гэтыя людзі заб’юць Бога, што прыйшоў да іх у вобразе чалавечым. Заб’юць, бо іхняя прага карысьці зямной здаецца ім важнейшай і вышэйшай за Бога.

В е р а: -- Зло перамагае там, дзе няма веры. Вера жыве ў сэрцы і праяўляецца ў любові да Бога і да ўсіх людзей. Вось і род той, хітры і падступны, -- найперш сьвятары, -- розумам Бога хвалілі, паўтараючы законы Яго, але з халоднай пустэчай у сэрцы жорсткім, нялітасьцівым.

Хрыстос пайшоў на крыж, каб вярнуць людзям веру ў сэрца. Але пачакайце. Спачатку выбранцы цемры зробяць несправядлівы суд, каб на страту Хрыста засудзіць і сябе апраўдаць за нявінную сьмерць, ды пакласьці адказнасьць на ўсіх.

## С Ц Э Н А 5

(Сангедрын. За сталом сядзяць: першасьвятар Каяфа, Старэйшына, 1-ы законьнік, 2-гі законьнік, 3-ці законьнік, 4-ы законьнік.)

К а я ф а: – Яму толькі сьмерць.

С т а р э й ш ы н а: -- Сьмерць.

1-ы з а к о н ь н і к: -- Мусяць быць сьведкі блюзьнерства яго на закон і на Бога.

К а я ф а: -- Ці ёсьць сьведкі?

2-гі з а к о н ь н і к: -- Няма, але можна знайсьці.

С т а р э й ш ы н а: -- Толькі ня трэба дурных.

3-ці з а к о н ь н і к: -- Бяз дурняў не абыйдзешся.

К а я ф а: -- Сьведкаў трэба стварыць. Ці, можа, вам гэта яшчэ ўпершыню? Хто бярэцца за сьведкаў? *(Маўчанка.)* Бяз парвільных сьведкаў ня зможам судзіць. Сюды ўпусьцім народ.

4-ы з а к о н ь н і к: -- Я падрыхтую.

*(Устае і выходзіць.)*

С т а р э й ш ы н а: -- Суд мусіць быць справядлівы. І народ хай глядзіць.

1-ы с л у г а *(уваходзіць)*: -- Народ прывёў баламута.

К а я ф а: -- Адчыні браму, хай заходзяць усе.

*(1-ы слуга выходзіць. Неўзабаве залю запаўняе натоўп. Хрыста ставяць перад Сангедрынам. У натоўпе відаць Пётра.)*

К а я ф а: -- Хто ты? *(Хрыстос маўчыць.)* Ты цар юдэйскі? *(Хрыстос маўчыць.)* Ты блюзьнерыў на Бога? *(Хрыстос маўчыць.)* Ты выганяў з сінагогі народ? (*Хрыстос маўчыць.)* Чыёй сілай ты бунтуеш народ? Ты вызнаеш Вэльзэвула? *(Хрыстос маўчыць.)*

Ён маўчыць. Ты пагаджаешся з маімі словамі? *(Да суддзяў):* -- Ці ёсьць сьведкі блюзьнерства гэтага чалавека?

4-ы з а к о н ь н і к: -- Ёсьць.

К а я ф а: -- Хай зойдуць.

*(Уваходзяць 1-ы і 2-гі мытнікі.)*

-- Абяцайце гаварыць праўду.

1-ы і 2-гі с ь в е д к а -- м ы т н і к і: -- Перад Богам абяцаем казаць праўду.

С т а р э й ш ы н а: -- Ці ведаеце гэтага чалавека? *(Паказвае на Хрыста.)*

1-ы і 2-гі с ь в е д к а – м ы т н і к і: -- Ведаем.

К а я ф а: -- Што ён казаў?

1 і 2 с ь в е д к а – м ы т н і к і: -- Ён крычаў на вуліцы і размахваў рукамі.

К а я ф а: -- Што крычаў?

1 і 2 с ь в е д к а – м ы т н і к і: -- Крычаў: “Жыве Царства Нябеснае!”

К а я ф а: -- Што яшчэ крычаў?

1 і 2 с ь в е д к а – м ы т н і к і: -- Крычаў, каб не плацілі падаткаў кесару.

К а я ф а: -- Ідзіце. Суд будзе раіцца.

*(Суддзі шэпчуцца між сабой.)*

1-ы с л у г а *(падыходзіць да Пётры, які стаіць збоку ў натоўпе):* -- Нешта мне прысутнасьць твая знаёмая. Ці гэта ня ты быў у бандзе разам з гэтым адступнікам, што бухторыў народ?

П ё т р а: -- Не, не я.

1-ы с л у г а: -- Надта ж падобны. Ты быў зь ім?

*(Паказвае на Хрыста.)*

П ё т р а: -- Ня быў я. Я ня ведаю яго. Ідзі прэч!

*(1-ы слуга адыходзіць, азіраючыся.)*

К а я ф а: -- Увядзіце іншых сьведкаў.

*(Заходзяць 3-ці і 4-ы мытнікі.)*

С т а р э й ш ы н а: -- Што вы чулі?

3-ці і 4-ы с ь в е д к а – м ы т н і к і: -- Ён крычэў у сінагозе, каб людзі нічога не прадавалі, не рабілі ахвяры і каб працавалі ў суботу.

К а я ф а: -- Што яшчэ крычаў?

3-ці і 4-ы с ь в е д к а – м ы т н і к і: -- Крычэў, што законьнікі ня ўвойдуць у Царства Нябеснае, але адразу ў пекла.

К а я ф а: -- Ідзіце. Суд будзе раіцца.

(*Суддзі ш*эпчуцца між сабой.)

2-гі с л у г а *(падыходзіць да Пётры)*: -- Здаецца, што я бачыў цябе побач з гэтым баламутам. Ты што тут робіш?

П ё т р а: -- Я ня ведаю яго. Ты блытаешся, відаць.

2-гі с л у г а: -- Надта ж падобны.

П ё т р а: -- Я там ня быў. А ты чаго там быў? Ідзі на сябе засьведчы.

*(2-гі слуга адыходзіць, азіраючыся.)*

К а я ф а: -- Народ. Гэты баламут, які разбэшчваў людзей, заслугоўвае сьмерці. Ён блюзьнерыў на Бога і на Закон. Але тое, што кажуць сьведкі, недастаткова, каб яго на сьмерць пакараць. Хто з вас ведае і чуў пра богагадкія блюзьнерствы гэтага адступніка, скажэце суду.

Н а т о ў п: -- Сьмерць! Сьмерць! Укрыжуй яго,
Каяфа, укрыжуй! Судзі яго!

1-ы ф а р ы с е й, 2-гі ф а р ы с е й: -- Мы скажам.

К а я ф а: -- Кажэце.

1-ы ф а р ы с е й: -- Ён казаў так: “Магу за адзін дзень разбурыць храм Божы, узьнесены Саламонам, і за тры дні збудаваць нанова”.

2-гі ф а р ы с е й: -- Так, ён казаў гэта.

К а я ф а: -- Вось. Ці ж гэта ні блюзьнерства, ня зьдзек з Бога? Ці ж ні ілжа, ці ж ні бахвальства супраць Закона? *(Да Хрыста)* – Чаму нічога не адказваеш на тое, што яны супраць цябе сьведчаць? *(Хрыстос маўчыць.)* Тады вось што: заклінаю цябе Богам жывым, скажы нам, ці ты Хрыстос ёсьць Сын Божы?

Х р ы с т о с: -- Ты сказаў. Але моўлю вам, каб чулі. Не пасьпее гэты час праміну́ць, як угледзіце Мяне, Сына Чалавечага, што сядзіць праваруч сілы Госпадняй і ідзе на аблоках нябесных. Хто мае вушы, хай чуе.

К а я ф а *(усклікае)*: -- Во! *(Разьдзірае на сабе адзеньне.)* Во! Ён блюзьнерыць! Навошта яшчэ нам сьведкі! Вось вы чулі блюзьнерства ягонае. Ён варты сьмерці. Мы засудзім яго.

Н а т о ў п: -- Сьмерць! Сьмерць! Каяфа, укрыжуй яго!
Укрыжуй! Сьмерць!

К а я ф а: -- Сьмерць!

Ю д а *(выходзіць з натоўпу, падыходзіць да стала, вымае з поясу мяшэчак з грашыма і вытрасае срэбнікі на стол перад Каяфам):* -- Бярыце назад свае грошы. Гэты чалавек невінаваты. Зграшыў я, пардаўшы кроў нявінную.

С т а р э й ш ы н а: -- А нам што да таго? Глядзі сам.

*(Юда паварочваецца і хоча ісьці, але сустракаецца поглядам з Хрыстом, апускае галаву і засланяе твар далоньмі. Нейкі час стаіць, потым, хістаючыся, выходзіць з залі.)*

К а я ф а *(аб'яўляе):* -- Суд будзе раіцца.

*(Каяфа і законьнікі пачынаюць шаптацца. Старэйшына пералічвае срэбнікі, якія рассыпаў на стол Юда. Шум не сьціхае, час ад часу чуваць выкрыкі.)*

Н а т о ў п: -- Сьмерць! Сьмерць! Ты, цар юдэйскі, Сын Божы, абарані сябе сам! Ха-ха-ха. На крыж яго! На крыж!

*(Пётра адыходзіць ад тлуму і спыняецца на авансцэне, уражаны ўчынкам Юды. Да Пётры падыходзіць жанчына з натоўпу.)*

Ж а н ч ы н а; -- А я цябе памятаю. Ты быў каля адступніка, якога тут судзяць на сьмерць. Ты зь яго банды.

П ё т р а: -- І я цябе памятаю. Я быў побач з табой, калі ты дакранулася да адзеньня Ягонага і спынілася табе боль нутра і цячэньне крыві, і дзякавала ты Яму за сваё аздараўленьне.

Ж а н ч ы н а: -- Я не прасіла аздараўленьня ў гэтага лотара, а сама аздаравілася, дакрануўшыся толькі да яго адзеньня.

П ё т р а: -- Навошта ж ты дзякавала Яму і называла Госпадам, калі думала, што Ён лотар і што аздаравілася сама праз сябе?

Ж а н ч ы н а: -- Тады я падумала, што Ён Гасподзь, але сёньня я паслухала сьвятароў, начальнікаў, законьнікаў, вялікі суд і ўбачыла, што ён ашуканец і, пэўна, бандыт з сілай шатанскай.

П ё т р а: -- Ты бачыла Юду, што Ісуса прадаў? Няшчасная, ты горш за яго!

Ж а н ч ы н а: -- Ты тут мяне не кляні. Прызнавайся, ты з банды яго? Ты бароніш яго.  Каяфу скажу.

П ё т р а: -- Мне шкода, што стаў я з табой гаварыць. Ідзі прэч! Я ня ведаю Яго.
*(Голасна засьпяваў певень. Пётра аслупянела глядзіць перад сабой)*: -- Гэта што? Певень сьпявае? Певень сьпявае! *(Хапаецца за галаву і плача наўзрыд):* -- Гора мне! Гора! Певень сьпявае! *(Трасецца ад плачу.)* Певень сьпявае!

Ж а н ч ы н а: -- Ён вар'ят. А я зь ім яшчэ гавару.

*(Адыходзіць, азіраючыся.)*

П ё т р а: -- Певень сьпявае... *(плача, апускаецца на калені).* Хрысьце, даруй мне, даруй мне, я нягодны і пагляду Твайго, даруй мне, Госпадзе, даруй мне!

К а я ф а *(устае і крычыць):* -- Сангедрын, выслухаўшы сьведкаў і параіўшыся, паведамляе: чалавек па імені Ісус Хрыстос падлягае сьмерці праз расьпінаньне на крыжы.

Н а т о ў п: -- Сьмерць! Сьмерць! На крыж! Каяфу гонар! Гонар Каяфу!

*(Хапаюць Хрыста і вядуць перад сабой на выхад. Усе ўзбуджаныя ад нянавісьці. Плююць усьлед Хрысту. Крычаць.)*

-- Цар юдэйскі, сын Божы, уратуй сябе сам! Ха-ха-ха!

*Праходзяць наўзбоч Пётры, які ля парога стаіць на каленях, абхапіўшы галаў рукамі.)*

Х р ы с т о с *(ідучы каля Пётры):* -- Устань, Пётра, ты не вінаваты.

*(Заля Сангедрыну пусьцее. Пётра на каленях.*
*Уваходзіць Андрэй.)*

А н д р э й: -- Брат, браточак, устань. Ня плач. Ты ж усё разумееш, што адбываецца. Так мусіць быць. Мы ж ведаем.

П ё т р а: -- Нават Юда пакаяўся і адрокся ад здрады.

А н д р э й: -- Юда павешаўся. Толькі што.

П ё т р а *(уражаны):* -- Павешаўся! Якое няшчасьце для Юды, Андрэй. Што ён нарабіў! Прадаў Госпада і зьнішчыў душу. Мне певень гучыць у вушах... Я тройчы адрокся ад Госпада, брат. Я сказаў, што ня ведаю Яго, калі мяне хацелі схапіць за адзінства з Хрыстом. Я такі слабы! Я такі нікчэмны!

А н д р э й: -- А што было б, калі б ты прызнаўся?

П ё т р а: -- Забілі б побач з Хрыстом, закідалі б каменьмі.

А н д р э й: -- Вось бачыш, ты ж ня здрадзіў Яму, не прадаў. Ты ўратаваў сябе.

П ё т р а: -- Мне лепш было б быць побач зь Ім на крыжы, чым адчуваць сваё тхорства. Певень гучыць у вушах.

А н д р э й: -- Ты не старайся рабіцца сьвятым, брацечка. Мы простыя людзі і памыляемся, каб мець нагоду палепшыцца.

Госпадзь уваскрэсьне. Ён казаў. Ён прыйдзе да нас. Чакайма Яго.

Мне душа трымціць ад велічы Яго ахвяры і адчуваньня будучыні. Усё пераменіцца, браце. Сьвет стане лепшым, і прыйдуць новыя людзі, якія таксама будуць лепшымі за нас, перад імі адчыніцца Царства Нябеснае, пра якое казаў Хрыстос. Дзеля вечнасьці і Неба варта трываць на Зямлі і не баяцца пакут. Жыцьцё такое кароткае, а вечнасьць такая вялікая.

П ё т р а: -- Дзякуй, Андрэй! Ты мой добры, харошы брат. Дзякуй табе.

*(Пётра і Андрэй выходзяць. Справядлівасьць і Вера зьяўляюцца на пляцоўцы.)*

С п р а в я д л і в а с ь ц ь: -- Гора таму, хто выдасьць на сьмерць Сына Чалавечага, -- кажа Хрыстос. – Лепей было б чалавеку таму не нарадзіцца. Але ён нарадзіўся, быў з сярэднім сумленьнем і з сярэдняй верай, срэбралюбца і з духам малым.

Так бывае, што й ня злы чалавек, ды ня ўмее сабой кіраваць, і ў злосьці ўдарыць дзіця, ці жонку, ці нават сабаку, а потым шкадуе, перажывае аб дрэнным сваім учынку. Але мінае пара, узьнікае нагода, і ўсё паўтараецца зноў.

Няшчасны Юда, што ты з сабою зрабіў! Мне шкода ягонай душы, бо, зрабіўшы злачынства, дзе няма даравання, ён пакаяўся і падумаў пра справядлівасьць. Але позна было.

В е р а: -- Ёсьць людзі, якія ў адзін дзень хочуць быць справядлівымі, а ў іншы дзень – не. Але справядлівасьць альбо ёсьць, альбо – яе няма. Калі б Юда верыў і ў веры быў моцным, то здрады б Хрыста не было. Але ж нехта мусіў стаць Юдам.

С п р а в я д л і в а с ь ц ь: -- Твая праўда, Вера. Пра справядлівасьць трэба думаць перад учынкам, але не зрабіўшы яго, калі каяцца стане запозна.

*(Пачынае ціха гучэць пачатак рэквіема Вэрдзі:*
*“Requiem… Requiem…”)*

-- Неразумны, няшчасны Юда. Толькі Бог, калі захоча, у Ласцы Сваёй, уратуе яго душу.

*(Вера і Справядлівасьць павольна ідуць углыб сцэны,*
*потым разыходзяцца ў розныя бакі. Ціха гучыць рэквіем.)*

К А Н Е Ц

*23. 02. 2020   Зянон*

## Заўвагі

**С м о к в ы** -- інжыр, фігі

**А д ч в а л і ц ь** -- адрэзаць, адламаць, адсячы кавалак ад нечага цэлага

**10 с і к л я ў с р э б р а м** -- калі лічыць па тагачасным курсе рымскага дынара -- гэта сума месячнай аплаты рымскага легіянера

**Р а в в і** -- настаўнік

**Л о т а р** -- злодзей, абдзіральшчык, лупач

**Т х о р с т в а** -- баязьлівасьць

**С а н г е д р ы н** -- юдэйскі вярхоўны суд

# П Ё Т Р А

(Міракль у 1-й дзеі і 3-х сцэнах для тэатра і чытаньня)

## А С О Б Ы:

***А п о с т а л ы:***

П ё т р а-С ы м о н

А н д р э й, б р а т П ё т р ы

Я н З э в я д з е я ў

Я к у б, б р а т Я н а

П і л і п

Б а р т а л а м е й

Т а м а ш

Я к у б А л ф е е ў

С ы м о н З і л о т

Л я ў в е й-Т а д э й

М а ц ь в е й

Ю д а Я к у б а ў

К р а в е ц

Г л у х а н я м ы

К а л е к а І ц к а (“І ц к а б я з н о г і”)

Н а ч а л ь н і к в а р т ы х р а м а

1-ы слуга ў храме

2-гі слуга ў храме

3-ці слуга ў храме

1-ы садукей

2-гі садукей

Людзі з натоўпу на пляцы

Каяфа – першасьвятар

Старэйшына Сангедрыну

Анна́ (Ананій) – архірэй, сьвёкар Каяфы

Ёан – архірэй

Аляксандар – архірэй

Гамаліэль – фарысей, законьнік

Законьнікі, кніжнікі, фарысеі, садукеі – лаўнікі і ўдзельнікі Сангедрыну

Слугі і вартаўнікі Сангедрыну

Жанчына

## СЦЭНА 1

(Пляц перад храмам. Справа ўваход у сьвятыню. Зьлева ўваход у вялікі дом, дзе знаходзяцца апосталы. Па пляцы ходзіць мноства людзей, некаторыя заходзяць у храм. Праз увесь пляц чалавек вязе на вазочку скручанага калеку, які ад нараджэньня ня можа хадзіць. Чалавек пакідае калеку ля ўваходу ў храм, той пачынае прасіць міласьціну ў людзей, што заходзяць на малітву. Раптам з дому, дзе апосталы, даносіцца гул, потым ён гучыць над усёй плошчай, нібы раскаты грому.)

Людзі на пляцы: -- Што гэта?
-- Што гэта грыміць?
-- Гэта гром?

-- Які гром – неба бяз хмар!
-- Гэта гром Божы!
-- Нешта будзе!
-- Нешта сталася!
-- Пэўна, бяда.
-- Але страшна.
-- Гром Гасподні.

*(З дому выходзяць апосталы. Яны славяць Бога на розных мовах.)*

П ё т р а: -- Слава табе, Божа Ісусе Хрысьце! Ужо дух сьвяты над намі. Слава Табе!

Я н: -- Усё збылося, як казаў Хрыстос: Дух Сьвяты зышоў на нас. Слава табе, Божа!

Г л а с а л а л і я:

Слава Табе Божа Ісусе Хрысьце!
Дух сьвяты над намі!
Слава Табе

Збылося, як казаў Хрыстос!
Дух Сьвяты зышоў на нас.
Слава Табе, Божа.

**лаціна:**
Gloria Tibi, Domine! Iesus Christus!
Spiritus Sanctus super nos est!
Gloria Tibi!

Statuit sermones Christi!
Et descendit Spiritus Sanctus nobis.
Gloria Tibi, Domine!

**чэская:**
Sláva Tobě, Pane! Ježíši Kristu!
Duch Svatý se stará o nás!
Sláva Tobě!

Dokonálo se, jak Kristus řekl!
Duch Svatý sestoupil na nás.
Sláva Tobě, Bože!

**<u>французская:</u>**
Gloire à Toi, notre Seigneur! Jésus-Chrtist !
Le Saint-Esprit nous protège!
Gloire à Toi!

Tout s'était accompli, comme l'a prédit Jésus!
Le Saint-Esprit se déversa sur nous.
Gloire à Toi, notre Seigneur!

**<u>нямецкая:</u>**
Großer Gott, wir loben dich! Jesus Christus!
Der Heilige Geist kümmert sich um uns!
Gott sei Dank!

Jesus sprach es, und es geschah!
Der Heilige Geist kam zu uns.
Gott sei Dank!

**<u>італьянская:</u>**
Grazie a Dio! A Gesù!
Lo Spirito Santo ci protegge!
Gloria a Te.

È compiuto tutto secondo le parole di Gesù!
Lo Spirito Santo fu riversato su di noi.
Grazie a Dio.

**<u>іспанская:</u>**
¡Gloria a Ti, Dios nuestro! A Jesucristo!
¡El Espíritu Santo nos conduce!
Gracias a Ti!

¡Todo se hizo según las palabras de Cristo!
El Espíritu Santo ha descendido sobre nosotros.
Gracias a Dios.

**<u>славенская:</u>**
Slava Tebi, o Gospod! Jezus Kristus!
Sveti Duh skrbi za nas!
Slava Tebi!

Se je zgodilo, tako kot je rekel Kristus!
Sveti Duh je prišel na nas.
Slava Tebi, o Gospod.

**латышская:**
Dievam par godu! Jēzum Kristum!
Svētais Gars pasargā mūs!
Dievam par godu!

Tas Jēzus to runāja, un tas tika darīts!
Svētais Gars nāca uz mums.
Dievam par godu.

**эстонская:**
Au sulle, me Jumal! Jeesuse Kristuse!
Püha Vaim kaitseb meid!
Au sulle!

Ja seda rääkis Issand, ja nii sai tehtud!
Püha Vaim tuli meie peale.
Au sulle, me Jumal.

**ірляндская:**
Moladh do Dhia Íosa Críost!
Tá an Spiorad Naomh orainn!
Glóir duit.

Ba chosúil go raibh Críost ag rá!
Tháinig an Spiorad Naomh orainn.
Go raibh maith agat, a Dhia.

**баская:**
Eskerrak! Jainkoaren izenean!
Espiritu Santua babestu gaituzu!
Eskerrak!

Bukatu da Jainkoaren onespena.
Espiritu Santua jeitsi gintuen.
Eskerrak.

**каталонская:**
Glòria a Déu! Jesucrist!
L’Esperit Sant ens protegeix !
Glòria a Déu!

Segons Jesús, s’ha complert.
L’Esperit Sant descendí sobre nosaltres.
Glòria a Déu.

**<u>македонская:</u>**
Слава на Бог! На Исус Христос!
Светиот Дух нè заштитува!
Фала Боже!

Доврщено е, како што рекол Христос!
Светиот Дух слегол врз нас.
Слава на Бог.

**<u>сэрбская:</u>**
Hvala Ti Bože! Isusu Hristu!
Sveti duh štiti nas!
Hvala Ti Bože!

Svršeno je, kao što je Isus rekao!
Sveti duh došao na nas.
Hvala Ti Bože.

**<u>швэдзкая:</u>**
Ära åt Gud! Åt Jesus Kristus!
Den Helige Ande skyddar oss!
Ära åt Dig!

Det har fullbordats, som Kristus har sagt!
Den Helige Ande utgjutits över oss.
Ära åt Gud.

**<u>партугальская:</u>**
Louvado seja Deus! Jesus Cristo!
O Espírito Santo nos protege!
Louvado seja Deus!

Está consumado, conforme Cristo disse!
O Espírito Santo veio sobre nós.
Louvado seja Deus.

**<u>нарвэжская:</u>**
Ære være Gud! Jesus Kristus!
Den Hellige Ånd beskytter oss!
Ære være Gud!

Kristus talte det, og det ble gjort.!
Den Hellige Ånd var blitt utøst over oss.
Takk, Gud.

Л ю дз і з н а т о ў п у: -- Гляньце, во, ці ж мы іх ня ведаем? Гэта ж галілейцы, а гавораць на іншых мовах.
-- Што зь імі сталася?
-- Гэта гром зрабіў!
-- Нейкі цуд стаўся.
-- І што яны кажуць?
-- Бога славяць.
-- Ды не, яны ж віна напіліся!
-- Ага, упіліся і п'яныя лапочуць.
-- Ха-ха-ха.

П ё т р а: -- Ды ня п'яныя яны. Паслухайце ўсе, мужы юдэйскія і жыхары Ерусаліма. Выслухайце мяне, я вам усё скажу. Ня ёсьць п'яны я, і не п'яныя мы ўсе. А ёсьць тут тое, што сказана праз прарока Іяіля: У тыя апошнія дні кажа Бог: удыхну Духа Майго на кожнае цела; і будуць прарочыць сыны вашыя і дочкі вашыя, і дзяцюкі вашыя будуць бачыць зьявы ў снах. І дам цуды ў небе наверсе і знакі на зямлі ўнізе. І будзе так: кожны, хто прызавіціме Імя Госпада – збавіцца і будзе ўратаваны.

І цяпер слухайце гэтыя словы Ісуса Назарэя, услаўленага між вамі сілаю і цудамі, што рабіў праз Яго Бог. І вось Яго выдалі беззаконным і рукамі беззаконных забілі, прыбіўшы цьвікамі на крыж. І вось гэтага Ісуса Сына Божага ўваскрасіў Бог. І ўсе мы ёсьць сьведкі Яго ажыўленьня. І вось Хрыстос, узьнесены правіцаю Бога ды ўзяўшы ад Яго абяцаньне Духа Сьвятога, удыхнуў гэты Дух у нас. Гэта тое, што вы толькі што чулі і бачылі. Цяпер няхай цьвёрда ведае ўвесь дом Ізраілевы, што зрабіў Бог з Ісусам, Госпадам нашым, якога вы ўкрыжавалі.

К р ы к і з н а т о ў п у: -- Гэта ня мы, гэта Каяфа, якому Пілат дазволіў.
-- Дык што нам рабіць?
-- Што нам цяпер рабіць?

П ё т р а: -- Пакайцеся. Ды няхай кожны з вас ахрысьціцца ў імя Хрыста, дзеля адпушчэньня грахоў; і вазьмеце дар Духа Сьвятога.

Г о л а с з н а т о ў п у: -- Але гэта ты кажаш. Мы хочам бачыць, што можа ў табе той Сьвяты Дух, што цябе агарнуў.

К р а в е ц *(падыходзіць з глуханямым)*: -- Вось мой брат. Ён глуханямы ад прыроды. Ён ня чуе і ня ведае мовы. Ня можа

гаварыць. Але Бог праз Духа Сьвятога можа ўсё. Зжалься над ім, аздараві, калі захоча Бог.

П ё т р а (бярэ глуханямога за правую руку): -- У Імя Ісуса Хрыста – чуй і гавары. Ты здаровы.

Г л у х а н я м ы: -- Я чую. Я чую твой голас. Дзякуй Госпаду.

Г а л а с ы ў н а т о ў п е: – Загаварыў!
– Чуеце? Ён загаварыў!
– Гэта цуд.
– Дык праўду ён кажа пра Духа Сьвятога.

П ё т р а *(падыходзіць зь Янам да ўваходу ў храм. Скручаны калека, які ня можа хадзіць, седзячы на вазочку, просіць у іх міласьціну)*: -- Што ты просіш?

К а л е к а: -- Дай мне.

П ё т р а: -- Паглядзі на нас. *(Імгненьне глядзяць адзін на аднаго.)* Ты церпіш?

К а л е к а: -- Усё жыцьцё цярплю. Дай мне *(працягвае руку).*

П ё т р а: -- Золата і срэбра няма ў мяне. Грошай ня маю. Дык дам табе тое, што маю. У Імя Ісуса Хрыста Назарэя ўстань і хадзі.

*(Бярэ калеку за правую руку і падымае на ногі.*
*Калека ўстае і выпростваецца.)*

Г а л а с ы в а к о л: -- Гляньце, глядзіце, Іцка бязногі ўстаў!
-- Мы ж яго ведаем. Ён нядойшлы.
-- Людзі, гэта ж дзіва!

І ц к а *(пачынае падскокваць, мацаць сябе рукамі, сьмяяцца ад радасьці)*: -- О, Божа! О, Божа! Бога слаўлю. Дзякуй, чалавек! Ты Божы чалавек! Бога дзячу! Бога слаўлю!

*(Кланяецца Пятру.)*

Я н: -- У Імя Хрыста табе дадзена. Радуйся.

*(Вакол іх зьбіраецца натоўп і дзівіцца іхным дзеяньням. Падыходзяць астатнія апосталы.)*

П ё т р а: -- Народ, што вы дзівіцеся, што вы пільна ўглядаецеся на нас, як быццам мы сваёй сілай і пабожнасьцю зрабілі, каб ён хадзіў. Гэта Бог бацькоў вашых уславіў сына свайго Ісуса Хрыста, якога вы ведалі і адракліся ад Яго перад абліччам Пілата, калі той хацеў звольніць Яго.

Вы ж ад сьвятога і справядлівага адракліся ды прасілі памілаваць душагуба, а Павадыра жыцьця забілі. Бог падняў Яго зь мёртвых, і мы сьведкі гэтага.

І дзеля веры ў Імя Ягонае дадзена нам сіла ад Духа Сьвятога аздараўляць хворых.

Але праз няведаньне вы ўчынілі забойства Сына Божага і Сына Чалавечага.

*(Падыходзяць два садукеі, начальнік храмавае варты са слугамі і слухаюць.)*

Пакайцеся і навярніцеся, каб былі зьнятыя з вас грахі вашыя.

Г а л а с ы з н а т о ў п у: -- Дык што нам рабіць?

Я н: -- Хрыста слаўце.

П ё т р а: -- Вам найперш Бог паставіў Сына Свайго Ісуса і паслаў Яго багаславіць вас, каб адвярнуліся кожны ад сваіх учынкаў благіх. Сьпяшайцеся. Яшчэ ня позна пакаяцца і прыняць Хрыста ў сэрцы сваім.

1-ы с а д у к е й: -- Ня слухайце гэтых лотараў, што напіліся віна, балбочуць і бунтуюць вас, каб вы ад Бога адвярнуліся! Гэта ж тыя самыя, што бадзяліся з бунтаўшчыком, якога мы пакаралі. Іхняе месца ў цямніцы сядзець.

2-гі с а д у к е й: -- А от мы зараз іх і пасадзім. Начальнік, варта, бярыце іх!

К р а в е ц: -- За што ты хочаш іх замкнуць? За Божыя справы?

2-гі с а д у к е й: -- Якія яшчэ справы? Яны багахульнічаюць і бунтуюць людзей.

К р а в е ц: -- Ты сьляпы садукей. Мы чулі на свае вушы, як на іх узышоў Сьвяты Дух і бачылі, як яны Імем Божым аздараўляюць невылечных. Ты сам працівішся Богу!

*(Народ загудзеў на садукеяў.)*

Г а л а с ы: -- Зноў гэтая садоха вылазіць!
-- Срэбра набраліся, і на людзей кідаюцца.
-- Ім усё мала.
-- Але. Свайго парадку хочуць.

1-ы с а д у к е й: -- Мы ведаем Слова Божае. А яны пакланяюцца пакаранаму на крыжы.

К р а в е ц: -- Мы бачым справы іх, а ты блукаеш у словах.

Я н: -- Заходзьце ў храм і малецеся. Ніхто, хто гаворыць, ня ёсьць разумнейшы за Бога.

*(Пётра, апосталы і людзі заходзяць у храм. Садукеі і царкоўная варта застаюцца на пляцы.)*

2-г і с а д у к е й: -- Яны хочуць тут усё перавярнуць і кіраваць Ерусалімам. Іх трэба забіць як семя злое, сатанінскае.

Н а ч а л ь н і к х р а м а в а й в а р т ы: -- І я так думаю. Бачылі мы ўсялякіх.

1-ы с а д у к е й: -- Калі забіць, то па суду, каб народ верыў. Інакш – смута. Іх трэба тут схапіць і пад замок. А заўтра суд, бо ўжо вечар.

Н а ч а л ь н і к в а р т ы: -- І я так думаю. Схапіць і забіць.

1-ы с а д у к е й: -- Ты хочаш, каб цябе парваў натоўп? Хай вырашае Сангедрын.

2-г і с а д у к е й: -- Калі так, то схопім гэтых двух і ў цямніцу пад замок. Як іх павешаюць на крыж ці абкаменяць, то рэшта разьбяжыцца.

1-ы с а д у к е й: -- Згода. Начальнік, ідзі і ціхенька пакліч.

*(Начальнік варты бяжыць у храм.)*

2-г і с а д у к е й *(да варты і слуг):* -- Ну, а вы рыхтуйцеся. Хапаць па камандзе “браць!”.

1-ы с а д у к е й *(слугам)*: -- Галоўнае – ціха і зьнянацку.

2-г і с а д у к е й: -- Кожнаму будзе па дынару.

*(З храма выходзяць начальнік варты, Ян і Пётра.)*

Н а ч а л ь н і к в а р т ы: -- Ну, во яны.

2-г і с а д у к е й: -- Браць!

*(Слугі накідваюць на галовы Яна і Пётры дзяругі, вяжуць іх вяроўкамі і цягнуць прэч. Уся група сыходзіць з пляцу.)*

## С Ц Э Н А 2

(Памяшканьне Сангедрыну. На лавах сядзяць сьвятары, архірэі: Анн**а´**, Ёан, Аляксандар, першасьвятар Каяфа, старэйшына Сангедрыну, законьнікі, кніжнікі, фарысеі, садукеі. Потым – Пётра, Ян, Іцка, які аздаравіўся, слугі і вартаўнікі Сангедрыну.)

С т а р э й ш ы н а: -- Паслухаем сьведкаў. (*1-ы і 2-гі садукеі ўстаюць.*) Кажэце.

1-ы с а д у к е й: -- Іх дванаццаць. Двох затрымалі. Гэта тыя, што бадзяліся з бунтаўшчыком, якога ўкрыжавалі. Яны і людзі навакол цьвердзяць, што на іх сышоў Дух Сьвяты і што даў гэтым дванаццаці здольнасьць аздараўляць невылечных у Імя таго, што памёр на Крыжы. Яны сапраўды аздараўляюць невылечных. Гэта факт. Мы сьведкі. Аздаравілі Іцку-калеку, які не хадзіў ад нараджэньня.

2-г і с а д у к е й: -- Пры гэтым яны вярзуць баламуцтва і спакушаюць людзей.

А н н **а´** : -- Якое баламуцтва яны вярзуць?

2-г і с а д у к е й: -- Яны кажуць, што аздараўляюць у Імя памерлага на Крыжы Ісуса і называюць Яго Сынам Божым, Збавіцелем людзей.

1-ы с а д у к е й: -- Яны заклікаюць, каб усе жыды, і найперш архірэі і сьвятары, пакаяліся за забойства Ісуса. Інакш будуць пакараныя Богам разам з паганцамі.

А н н **а́**: *(ускоквае зь месца)*: -- Гэта немагчыма чуць, каб такія гадзіны поўзалі ў Ерусаліме!

К а я ф а: -- Хто іх слухае?

1-ы с а д у к е й: -- Усе слухаюць.

А н н **а́**: -- Гэта не дазволена! Гэта канец Ізраіля!

Ё а н: -- Чулі мы ўжо такое.

А н н **а́**: -- Ты гэта пра што?

Ё а н: -- Я пра іх.

К а я ф а *(да сьведкаў)*: -- "Усе" – гэта колькі?

1-ы с а д у к е й: -- Ужо каля пяці тысячаў.

*(Рух і ўзбуджэньне сярод прысутных.)*

Г а л а с ы: -- О-о!
-- Зноў баламуты!
-- Валацугі бязродныя!

С т а р э й ш ы н а *(да вартаўнікоў і слуг)*: -- Прывядзіце затрыманых. *(Прыводзяць Пётру, Яна і Іцку, які аздаравіўся.)* Хто вы?

П ё т р а: -- Я, Сымон-Пётра, апостал Хрыста.

Я н: -- Я, Ян Зэвядзеяў, апостал Хрыста.

І ц к а: -- Я, Іцка, які аздаравіўся.

*(Маўчанка. Усе ўзіраюцца на Іцку.)*

А л я к с а н д а р: -- Я пазнаю яго, але скажы нам сам, ты той бязногі Іцка, што сорак гадоў сядзеў пад храмам?

І ц к а: -- Я той самы калека Іцка, якога аздаравіў гэты чалавек *(паказвае на Пётру)* праз Госпада нашага Ісуса Хрыста Духам Сьвятым.

А н н **а́** *(ускоквае зь месца)*: -- Ну, чуеце, якое багахульства вярзе гэты вар'ят! Такіх у яму і камянямі біць!

Ё а н: -- Чулі мы ўжо такое.

А н н **а́**: -- Ты гэта пра што?

Ё а н: -- Я пра яго.

К а я ф а: -- Пётра і Ян, якою сілай ці якім імем вы ўчынілі аздараўленьне гэтага чалавека?

П ё т р а: -- Павадыры народу і старэйшыны Ізраілю. Калі ў нас дапытваюцца аб добрым учынку нядужаму чалавеку і чым ён аздароўлены, дык няхай ведама будзе ўсім вам, ды ўсяму народу жыдоўскаму, што аздароўлены ён у Імя Госпада нашага Ісуса Хрыста Назарэя, якога вы ўкрыжавалі ды якога Бог уваскрасіў зь мёртвых. Праз Ісуса Хрыста гэты, што быў калекам, стаіць перад вамі здаровым. Хрыстос – гэта камень вугольны, які вы адкінулі пры пабудове дома жыцьця. І ні ў кім іншым нямашка збаўленьня, бо няма іншага імя пад небам, дадзенага людзям, якім бы мы ўсе змаглі ўратавацца.

*(Маўчанка.)*

А н н **а́** *(да Яна)*: -- Ну, а што скажаш ты, каторы Ян?

Я н: -- Няма іншай дарогі да Бога, акрамя пакаяньня і веры ў славу Яго і Сына Ягонага праз Імя Хрыста, бо толькі праз Імя Хрыста будзе збаўленьне.

А н н **а́**: -- Нашай веры тысячы гадоў, а колькі тваёй, ты, што паверыў у шыбеніка?

Я н: -- Хрыстос – гэта працяг веры, Анн**а́**, толькі ты адкінуў яе.

А н н **а́**: -- Ты, каторы ніхто, яшчэ будзеш мяне, архірэя, вучыць!

Я н: -- Даруй мне, шматгодны Анн**а́**, я не магу вучыць цябе. Але Хрыстос казаў: той, хто тут сябе лічыць найлепшым, можа там стацца ў Бога апошнім.

А н н **а́**: -- Шматгодныя мужы, сьвятары і архірэі, глядзіце, гэтыя невучы яшчэ хочуць нас павучаць.

С т а р э й ш ы н а: -- Гэта нядобра. Але бязногі Іцка стаіць здаровы, і справа паважная.

А л я к с а н д а р *(да Пётры і Яна)*: -- Вы, што тут стаіцё перад намі, паслухайце, што буду казаць. Несправядліва вы вінаваціце нас і ўвесь Сангедрын у забойстве таго, хто памёр на крыжы. Не павадыры народу вырашалі тады, а рымскі Пілат, да якога зьвярнуліся нашы мужы. Ён вырашыў, і калі ён спытаўся, каго адпусьціць з-пад кары – Хрыста ці бандыта, -- дык жа не Сангедрын крычаў, каб пусьцілі з-пад кары забойцу, а ўвесь народ.

І цяпер паслухайце. Вы маеце дар лекаваньня. Мы не пярэчым, але не спасылайцеся на Імя таго, хто памёр на крыжы, калі гэтага захацеў тады сам народ. Інакш вы збунтуеце людзей, аслабне вера, і сіла, і ўвесь наш быт. Дык вось вам парада і нашае патрабаваньне: лякуйце, але не называйце Імя пакаранага на крыжы.

П ё т р а: -- Сангедрын прыняў пастанову пра сьмерць Ісуса. Я быў на судзе. Але я не пра тое. Скажыце, а ці справядліва перад Богам слухацца вас больш, чым Бога? Мы ж ня можам не гаварыць аб тым, што бачылі і чулі з вуснаў Гасподніх. Бога трэба слухацца больш, чым людзей. Бог продкаў і айцоў нашых падняў Ісуса, якога вы забілі, укрыжаваўшы на крыжы. Хрыста Бог узвысіў, каб даць усім нам пакаяньне і адпушчэньне грахоў. І сьведкі Хрыста – мы. І Духа Сьвятога Бог даў тым, што слухаюцца Яго.

(*Маўчанка.)*

С т а р э й ш ы н а *(слугам Сангедрыну паказвае на Пётру, Яна і Іцку)*: -- Выдаліце іх. А Іцка хай ідзе. *(Апосталаў і Іцку выводзяць.)* Будзем раіцца. Народ хіснуўся да іх, бо тое, што яны робяць, чалавеку не пад сілу. Яны кажуць, што за гэтым стаіць Бог і Дух Сьвяты, бо робіцца ўсё ў Імя таго, хто быў укрыжаваны. Калі даць ім волю, то што застанецца нам?!

А н н **а´**: -- Абкаменіць адступнікаў і спыніць блюзьнерства. Інакш ніхто нас проста ня будзе слухаць.

К а я ф а: -- Далёка зайшло. Іх дванаццаць. Мы ня ведаем, што за гэтым стаіць. Калі Бог, то як бы нам ня стаць супраць Бога.

А л я к с а н д а р: -- Найлепш сьмерць. Але калі ім сьмерць, то невядома, што стане, бо людзей збунтавалі.

Ё а н: -- Калі абкамяніць дваіх, то дзесяць застануцца. Калі засудзіць на сьмерць дванаццаць, то без Пілата не абыйдзешся. А гэтае цялё зьвернецца да народу, і невядома, што з таго будзе.

А н н **а´**: -- Ня трэба Пілата. Усіх абкамяніць, забіць камянямі – і канец. Натоўп дурны.

Ё а н: -- Ага. Чулі ўжо такіх.

А н н **а´**: -- Ты гэта пра каго?

Ё а н: -- Ды ўсё пра тых.

А н н **а´**: -- Я ведаю, што тут кажу.

Г а м а л і э л ь: -- Шаноўныя мужы, што тут прысутнічаюць, заклікаю вас паразважаць аб справах людзкіх, аб тым, што маем рабіць. Успомнім, як перад гэтымі днямі паўстаў быў такі Тэўда, які казаў, што ён нехта. Да яго прыстала і спакусілася каля чатырохсот людзей. Ён забіты, і ўсе, што слухаліся яго, разьбегліся і абярнуліся ў нішто.

Пасьля яго, ня так даўно, паўстаў нейкі Юда Галілейскі ды пацягнуў за сабой шмат народу. Дык і таго забілі, і ўсе, што слухаліся яго, рассыпаліся.

І цяпер, кажу вам: пакіньце гэтых людзей і дайце ім волю, бо калі ад людзей гэтая зьява, ці для людзей прыдумана, дык сама змарнее і сама скончыцца.

Але калі ўсё тое ад Бога, дык ня здолееце яе зьнішчыць, як бы ні стараліся, але глядзіце тады, каб самы ня сталіся змагарамі супраць Бога.

*(Маўчанка)*

К а я ф а: -- Разумна сказаў шматгодны Гамаліэль. Хай будзе, як будзе. Але з Ерусаліма іх трэба прагнаць.

А н н **а**´: -- Пагнаць, каб беглі без аглядкі. І даць, як трэба.

*(Падзывае двух слуг і нешта ім кажа.)*

Ё а н: -- Хай будзе, як Каяфа кажа.

Аляксандар: -- Хай будзе так.

С т а р э й ш ы н а: -- Паклічце іх. *(Слугі ўводзяць Пётру і Яна.)* Ян і Пётра, Сангедрын звальняе вас, забараняе называць імя Ісуса Хрыста і гаварыць пра Яго. Вы мусіце пакінуць Ерусалім. Заўтра каб вас тут не было. Пры непадпарадкаваньні – цямніца. Ідзіце прэч.

*(Пётра і Ян паварочваюцца і ідуць да выхаду.)*

А н н **а**´ *(ускоквае і крычыць)*: -- Слугі! Даць!

*(Двох слуг кідаюцца на апосталаў і б'юць палкамі па плячах. Пётра і Ян адварочваюцца і адступаюць, засланяючыся рукамі ад удараў, а потым вырываюць палкі ў слуг і адступаюць тылам да дзьвярэй.)*

А н н **а**´: -- Даць ім, даць!

*(Выскоквае на сярэдзіну і дробненькімі крокамі бяжыць да апосталаў, стараецца дастаць іх высьпяткамі. Апосталы засланяюцца рукамі. Тады Анн**а**´ плюе ў іх бок. Сядзельнікі Сангедрына паўставалі зь месцаў, назіраючы карціну. Ёан круціць пальцам каля скроні, паказваючы на Анн**а**´.)*

## С Ц Э Н А 3

(Пляц перад брамай Сангедрына. Пётра, Ян, потым усе апосталы, Жанчына.)

Я н *(у яго акрываўлены твар)*: -- Трэба дачакацца братоў.

П ё т р а: -- А во яны ідуць.

*(Падыходзяць апосталы.)*

Я к у б З э в я дз е я ў: -- А чаму ты ў крыві, брат?

П ё т р а: – Пацярпелі за Ісуса.

Я н: -- Напалі з палкамі. Але я гатовы хоць на сьмерць за Імя Яго.

А н д р э й: -- Нас не пусьцілі нават у двор.

Б а р т а л а м е й: -- Баяцца, каб ні ўзбудзіўся народ.

П ё т р а: -- Мы паглядзелі на іх зблізку. Ім галоўнае камандаваць і быць наверсе. Бог на другім месцы.

А н д р э й: -- О, так, каб быць першымі, жыцьцё пакладуць.

П ё т р а: -- Пакладуць, але чужое.

Я н: -- Ім бы хацелася нас забіць, але не рашыліся. Забаранілі называць Імя Хрыста, загадалі, каб да заўтра мы пакінулі Ерусалім.

П ё т р а: -- Пойдзем у Галілею і размяркуемся, хто куды па сьвеце. Настаў час сьведчыць і ствараць у Імя Яго.

*(Падыходзіць жанчына, скручаная ў тры пагібелі, абапіраецца на кій.)*

Ж а н ч ы н а *(да Пётры)*: -- Гэта ты той, што аздаравіў Іцку?

П ё т р а: -- Яго праз мяне аздаравіў Ісус Хрыстос Духам Сьвятым.

Ж а н ч ы н а: -- Ён жа памёр на крыжы.

П ё т р а: -- Ён уваскрос.

Ж а н ч ы н а: -- Ён ажыў?

П ё т р а: -- Так. Паўстаў зь мёртвых.

Ж а н ч ы н а: -- Калі аджыў, то гэта, відаць, быў д’ябал, што служыў Вэльзэвулу.

П ё т р а: -- Нешта голас мне твой знаёмы. Ці гэта ня ты хацела данесьці на мяне Сангедрыну, калі судзілі Хрыста?

Ж а н ч ы н а: -- Я не хацела данесьці. Я проста пазнала цябе, што ты быў з тым Хрыстом.

П ё т р а: -- Ён аздаравіў цябе ад баленьня ўнутры і цячэньня крыві. Ты падзяквала Яму, а потым здрадзіла, абазвала Яго лотарам, далучылася да ганіцеляў Яго, хацела прадаць мяне. Я сказаў тады, што ты няўдзячная Богу і горшая за Юду, які прадаў Сына Божага.

Ж а н ч ы н а: -- А што яму дзячыць, таму Хрысту, калі ўсё цяпер вярнулася зноў і хвароба мяне скруціла. Дык вось я праўду кажу, што гэта ніякі ня Сын Божы, але ашуканец ад Вэльзэвула. Ён ашукаў мяне.

П ё т р а: -- Як было табе дадзена, так было і адабрана, бо ты няўдзячная, пакусала руку даючага. Табе далі хлеба, ты кінула камень. Тваё сэрца поўсьцю абрасло. Нават пакараная, ты не разумееш, ня каешся і гадзіш на Імя Яго.

Ж а н ч ы н а: -- Вялікія людзі, першагерархі і сьвятары казалі ўсім, што ён лотар. Хіба я ня маю слухаць сваіх сьвятароў?

П ё т р а: -- Ты чула і бачыла Бога жывога, а паверыла людзям, што несьлі на Бога хулу. Дык што ты хочаш цяпер?

Ж а н ч ы н а: -- Хачу зноў быць здаровай. Аздараві мяне, зьлітуйся. Табе ж дадзена. Ты бачыш, як я пакутую.

П ё т р а: -- Мне дадзена ад Духа Сьвятога ў Імя Ісуса Хрыста. Але я не магу, і ніхто з нас ня можа адмяніць кару Божую за паклёп на Духа Сьвятога і на Імя Хрыста. Бог пакараў цябе. І толькі пакаяньне можа зьменшыць твае пакуты. Пакінь нас.

*(Жанчына, сагнуўшыся, аддалілася. Апосталы глядзяць ёй ўсьлед.)*

Я н: -- І ўсяроўна мне шкада яе.

П ё т р а: -- Я думаю, што і Богу шкода яе. Але зло мусіць быць пакарана. Інакш стане звыклым.

*(Ідуць у адваротны бок па кругу сцэны, гэта значыць “крочаць на месцы”, размаўляючы, часам спыняючыся.)*

А н д р э й: --Зло можа нават назвацца дабром.

П ё т р а: -- А ў апошнія дні, казаў Настаўнік, настане такі час, калі людзі будуць любіць зло і подласьць стануць хваліць, як дабро.

Я н: -- І як такое можа стацца!

П ё т р а: -- Можа, калі запануе зло. Ёсьць людзі, якім прыемная брыдота і дрэнь.

Я к у б З э в я дз е е ў: -- Любіць зло ёсьць грэх, казаў Настаўнік.

П і л і п: -- Часам зло любяць тыя, якія яго баяцца.

П ё т р а: -- І тады зло бярэ верх. Са злом трэба змагацца. Зло няўдзячнае. Гэта яго прыкмета.

Аднойчы настаў моцны холад. Ішоў чалавек. Ляжыць зьмяя і курчыцца. Уратуй мяне, кажа, я паміраю. “Не ўратую, бо ўкусіш”. “Не ўкушу, вер мне, пашкадуй.”

Чалавек паклаў зьмяю за пазуху. Яна адагрэлася і ўкусіла. “Ой, я памру, -- кажа чалавек, -- ты ж абяцала, што ня ўкусіш”. “Абяцала, -- кажа зьмяя, -- але ж ты ведаў, што я зьмяя.”

Б а р т а л а м е й: --Чалавек сярод зла можа загінуць ад сваёй дабрыні.

П і л і п: -- Патрэбны розум.

П ё т р а: -- Так, розум. Але мусіць быць воля.

Я н: -- Згаджаюся. Праўда. І ўсё ж такі шкода яе. Яна не разумее, што яе пакуты, -- гэта ёй пакараньне. Яна думае, што Бог дрэнны.

Я к у б З э в я дз е я ў: -- Пра што гаворым: У яе веры няма. Вось і ўся прычына.

А н д р э й: -- Кара можа быць пасьля сьмерці. Тады ўжо там нічога ня выправіш. Лепш, калі кара тут, пакуль жывы, бо можна пакаяцца, і ўсё адрабіць.

П ё т р а: -- Мы славім Імя Божае і церпім ад зла. Цярпеньне ў веры ўзмацняе дух.

Я к у б  З э в я дз е я ў: -- Каб быць добрым чалавекам, дастаткова выконваць дзесяць запаведзяў Божых. Гэта так проста.

П ё т р а: -- Настаўнік казаў, што ў апошнія дні ніхто ня будзе выконваць ніводнай запаведзі. Дзеці стануць зьняважаць і ненавідзець бацькоў сваіх, і гэта аб’явяць дабром.

Т а м а ш: -- Выходзіць, што ў апошнія дні Зямля будзе апанавана д’яблам.

А н д р э й: -- Выходзіць так. І гэта будзе Антыхрыст.

П ё т р а: -- Толькі чаму тое будзе дапушчана – ніхто ня ведае. Гэта таямніца. Але потым настане прышэсьце Хрыста.

М а ц ь в е й: -- У гэтым прадказаньні, браты, відаць сэнс нашай веры і працы. Сцьвердзіць веру ў Хрыста, каб стварыць умовы людзям дзеля дасягненьня жыцьця вечнага.

П ё т р а: -- Дзеля Царства Нябеснага.

М а ц ь в е й: -- Але ня ўсе скарыстаюць.

П ё т р а: -- Ня ўсе, але ёсьць сэнс. Ёсьць сэнс, калі наперадзе зьзяе сьветлая зорка надзеі, зорка вечнага шчасьця, і ты ведаеш праз веру сваю, што яно ёсьць, што яно існуе ў вечнасьці і што можна яго дасягнуць, калі моцна любіць, імкнуцца, верыць і жыць для Яго.

Як добра, што ёсьць Бог, што Ён справядлівы, строгі і міласэрдны, што чалавек не адзінокі, што ёсьць зьмест у ягоным жыцьці, якое б яно ні было. Гляньма ў Неба, братове, падымем сэрцы ў гару.

*(Усе спыняюцца і глядзяць у неба.)*

Слава Табе, Госпадзе! Мы пакідаем Ерусалім, разыходзімся па ўсім сьвеце, каб несьці слова Тваё. Слава Табе, Госпадзе!

А п о с т а л ы: –  Слава Табе, Госпадзе!

*(Апосталы кланяюцца адзін аднаму, славячы Хрыста,  і па аднаму, па два, па тры разыходзяцца ў розныя бакі. Застаецца адзін Пётра, абапершыся на доўгі дарожны кій. Ён паварочваецца і ідзе да авансцэны, каб казаць глядачам):*

Я тут, у гэтым міраклі, перад вамі ёсьць апостал Сымон-Пётра. Пётрам назваў мяне Хрыстос. Я такі ж чалавек, як і вы. Мы з братам Андрэем рыбакі і жылі з гэтай працы. Калі прышоў Хрыстос і паклікаў: “Ідзеце са Мной”, -- мы пайшлі.

Цяпер я выпраўляюся ў Рым. Там я 25 гадоў буду першым хрысьціянскім біскупам у Рыме. Пры імператары Нэроне мяне забілі сьмерцю на крыжы. Але я недастойны памерці так, як памёр Хрыстос і прасіў катаў, каб укрыжавалі мяне ўніз галавой. Я вам скажу – гэта была страшная, пакутная сьмерць. Але я вытрымаў і памёр годна. Як і ўсе апосталы, мы ніколі не забываліся, што за намі Хрыстос. Мне было 57 гадоў.

Ведаеце, што я хацеў бы сказаць вам, добрым людзям: жывіце добра,  жывіце доўга, але ня трэба баяцца сьмерці. Ня бойцеся! Трэба баяцца граху, страты годнасьці і аблічча людзкога, бо жыцьцё не вяртаецца.

Вы не ўяўляеце, як на Небе добра, як хараша ёсьць. Гэта сьвет, дзе няма зла. Праміне толькі імгненьне, якое здасца вам такім кароткім, і я вас спаткаю там з радасьцяй і пашанай, бо я люблю вас. Я люблю вас усіх.

А цяпер я кіруюся ў Рым на пярэдні край Хрысьціянства. Добра, што вы ня ведаеце, што такое Рым і Нэрон, і яго існаваньне.

Ня бойцеся, вечнасьць прыўкрасная. І яе для людзей адчыніў Хрыстос.

*(За плячыма Пётры ў пэрспэктыве сцэны зьяўляецца сьвятло, якое запаўняе ўсю сцэну. Наперадзе блакітнае неба і белая квецень цьвітучых яблынь і вішняў, і белыя воблакі над садамі. Гэта ранішняе маёвае сьвятло. Маёвая раніца. Чуваць, як пяюць жаўранкі. Пётра йдзе, абапіраючыся на кій і зьнікае ў глыбіні сцэны.)*

Канец міракля

*19. 04. 2020. Зянон*

# Б О Ж Ы  Д А Р

(Экзыстэнцыяльна-фантастычная драма ў 2-х дзеях
для тэатра і чытаньня)

Дзеецца ў Чарнобыльскай зоне радыяцыі ў Беларусі
ў 1986 годзе.

## А С О Б Ы

**Р ы г о р  Д а н і л е в і ч** – селянін-калгасьнік, 54 гады, пастар і прапаведнік эвангельскай абшчыны пяцідзесятнікаў.

**Х в я д о с я** – ягоная жонка, 50 гадоў, сялянка-калгасьніца.

**А н д р э й** – іхны малодшы сын, 25 гадоў, студэнт 5-га курса Беларускага Інстытуту Механізацыі сельскай гаспадаркі.

**М і х а с ь** – іхны сярэдні сын, 27 гадоў, селянін-калгасьнік, музыкант.

**В у л ь к а** – жонка Міхася, 26 гадоў, сялянка-калгасьніца.

**М а ц е й** -- старэйшы сын, 29 гадоў, селянін-калгасьнік.

**Ю с т ы н а** -- жонка Мацея, 27 гадоў, сялянка-калгасьніца. Жывуць асобна ад бацькоў.

**К а з ю к  Б а г у ц к і** – селянін-калгасьнік, 50 гадоў.

**М а р ы л я** -- ягоная жонка, 50 гадоў, сялянка-калгасьніца.

**В і к т а р** – іхны сын, 27 гадоў, селянін-калгасьнік, механізатар.

**С а б і н а** – жонка Віктара, 26 гадоў, сялянка-калгасьніца

**С о н ь к а** -- старэйшая дачка Багуцкіх, 29 гадоў, сялянка-калгасьніца.

**А л е с ь  Б у д к е в і ч** – муж Сонькі, 32 гады, селянін-калгасьнік, трактарыст-механізатар. Жывуць асобна ад бацькоў.

**Л ю б к а** – малодшая дачка Багуцкіх, 20 гадоў, скончыла медвучылішча, медсястра.

**К а с м а г о н а ў  П а в е л  І л ь і ч** – інструктар райкама партыі.

**Т р а к т а р ы с т**

**Л я в о н  Б у т у р л я** – студэнт, хлапец зь Вярэнава, каля Ліды.

**С т а н і с л а ў  А л я ш к е в і ч** – студэнт, хлапец зь Вярцілішак, каля Гародні.

**Р а м а н  К а с ь ц ю к** – студэнт, хлапец з-пад Пінска, член КПСС.

**Р а ж к о ў  І в а н  А л е г а в і ч** -- выкладчык марксісцка-ленінскай філасофіі.

**1-ы  ч л е н  Дз я р ж а ў н а й  к а м і с і і  п а  э к з а м е н а х**

**2-і  ч л е н  Дз я р ж а ў н а й  к а м і с і і  п а  э к з а м е н а х**

**3-і  ч л е н  Дз я р ж а ў н а й  к а м і с і і  п а  э к з а м е н а х**

# ДЗ Е Я 1

## С Ц Э Н А 1

(Хата Данілевічаў. Рыгор, Хвядося, Міхась, Вулька заходзяць у хату пасьля маленьня. Потым Андрэй.)

Р ы г о р: -- Вось мы памаліліся і ёсьць у сваёй хаце. І дзякуй Богу, што мы жывем.

М і х а с ь: -- І жыць будзем, бацька. Будзем. Ніякі атам нас ня возьме. У мяне дык як нейкія крылы за плячыма. Проста адчуваю – Гасподзь нас не пакіне, што б там ня сталася.

Х в я д о с я: -- Дык ужо ж сталася, сынок, наказалі зьязджаць і нічога з сабой ня браць – яды на дзень і дакуманты.

М і х а с ь: -- Ну, тое яшчэ невядома, ці праўда. Камісары ж маўчаць, як бы й не было нічога.

Р ы г о р: -- Праўда такая, сыне, што станцыя выбухнула, і атам на нас пасыпаўся. Выходзіць, што як і напісана: “І звалілася зь Неба вялізная зорка, як паходня палаючая і ўпала на траціну рэк і водаў, і шмат людзей памерла ад тых водаў, бо прагорклі”. Але мы ні смаку, ні паху ня чуем і нічога ня бачым, а людзі бягуць.

М і х а с ь: -- Коршакі і Ладуцькі ўсё ж ад’едуць. За дзяцей баяцца.

Р ы г о р: -- Ня трэба тут нічога баяцца. Тут наша месца і наша зямля. Вера ўратуе нас. Бога просім. А калі па сьвеце мыкацца, то шчасьця ня будзе, згінем, як рудыя мышы.

М і х а с ь: -- На той бок Прыпяці ўжо ўсе павыязджалі: Дзёрнавічы, Даўляды, Махаеды, нават Вепры зьехалі.

В у л ь к а: -- Пра нас проста забыліся.

М і х а с ь: -- Пэўня што: ні дарог, ні мастоў, вакол балота ды лес. Ім страшна.

Р ы г о р: -- Ня лесу яны баяцца, а вады прагорклай.

*(Уваходзяць Мацей і Юстына.)*

М а ц е й: -- Бацька, мы застаёмся.

Р ы г о р: -- Дзякуй Богу.

Х в я д о с я: -- Камісары найперш кажуць дзяцей вывезьці.

М а ц е й: -- Мала што яны кажуць. Дзеці там, дзе бацькі.

В у л ь к а *(глядзіць у вакно):*-- А во, гляньце, Андрэйка ідзе.

Х в я д о с я: -- Андрэйка ідзе.

А н д р э й *(з парогу):* -- Слава Хрысту! *(Кланяецца.)*

У с е: -- На векі вякоў.

А н д р э й: -- А вось і я тут. Бацька! *(Абымае бацьку.)* Мама! *(Абымае маці і цалуе ў руку, потым абымае Міхася, Вульку, Мацея і Юстыну, усіх называючы. Тыя адказваюць: “Андрэйка, вітаем”.)*

Х в я д о с я: -- От добра, сыночак, што прыехаў. Якраз трэба.

Р ы г о р: -- Дык сядай, сын за стол, распраніся во. І што там чуваць у Мінску?

А н д р э й: -- Як звычайна, бацька, у тым Мінску ўсё па-сьвінску.

М а ц е й: -- Гэта што?

А н д р э й: -- А тое, браце, што калі загаворыш да якога начальніка, той лямантуе: “Разгаварывайце па-чэлавечаскі”.

М а ц е й: -- Не зразумеў.

Р ы г о р: -- Як гэта?

А н д р э й: -- Гэта значыць, што ён па-беларуску ня хоча чуць. Камунізм будуе. А там будзе “чэлавечаскі”.

Х в я д о с я: -- Пэўня што, панаганялі камісараў з Масквы. Была я ў тым Мінску.

А н д р э й: -- Каб жа толькі маскалі. Свае гаўкаюць, што выбіліся ў начальства.

Р ы г о р: -- Мужыкі ёсьць мужыкі, ды яшчэ калхозьнікі. Слвам, так, Андрэй. Камісары загадалі кідаць усё і высяляцца. Машыны да нас не падгоняць, бездараж, дык каб мы самы прышлі на зборку. Але мы нікуды ня едзем. Застаемся.

А н д р э й: -- А Багуцкія?

Р ы г о р: – Багуцкія застаюцца. Коршакі і Ладуцькі ад’едуць.

А н д р э й: -- Дрэнна,бацька. Першае – гэта раскол нашай абшчыны. Другое – гэта сьмерць ад радыяцыі. Тут нельга быць нават пару гадзін. Кожны дзень наш тут набліжае нас да сьмерці.

Р ы г о р: -- Усе так вырашылі сёньня на малітве. Хто верыць – застаёмся. Але ніхто нікога не намаўляе, не трымае. Кожны вольны. І ты таксама. Мы, сынок, верым, што Гасподзь зжаліцца і ўратуе нас. Мы верым у Яго. А калі не ўратуе, то так Богу патрэбна. Мы аддаемся ў рукі Яго.

Мыкацца па сьвеце з чужой ласкі і з чужога прымусу мы ня будзем. Мы – шляхта і верым у Бога. Тут наша Бацькаўшчына і тут наш род.

*(Цішыня і маўчанка)*

А н д р э й: -- І я веру, бацька. Мне застаўся дзяржаўны экзамен і абарона дыплёма. Трэба абараніцца. Мяне ўжо размеркавалі інжэнерам у Кіраў.

Ю с т ы н а: -- Ой, Божа ж мой! У Расею!

А н д р э й: -- Не, якая Расея! У Махаеды, там ля ўкраінскай мяжы. Гэта камісары прыдумалі «Кіров». Махаеды – ім жа “непрыятна”. Дык вось яно ўсё валіцца. Але шкадаваць ня буду.

Р ы г о р: -- Валіцца шмат што. Але мы ня валімся. Вырашай, сынок. Верыш – застаешся. Заўтра скажаш.

*(Маўчанка)*

## С Ц Э Н А 2

(Хата Багуцкіх. Любка, потым Андрэй.)

Л ю б к а *(глядзіць у вакно. Сьмяецца):* -- О, нарэшце!

А н д р э й *(пастукаўшы):* -- Ці можна?

Л ю б к а: -- Можна, можна. Ужо бачыла яснага пана ў вакно.

А н д р э й: -- Вітаю цябе, Любачка! Які харошы дзянёк сёньня маёвы! Як сонейка сьвеціць! Як добра мне цябе бачыць!

Л ю б к а: -- Гляньце, во! Не забыўся яшчэ ў тым Менску. А то можа там якая “пача” падкруцілася, Андрэйку ахмурыла, а? *(Сьмяецца.)* Ох! “Как многа дзевушак харошых!”

А н д р э й: -- Любка, Любка, ты мая галубка, поўная задоры і агню!

Л ю б к а: -- Самая нялепная ашыбка, то, што ты ўходзіш ад мэню. *(Абое весела рагочуць.)*

А н д р э й: -- Фармалізм! “Дзекадзенскае творчаства”. Я табе нешта прывёз, Любка. Падарунак зь Менску.

Л ю б к а: -- О, як цікава. Можна ўгадаю.

А н д р э й: -- Не ўгадаеш. Вось. *(Дае кніжку, загорнутую ў белую паперу і перавязаную блакітнай стужкай.)*

Л ю б к а: -- Дзякуй. *(Разгортвае пакунак і гартае кніжку.)* О-о-о! Неверагодна! Андрэйка! Эвангельле па-беларуску! Дзякуй, мой ты Андрэйка харошы, дзякуй! Адкуль жа такі скарб?

А н д р э й: -- Ты ж разумееш, адкуль. Адтуль *(махае рукой убок).* Гэта цэлая гісторыя. Але яна ўжо ня мае значэньня. Кніга ў тваіх руках, мілая Любачка. Хай шчасьціць і Гасподзь над намі.
Дык вось, а ці бацькі дома?

Л ю б к а: -- А як жа, усе дома. Паехалі бульбу садзіць, а я ў хаце за гаспадыню. Печ выпаліла, капуста варыцца, бабка даходзіць і бліноў гара. Так што сядай, Андрэйка, за стол, будзеш бліны есьці.

А н д р э й: -- А ў савецкім кіно, як спаткаюцца, дык цалуюцца-цалуюцца.., як галубкі.

Л ю б к а: -- Дзіва што, гэта ж кіно. А потым пасварацца і “не разгаварывают”.

А н д р э й: -- Інакш кіна ня будзе. Але я Любку шаную і ўсё жыцьцё шанаваць буду.

Л ю б к а: -- Няўжо ўсё жыцьцё будзеш?

А н д р э й: -- Усё жыцьцё, Любка, вер мне і згаджайся.

Л ю б к а: -- Ох, нешта ты так разумна кажаш, што і зразумець цяжка.

А н д р э й: -- Тут, як у песьні пяецца: “Каб я жоначку меў, я б ня піў і ня еў...” Дык от, каб ты, Любачка, пагадзілася стаць маёй жонкай, дык я быў бы найшчасьлівейшым чалавекам на сьвеце і ўсё жыцьцё цябе любіць буду. Перад Богам кажу. Гэта сур’ёзна.

Л ю б к а: -- Вось жа даўно мы дружым, а нешта мне аж сэрца ёкнула. Андрэйка, і я цябе буду шанаваць і таксама ўсё жыцьцё любіць буду. Вер мне. Бог над намі.

А н д р э й: -- Любка ты мая любімая. Нам будзе добра. Але трэба пагаварыць. Нас тут засталося чатыры сям’і, а калі разам, то, фактычна, дзьве. Дык сватамі будуць мае браты. Учора мне бацька сказаў падумаць, каб я тут разам застаўся. Праз месяц у мяне дзяржаўны экзамен і абарона дыплёма. Сюды мяне ўжо не накіруюць, бо людзей выселілі. Дадуць іншы варыянт працы. Беларусь вялікая. Што ты на гэта скажаш?

Л ю б к а: -- Гэта каб некуды паехаць і там жыць?

А н д р э й: -- Такі варыянт.

Л ю б к а: -- Я з табой, Андрэйка, гатовая, хоць на край сьвету. Але я шаную словы бацькі і дзядзькі Рыгора. Яны сказалі, што вера ўратуе нам тут жыцьцё і здароўе, таму Бацькаўшчыну не пакінем. Кожны вырашыў сам па веры сваёй. Я веру, што Госпадзь уратуе нас тут. Таму вырашай ты. Вырашыш ад’ехаць – я паеду з табой.

А н д р э й: -- Дзякуй, мілая, дзякуй, што ты так думаеш. Я цалкам веру, што Госпадзь захавае тут нам жыцьцё і здароўе. Я веру, што Ён зьберажэ нас усюды. Дык вось там (значыцца “усюды”) шырэйшае жыцьцё. І адначасна там саветы, камуністы, атэізм і перасьлед. Выбар якраз у гэтым. Коршакі і Ладуцькі выбралі шырокае жыцьцё разам з саветамі і пад саветамі. Нашыя бацькі выбралі радзіму і свабоду ад камісараў. Тут ня выбар у веры, тут выбар сацыяльны. Для мяне важная ня толькі свая свабода, але і свабода Айчыны.

Л ю б к а: -- У гэтым сьвеце цябе ўжо ніхто не зразумее, Андрэйка.

А н д р э й: -- А хто нас увогуле разумее у гэтым іхным сьвеце, нас, значыцца, “сектантов” і “изуверов”. А за беларушчыну ўвогуле пасадзяць.

Л ю б к а: -- Ты хочаш, каб цябе пасадзілі?

А н д р э й: -- Не хачу, бо праўда за мной.

Л ю б к а: -- Я іх таксама не баюся. Як мы вырашым, так і будзе. Я з табой.

А н д р э й: -- Я для сябе ўжо даўно вырашыў. Але трэба яшчэ абараніць дыплом. Гэта сацыяльнае сьведчаньне асобы. Мы ня ведаем, што наперадзе, што Бог нам дасьць і як пакіруецца наш лёс.

Л ю б к а: -- А пасьля абароны што?

А н д р э й: -- Еду ў Божы Дар. Мы будзем тут. Я веру, што мы будзем жыць.

Л ю б к а: -- У мяне ўвесь час нейкая дзіўная радасьць у душы. Я так спадзяюся, што мы не памрэм. Я так веру, што Гасподзь зжаліцца над намі. Веру, што так будзе. Будзе так.

*(Андрэй моўчкі бярэ руку Любкі і цалуе яе.)*

## С Ц Э Н А 3

(Хата Багуцкіх. Усе Багуцкія ў зборы: Казюк, Марыля, Віктар, Сабіна, Любка, Алесь Будкевіч і Сонька.)

К а з ю к: -- Ну, дык што – усе сабраліся. Хата прасторная. Клічам Данілевічаў.

В і к т а р: -- Ага, паўшляхты ў зборы.

С о н ь к а: -- Памыліўся, Віцька. Пакуль што яшчэ толькі чвэрць шляхты.

В і к т а р: -- А во йдзе яшчэ чвэрць, дык і палова.

*(Уваходзяць усе Данілевічы: Рыгор, Хвядося, Андрэй, Міхась, Мацей, Юстына і Вулька.)*

Р ы г о р: -- Слава Хрысту!

У с е: -- На векі вякоў слава.

К а з ю к: -- Сядайце, госьці, дзе можна, вось на лавы, крэслы, табурэткі. Цяпер нас паменела – усім месца хопіць.

Р ы г о р: -- Дык з Богам і пачнем гаворку. Усё добра. З бульбай управіліся, засталіся гароды, рунь скора ў колас дасьць і яблыні цьвітуць. Але ўсё гэта на сотках. Да большага мы былі не гатовыя. Тым часам усёй нашай засьцянковай зямлі, што калісьці саветы адабралі, -- паўтары валокі; трыццаць гактараў, значыцца. Цяпер камісараў няма, зямля зноў наша. Але мінула пяцьдзесят гадоў, становішча зьмянілася. Трэба ўсё разьмеркаваць. Я маю плян, але хацеў бы, каб усе выказаліся, можа, скажуць што лепшае.

М а ц е й: -- Зямлю гараць прыдзецца коньмі. З трактарам, відаць, не атрымаецца. Саветы вывезьлі трактары і кароў, а коней пакінулі. Ходзяць самапасам. Да зімы трэба забраць коней, колькі зможам.

В і к т а р: -- Добра было б, каб восем коней. Гора б ня ведалі. А трактар я здабуду. Пад Брагінам некаторыя на полі пакінулі.

К а з ю к: -- Восем не пацягнем – чатыры. Па адным кані на двор. Два кані ўжо маем. І тэрмінова трэба сеяць авёс.

Р ы г о р: -- Так. Галоўнае коні. Усё астатняе ў нас ёсьць. І цяпер пра зямлю.

А л е с ь  Б у д к е в і ч: -- Трыццаць гактараў найлепш упраўляць абшчынай, разам.

А н д р э й: -- І як ты тое ўяўляеш?

А л е с ь: -- Разам гарэм, сеем, садзім, жнем, малоцім. Усё агульнае.

А н д р э й: -- А потым што?

А л е с ь: -- А потым агульны прадукт. Кожны атрымлівае, колькі трэба. Пароўну.

А н д р э й: -- Адным словам, камунізм. Мы ж ад яго ўцяклі.

С а б і н а: -- А што тут дрэннага, калі разам? Лягчэй будзе.

В і к т а р: -- А можа і праўда, разам лепш. Асабліва, калі трактар здабудзем.

С о н ь к а: -- Ой, пэўня, што лепш. Тут і сам Бог лучыць.

К а з ю к: -- Каб тут не памыліцца, але выглядае, што як бы разам лепей. Сілы болей.

А н д р э й: -- І дзядзька Казюк пагаджаецца на камунізм?

К а з ю к: -- Пры чым тут камунізм. Я проста мяркую, як зрабіць лепш. Калі хто параіць зрабіць выгадней, то кажэце.

А н д р э й: -- Паслухайце мяне ўсе. Я вам раскажу гісторыю. Амэрыку калянізавалі і стварылі эвангелісты, пратэстанты, якія ўцяклі ад перасьледу ў Эўропе. І вось адна абшчына прыплыла, купілі за бясцэнь у індзейцаў зямлю і вырашылі, што будзе ўсё агульнае. Разам працуюць, разам дзеляць, разам спажываюць. Але ніяк не маглі выбіцца зь беднасьці і нястачы, пачаліся сваркі, зайздрасьць і злосьць. І вера аслабла. Бо ведама – людзі ж розныя, адзін працуе лепш, як для сябе, другі горш, бо, маўляў, агульнае. Адзін рупіцца, а іншы думае, а што мне больш за ўсіх рабіць трэба. Аднаму хочацца жыта пуд, іншаму – два. Таму, хто атрымаў два, іншы стаў зайздросьціць, а іншы яго ня любіць. І пайшло-паехала. Такая прырода чалавечай сьведамасьці, калі ягоная праца абязьлічана і свайго няма. Такая праца непрадукцыйная, і людзі не імкнуцца аддана працаваць. У выніку – агульная нястача, незадаволенасьць і беднасьць.

І вось тады разумны іхны пастар, якога ўсе паважалі і слухалі, падзяліў усю зямлю і ўсё быдла, і кожнай сям'і вызначыў частку ва ўласнасьць. Пачалі працаваць, і кожны стараўся для сябе, рупіўся і шчыраваў. Гэтак абшчына разбагацела, людзі пазбавіліся бяды і нястачы.

У нас, дарагія браты і сёстры, і дарагія бацькі нашыя, будзе так, як мы пакіруемся. А што такое калгасы, мы ведаем. Ёсьць справы, якія трэба будзе рабіць талакой. Але ўласнасьць на сваю зямлю, на сваю маёмасьць і нерухомасьць мусіць быць у кожнага.

Паверце, я недарма вучыўся, ведаю, што кажу (хоць камуністы вучылі іншаму). Вось адзін старэйшы, каму даверыце, хай усё і разьмяркуе. Я кажу “адзін старэйшы”, бо, як толькі стане “камісія” ды галасаваньне, -- тут канец усяму. Справа галасаваньнем ня робіцца.

*(Доўгая маўчанка)*

К а з ю к: -- А ведаеце, калі падумаць, Андрэй праўду кажа. Наглядзеліся мы на тыя калгасы. Даю ў тыл. Мець сваё лепей.

Р ы г о р: -- І дзяды так жылі, і ўся тут наша шляхта так жыла.

К а з ю к: -- Няхай во Рыгор і прапануе, як зрабіць, а мы пагодзімся.

В і к т а р: -- Згода. Як пастар скажа, так і зробім.

М і х а с ь: -- Андрэй добра казаў.

К а з ю к: -- Грамада, ці згода?

У с е: -- Згода. Хай будзе так.

Р ы г о р: -- Нас тут два рады і чатыры невялікія сям'і, чатыры дамы і чатыры малыя гаспадаркі на сотках. Сілы невялікія, і шмат зямлі мы тут не апрацуем пры нашых абмежаваных магчымасьцях. Таму так. Зямля тут, практычна, аднолькавая. Кожнаму па пяць гактараў. Дзесяць гактараў пакідаем у запас пад папар і пакуль ня дзелім. Пчаліную пасеку, якую даглядаў Казюк, ня дзелім, бо няма сэнсу. Пакідаем Багуцкаму. Рынку ў нас не існуе. Можа быць толькі абмен прадуктамі. Цяжкія працы робім талакой. Агульныя справы вырашаем на сходзе. Давайце так і зробім.

У с е: -- Згода, згода, разумна.

М а р ы л я *(глядзіць у вакно):* -- А гэта ж во! Здаецца, камісары прыехалі на трактары.

С о н ь к а: -- Іх яшчэ не хапала!

Х в я д о с я: -- Божа ж мой, Божа, будуць нас выганяць.

Ю с т ы н а *(глядзіць у вакно):* -- А во, йдзе! Гляньце, гэта ж нейкі чорт у балахоне!

В у л ь к а: -- Радыяцыі баіцца.

*(На парозе зьяўляецца інструктар райкама КПСС у балахоне хімбясьпекі з капюшонам, у гумовых зялёных ботах вышэй калена, у пальчатках і ў засьцерагальных акулярах, на галаве ў*

*яго пад капюшонам чорны матацыклетны “хэлм”. Побач зь ім трактарыст, апрануты, як звычайны калгасьнік.)*

І н с т р у к т а р: -- Здрастуйця. А што гэта тут за сход? А?

*(Маўчанка)*

К а з ю к: -- А вы хто, чалавеча?

А н д р э й: -- Зь якой плянэты і зь якой галактыкі?

*(Сьмех у хаце)*

В у л ь к а: -- Гэта, відаць, касманаўт прыляцеў.

І н с т р у к т а р: -- Я інструктар райкама партыі Павел Ільіч Касмагонаў.

В у л ь к а: -- Ну, я ж і кажу, што касманаўт.

К а с м а г о н а ў: -- Пасёлак Акцябар рашэньнем бюро райкама партыі падлягае адсяленьню, пабудовы – утылізацыі. Тут засталіся чатыры сям’і Данілевічаў і Багуцкіх зь дзецьмі. Дарогі няма, дык заўтра будуць два трактары з прычэпамі. Рыхтуйцеся.

А н д р э й: -- А які гэта вы сказалі пасёлак?

К а с м а г о н а ў: -- Акцябар.

А н д р э й: -- Няма такога.

К а с м а г о н а ў: -- Як няма? А тут што?

А н д р э й: -- Тут засьценак Божы Дар.

К а с м а г о н а ў: -- Як гэта? У мяне вось прадпісаньне. Тут напісана “Акцябар”.

А н д р э й: -- Тут не Акцябар.

*(Касмагонаў лыпае вачыма)*

Т р а к т а р ы с т: -- Дык я вам скажу, таварыш інструктар, гэты засьценак Божы Дар у 30-х гадах перайменавалі ў пасёлак Акцябар, а палову жыхароў расстралялі.

К а с м а г о н а ў: -- Я ж і кажу – Акцябар.

Р ы г о р: -- Я вам патлумачу, таварыш касманаўт.

К а с м а г о н а ў: -- Касмагонаў.

Р ы г о р: -- Выбачайце, таварыш касманаўт Касмагонаў. Я Рыгор Данілевіч, пастар эвангельскай абшчыны. Мы, усе тут прысутныя, карэнныя жыхары Божага Дару, вырашылі, што застаемся тут жыць і нікуды ня будзе зьязджаць. Гэта наша воля.

К а с м а г о н а ў: -- Але гэта супярэчыць рашэньню бюро райкама партыі. Тут што, сабатаж? Я так разумею.

А н д р э й: -- Няправільна разумееце. Бюро райкама мусіла б спытаць пра выезд у нас, а не прымаць за нас свае рашэньні. Надзвычайнага становішча ніхто не аб’яўляў.

К а с м а г о н а ў: -- Ну, партыя пытаць у вас дазволу ня будзе. Насельніцтва не разумее сур’ёзнасьці становішча. І хто вы такі, што выступаеце супраць лініі партыі? Ваша прозьвішча?

А н д р э й: -- Андрэй Данілевіч. Вы мне тут, таварыш лінейны, лініяй не казырайце. Лінія вашай партыі скончылася ў Чарнобылі, нават пункціру не засталося.

Х в я д о с я: -- Андрэй, сынок, спыніся.

А н д р э й: -- І балахоны хімбясьпекі вас ужо не ўратуюць.

Х в я д о с я: -- Андрэй!

К а с м а г о н а ў: -- Так. Ідзеалагічэская дыверсія. Так і запішам. Па-вашаму, партыя, значыцца, скончылася. Таварышы, бюро райкама настойліва вам рэкамендуе пакінуць першасную зону радыяцыі. Тут нельга жыць. Гэта зона сьмерці. Уцякайце, пакуль ня позна. Знайшліся людзі, якія вам хочуць дапамагчы. Па-чалавечаму вам кажу.

Р ы г о р: -- Дзякуй, таварыш інструктар, за клопат пра нас і выбачайце, што мы тут з вамі паспрачаліся. Мы не хацелі вас патурбаваць і не вінавацім партыю. Мы цэнім ваш учынак, што вы прыехалі ў 50 кюры, не зважаючы на небясьпеку, каб ратаваць нас. Самы разумееце, становішча складанае. Людзі

напружаныя. Вось і вам, бачу, цяжка дастаецца гэтае адказнае даручэньне. Але зразумейце нас правільна. Мы вырашылі застацца тут, дзе нарадзіліся і жылі. І гэта не ад неразуменьня, а якраз ад найвышэйшага ўсьведамленьня, што так нам трэба зрабіць. І гэта наша воля. Перадайце нашыя добрыя зычэньні людзям, што пра нас клапоцяцца і да пабачэньня. Не заставайцеся тут доўга, вяртайцеся, бо радыяцыя вельмі высокая. Шчасьлівай дарогі. З Богам. *(Кланяецца нізка.)*

К а с м а г о н а ў *(крыху зьбянтэжаны):* -- Ну, што ж, як хочаце. Я ўсё дакладу райкаму партыі.

*(Выходзіць разам з трактарыстам)*

М а р ы л я: – Ну і што цяпер будзе?

К а з ю к: -- А нічога ня будзе. Паедзе і дакладзе. Адчэпяцца. Надта мы ім патрэбныя.

М а ц е й: -- І я так думаю. Дарог няма. Бадзяцца ня будуць. Тым больш – радыяцыя.

М і х а с ь: -- Дык жа цяпер яшчэ і калючы дрот вакол, і міліцыя стаіць. Мы пад такой аховай. Сьпім спакойна.

А н д р э й: – Нешта дзіўнае тут творыцца. Усё ж засакрэцілі. Пішуць, што нічога страшнага не адбылося, маўляў, невялікая аварыя. Камісары цьвердзяць, што і радыяцыя ня страшная, і раптам гэты «касманаўт» з райкама тут аб'явіўся.

М і х а с ь: – Нешта зьмянілася. Далі адмашку.

А н д р э й: – Дык жа яны і цяпер кажуць, што нічога страшнага, маўляў, усё пад кантролем.

М і х а с ь: – Яны, відаць, убачылі, што людзі самы ўцякаюць, дык вырашылі гэта ачоліць. Усё, як у камуністаў.

Р ы г о р: -- Ну, няхай яны там з сабой разьбіраюцца. Цяпер усе ідзем на поле. Там яшчэ пагаворым і параімся.

К а з ю к: -- Во-во, і пасеку паглядзім. Тама пшчолкі лётаюць. Усё цьвіце.

*(Выходзяць з хаты. Рыгор затрымліваецца каля Андрэя.*

*Здалёку цікуе Любка.)*

Р ы г о р *(Андрэю)*: -- Я от цяпер падумаў, што дарма не даваў табе дзяжкі малому. Трэба пра людзей думаць, а не сваю натуру выстаўляць. Хочаш, каб, як у 30-х, прыехала НКВД і пастраляла ўсіх. Тут ня жарты.

*(Выходзіць)*

Л ю б к а *(падыходзіць з падсьмехам)*: -- Ну, што, атрымаў!

А н д р э й: -- Атрымаў. Але нягледзячы на гэта, мілая Любачка, я цябе хораша люблю.

Л ю б к а: -- Ах, што ты кажаш? Няўжо хораша?

А н д р э й: -- А-я-я-я-яй, пачакай, пачакай, што гэта ў цябе з вушкам сталася?

*(Нахіляецца і хутка цалуе Любку)*

Л ю б к а *(адскоквае)*: -- Ах, ты, хітрунчык! А ну заплюшчы вочкі – загадку загадаю.

А н д р э й: -- Заплюшчыў.

Л ю б к а *(падбягае, хутка цалуе Андрэя, адбягае, паварочваецца і дражніць):* -- Го-го-го-го-го!

А н д р э й: -- Го-го-го, каза! Го-го-го, шэра! Дзе каза рогам, там жыта стогам! Го-го-го, каза!

Л ю б к а: -- Го-го-го, каза! Дзе каза хвастом, там Андрэйка пластом. Го-го-го, каза!

*(Абое, рагочучы, выходзяць)*

## С Ц Э Н А 5

(Студэнцкі інтэрнат у Менску. Андрэй Данілевіч, Лявон Бутурля, Станіслаў Аляшкевіч, Раман Касьцюк сядзяць за сталом, абклаўшыся кніжкамі.)

Л я в о н  Б у т у р л я: -- І ўсё ж такі зразумець цяжка. Мы інжэнеры па механізацыі сельскай гаспадаркі. Навошта мне здаваць на дзяржаўным экзамене гэтую марксісцка-ленінскую дрындзю?

С т а н і с л а ў  А л я ш к е в і ч: -- Ну што ты, простых рэчаў не разумееш. Трактар без марксізму гараць ня будзе. Так што давай зубры і маўчы, а то яшчэ пасадзяць.

Л я в о н: -- Дык што там напісаў таварыш Ленін у кніжцы “Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм”?

С т а н і с л а ў: -- Ён сказаў, што ўсё гэта буржуазная філасофія, шкодная для рэвалюцыі і рабочага класу.

А н д р э й: -- Геніяльна, Станіслаў. І тут Ражок задае пытаньне: “А канкрэтнее.”

С т а н і с л а ў: -- “А канкрэтнее”, што Авенарыус з Махам, таварыш Пэтцальт і прымкнулы да іх Багданаў – дрэнныя філосафы і нічога ня петрылі ў марксізме.

А н д р э й: -- Правільна. Пры гэтым ты павінен сказаць, што “учение Маркса всесильно, потому что оно верно”.

Л я в о н: -- Гэта, здаецца, Ленін адмачыў?

А н д р э й: -- Ён, курылка, ён. Але няважна. Галоўнае тое сказаць. Раман, от ты член КПСС, скажы, што сказаў таварыш Ленін пра таварыша Маркса?

Р а м а н  К а с ь ц ю к: -- Хлопцы, дарма ёрнічаеце. Справа дрэнь.

А н д р э й: -- А што дрэнь?

Р а м а н: -- Цябе на экзамене зрэжуць. Рашэньне парткама інстытута.

Л я в о н  Б у т у р л я: -- Дык што ты паўдня сядзеў і маўчаў!

Р а м а н: -- Баяўся пачаць, бо справа гіблая.

А н д р э й: -- Што там сталася, Раман, кажы шчыра, мы ж сябры.

Р а м а н: -- Словам так. Прыслалі ліст з Гомельскага абкама партыі ў ЦК КПБ. З ЦК спусьцілі ў парткам нашага Інстытуту Механізацыі Сельскай Гаспадаркі з патрабаваньнем выключыць з інстытуту студэнта Данілевіча Андрэя Рыгоравіча. Абгрунтаваньне: сектант-баптыст, верыць у Бога, падбухторвае людзей у Чарнобыльскай зоне радыяцыі да непадпарадкаваньня начальству, публічна выступае супраць лініі партыі, адмаўляе кіруючую ролю КПСС.

*(Паўза. Усе глядзяць на Андрэя)*

А н д р э й: -- І што яны вырашылі?

Р а м а н: -- Выключаць фармальна ня будуць. Зрэжуць на дзяржаўным экзамене. А гэта, разумееш, канец.

А н д р э й: -- Ня хочуць “шкандалю”.

С т а н і с л а ў: -- Андрэй, патлумач, што ўсё гэта азначае.

А н д р э й: -- А ведаеце што, хлопцы, фактычна, усё праўда. Веру ў Бога, веры эвангельскай, пратэстант. Савецкую ўладу, як і мы ўсе, “в грабу відал”. Бацькі мае засталіся ў радыяцыйнай зоне ў роднай хаце, і я разам зь імі. Знайшлася істота з райкама партыі, якая пра ўсё данесла.

*(Маўчанка)*

С т а н і с л а ў *(хапаецца за галаву)*: -- Што ж ты маўчаў, Андрэй? Мы першы раз чуем.

А н д р э й: -- Ніхто з вас ніколі не пытаў, і гаворкі пра веру не было. Толькі камуністаў крытыкавалі. А сам я гаворкі не пачынаў, бо непатрэбна было. Каб спыталі, я б сказаў.

С т а н і с л а ў: -- Дык і нас жа пачнуць цягаць.

А н д р э й: -- Ня бойцеся, не пачнуць. Ня тыя часы. Прытым, вы нічога ня ведалі.

Р а м а н: -- Мне то па лініі партыі ўсыплюць. Ужо косяцца.

А н д р э й: -- “... пачэму не абнаружыл врага...”

Р а м а н: -- Кінь жарты.

А н д р э й: -- Хлопцы, спыніцеся. Нікому нічога ня будзе. Угробяць толькі мяне. Дзякуй, Рамане, што папярэдзіў.

Л я в о н: -- А можа ня варта нават ісьці экзамен здаваць?

А н д р э й: -- Ісьці варта. Што задумалі, хай робяць. Чысьценькімі за мой кошт не адкупяцца. Ды, калі што, то і я ім увалю. Маўчаць ня буду.

С т а н і с л а ў: -- Ты так спакойна кажаш, а гэта ж крыж на пяці гадах вучобы, дадуць воўчы білет. А ты ж вучыўся на адны пяцёркі.

А н д р э й: -- Для мяне мая вучоба не прападзе і ў жыцьці спатрэбіцца. Я, хлопцы, зьбіраюся жаніцца і чакаў, вось скончу інстытут і дзе я з жонкай прытулюся, куды разьмяркуюць. То цяпер ведаю, дзе буду, -- у Божым Дары, у трыццацікілёмэтровай зоне, разбуранай Чарнобыльскай атамнай станцыі.

Р а м а н: -- Ты жартуеш. Там жа нельга.

А н д р э й: -- Каму нельга, а каму і льга.

С т а н і с л а ў: -- Ты сур’ёзна?

А н д р э й: -- Сур’ёзна.

Л я в о н: -- Ты ж памрэш праз тры месяцы, а то і праз два, разам з жонкай у страшных пакутах. Што ты гаворыш! 50 кюры, а то і сто.

А н д р э й: -- Не памру.

Л я в о н: -- Слухай, ты нармальны?

А н д р э й: -- Нармальны.

С т а н і с л а ў: -- Андрэй, растлумач. Мы нічога не разумеем. Мы ж усе сябры.

А н д р э й: -- Добра, я растлумачу і буду шчыры. Вы ведаеце, што я ўсіх вас люблю. Дрэнна ці добра, але я маю звычку нічога не казаць пра сябе, калі мяне не пытаюць. Але гэта ня значыць,

што я ад вас нешта хаваў. Магчыма, тут псіхалогія веруючых людзей, што жывуць пад акупацыяй бязбожнікаў.

Вы ведаеце, хлопцы, што я родам з засьценка Божы Дар сярод лясоў і балотаў, непадалёк ад Прыпяці. Туды большую частку года ні праехаць, ні прайсьці, але гэта райскае месца. Заснаваны засьценак яшчэ ў XVII стагоддзі шляхцічам Данілкам (ёсьць паперы ў архіве), і мы, Данілевічы, яго нашчадкі. Мы, усе жыхары Божага Дару, па роду заняткаў сяляне, і цяпер нават калгасьнікі, але мы усе ведаем, хто мы ёсьць спрадвеку і ўсе лічым сябе шляхтай.

У 30-я гады было дванаццаць двароў. Палову сем'яў зьнішчылі бальшавікі. Пасьля вайны было восем двароў. Камісары хацелі нас перасяліць, калі ўзбуйнялі калгасы і зганялі з хутароў, але не ўдалося. Тады яны перайменавалі засьценак у пасёлак "Акцябар". І яшчэ істотнае. Той Данілка быў кальвіністам, і сам Радзівіл выдзеліў яму тую дзялянку ля Прыпяці. Што было ў XVIII-XIX стагоддзях, я добра ня ведаю, але старыя казалі, што эвангельская вера ў Божым Дары трымалася ўвесь час, а ў пэрыяд 1-й Сусьветнай вайны адрадзілася як рух пяцідзесятнікаў.

Я скончыў сярэднюю школу ў Каленкавічах і зімой жыў у горадзе ў роднага дзядзькі, але сэрца маё было ў Божым Дары і ёсьць там цяпер.

*(Маўчаньне)*

С т а н і с л а ў: -- Андрэй, ты нешта казаў пра камісараў, што пасьля вайны хацелі зьнесьці Божы Дар. Што за "камісары"?

А н д р э й: -- А гэта ў Божым Дары так называюць усё савецкае начальства. Выбачайце – прывычка.

Л я в о н: -- А наконт шляхты. Ты лічыш, што ты шляхта?

А н д р э й: -- Так, я шляхта.

Л я в о н: -- Дык якая ж ты шляхта, ты ж такі, як мы.

А н д р э й: -- Як па маіх мерках, дык і вы шляхта.

С т а н і с л а ў: -- О, браце, чым далей у лес, тым болей дроў.

Л я в о н: -- Дык у цябе гэта нешта ўмоўнае, так?

А н д р э й: -- Рэальнае, гэта толькі легендарнае веданьне пра паходжаньне. У сацыяльным сэнсе тут ніякага грунту няма. Але ёсьць маральныя прынцыпы шляхецтва, якіх усе ў нас трымаюцца.

Р а м а н: -- І што гэта за прынцыпы?

С т а н і с л а ў: -- О, дык скажы.

Л я в о н: -- О, цікава.

А н д р э й: -- Нашыя божыдарцы дык кажуць так, маўляў, тыя, што за Прыпяцьцю, -- гэта мужыкі, а мы шляхта, бо мы ня лаемся, ня сварымся, гарэлкай не напіваемся, ня б'ёмся, не падманываем, не махлюем, ня хлусім, слоў на вецер не кідаем, чалавека паважаем, а жонкі і дочкі нашыя як каралевы ходзяць.

Л я в о н: -- О-о-о! Гэта якасьць! Якая жанчына, такі і мужчына!

С т а н і с л а ў: -- І пэўна, не падступішся, браце мой. Як гляне, дык і зьвянеш.

А н д р э й: -- Ну не-е-е! Дзяўчаты – золата. Сяброўскія. Але сучасных балваноў з гораду яны за пару ня лічаць. Але што тут дзіўнага – па ўсёй Беларусі такія дзяўчаты.

Л я в о н: -- Па ўсёй, ды ня ўсюды.

С т а н і с л а ў: -- Праўда, цяпер паменела. Ня кожную возьмеш за жонку.

Р а м а н: -- Нічога. У дзеўках не застануцца. На кожную моркву знойдзецца свой фрукт.

Л я в о н: -- Ну, так, маскаль і знойдзецца, зробіць дзіця, нап'ецца і заб'е.

А н д р э й: -- А добра было б, каб адрадзіць шляхту.

*(Усе глядзяць на Андрэя)*

Р а м а н: -- Гэта ж гісторыя. Якая шляхта!

А н д р э й: -- А ў Божым Дары – шляхта.

Р а м а н: -- Тут асаблівы выпадак. Анамалія.

А н д р э й: -- Пакімем гісторыю і сацыяльны аспэкт. Глянем на чыньнік духоўны і маральны. Шляхта мела кодэкс гонару, маральныя правілы, за якія нельга пераступіць шляхцічу. Вось гэта можа быць і цяпер. Толькі пачаць трэба кожнаму з сябе і, пачаўшы, трымацца разам.

Дык вось, хлопцы, а чым мы ня шляхта? Гляньце, мы ня лаемся, гарэлкай не злоўжываем, ня лжэм, не падманваем, пакасьцяў бліжнему ня робім, абавязкі маем, слова трымаем, сваёй мовы і ўсяго свайго не выракаемся, Бацькаўшчыну шануем, пра жанчын дрэнна ня кажам, бацькоў паважаем і саветаў ня любім. Дык вось мы ўжо і ёсьць шляхта.

Л я в о н: -- Мы ж звычайныя людзі. Усе такія.

А н д р э й: -- Ужо ня ўсе. Гэта ж відаць. Выйдзі во на праспэкт, адразу і пачуеш: “ря-ря-ря”, “шчя-шчя-шчя”, ды “тваю маць”.

Л я в о н: -- То ж прыблуды.

А н д р э й: -- Э, каб жа прыблуды. Ты што ня бачыш, як усё валіцца? Падае культура, пашыраецца п’янства, ужо нават жанчыны п’юць. Гуманітарны абвал.

С т а н і с л а ў: -- Бяда ў тым, хлопцы, што шляхта здрадзіла Беларусі. Здрада – гэта пячатка.

А н д р э й: -- Ня ўсе. Шляхціч з паходжаньня Янка Купала крытыкаваў шляхецкую здраду, а Каліноўскі жыцьцё аддаў за Беларусь.

Л я в о н: -- Я так думаю: пакуль было Вялікае Княства Літоўскае, была і наша шляхта. Як зьнішчылі Вялікае Княства – усё пайшло дагары нагамі.

С т а н і с л а ў: -- З таго часу, як трапілі пад Расею, усё пайшло на згубу.

А н д р э й: -- Сапраўды так. Шляхта падзялілася: адны за старую Рэч Паспалітую, іншыя – за Беларусь.

Р а м а н: -- Добра, дык а што з Богам і радыяцыяй? Там было за 50 кюры. Як ты зьбіраешся там жыць? У скафандры?

*(Маўчанка)*

А н д р э й: -- Тут, відаць, самае важнае. Вы, сябры мае, з каталіцкіх мясьцін, з добрых працавітых сем'яў, са здаровага асяроддзя. Гэта наш грунт, але не савецкая адукацыя. І як добра, што мы ўсе тое разумеем і трымаемся разам. Але што наперадзе? Раман старэйшы за нас, разумеючы абставіны, уступіў у КПСС. Ён можа мець лепшую сацыяльную будучыню, можа стаць дырэктарам сельгастэхнікі, старшынёй калгаса, нават сакратаром райкама партыі. Але ня больш, таму што мае зашмат сумленьня, чэснасьці і прынцыповасьці. Камісары такіх не прапусьцяць. Мы гэта разумеем.

Лявон і Станіслаў, вы ведаеце што вас чакае: вечны інжэнерык на мехдвары ў калгасе, бо ў КПСС вы ўступаць ня хочаце. Я таксама не хачу і згодны на інжэнера ў мехдвары. Цяпер мне і гэта перакрыюць, бо няправільна думаю.

Але паверце, хлопцы, для чалавечага духа гэта ня мае значэньня, калі верыць у Бога і адчуваць, што жыцьцё вечнае, бо душа вечная. Жыцьцё такое кароткае, і трэба пражыць яго так, каб не змарнаваць душу. Вы не падумайце, што я навязваю вам свае думкі. Я перад вамі адчыняю сэрца, бо паважаю і шаную вас.

Сярод эвангелістаў, ці, як саветы кажуць, "сэктантаў", ёсьць шмат такіх, што лезуць да іншых ды навязваюць свае, часьцей за ўсё – прымітыўныя ўяўленьні пра Бога і Хрысьціянства. У нас, божыдарцаў, такога не было і няма. І я ведаю, чаму. Таму што мы – шляхта. Мы, цяперашнія сяляне-калгасьнікі, закінутыя сярод багнаў у лесе, ёсьць шляхта. Мы шануем свабоду чалавека, які б ён ні быў. Бог разьбярэцца, хто лепшы, але мы стараемся жыць так, як сказаў Гасподзь. Мы верым у Бога і спадзяемся на Яго.

Нашыя бацькі сказалі: той, хто верыць, што Гасподзь уратуе яго ад радыяцыі і сьмерці, заставайцеся, Бацькаўшчына сьвятая. Божы Дар – наша Айчына. Палова засталася. Я таксама. Мы верым, што пераможам сьмерць дзеля Госпада і зь вялікай ласкі Яго. І вельмі важна для нас, што ня будзе камісараў.

Р а м а н: -- Наконт камісараў – разумею. Але што будзе, калі людзі ў Божым Дары пачнуць хварэць і паміраць ад радыяцыі?

А н д р э й: -- Пра гэта ніхто думкі не дапускаў. Верааць у Ласку.

Р а м а н: -- Але ж ты ведаеш, што такое розум і лёгіка. Ты ня можаш сказаць, што яе няма.

А н д р э й: -- Магу сказаць толькі пра сябе. Калі стану паміраць ад радыяцыі, прыму гэта як сваю ахвяру дзеля Хрыста. Калі я там застаюся, значыць аддаю цалкам сваё жыцьцё ў рукі Госпада.

Р а м а н: -- Але ж гэта фанатызм. Андрэй! Ты фанатык.

А н д р э й: -- Я не фанатык, Раман. Ну што ты кажаш! Фанатык не прымае нічога іншага, акрамя культу сваёй веры і ненавідзіць непадобнае. Камісары, бальшавікі, камуністы – вось гэта фанатыкі. Я паважаю ўсіх, таксама і атэістаў.

С т а н і с л а ў: -- Але Хрыстос казаў, каб несьлі і пашыралі Слова Божае. А калі паважаць бязбожнікаў, дык як гэта?

А н д р э й: -- Яшчэ Хрыстос казаў, што па справах пазнаеце іх. Дык калі я буду хітры, сквапны, непраўдзівы, тады словам маім стане грош цана. Слова Госпадняе хай будзе ў ва мне, у маёй асобе і паводзінах, а людзі ўбачаць і ацэняць.

Хлопцы, я не супрацьстаўлюся вам. Вы ж ведаеце мяне ўжо пяць гадоў.

Р а м а н: -- Тут твая праўда, Андрэй. Але ацаніць яе не дадуць твае камісары. Абгадзяць з галавы да ног, і людзі паверaць.

Л я в о н: -- Вось гэта гісторыя!

А н д р э й: -- Гісторыя будзе на экзамене. Я перад імі гнуцца ня буду. “Гэта ёсьць наш апошні і рашаючы бой.” Запускаюць па тры асобы. Зойдзем разам. Трэба сьведкі. Зампаліт Ражкоў ведаеце хто. Ну, то едзем. Засталася адна гадзіна.

## С Ц Э Н А 5

(Аўдыторыя інстытута. Іван Алегавіч Ражкоў, 1-ы, 2-гі і 3-ці члены Дзяржаўнай камісіі, Андрэй Данілевіч, Раман Касьцюк, Лявон Батурля. Раман і Ляван цягнуць білеты, кажуць нумар і сядаюць за сталы падрыхтоўкі. Апошнім цягне білет Андрэй.)

А н д р э й: -- 19.

Р а ж к о ў: -- Садитесь. Готовтесь.

А н д р э й: -- Дазвольце я буду здаваць адразу.

Р а ж к о ў: -- Без подготовки?

А н д р э й: -- Без падрыхтоўкі.

Р а ж к о ў: -- А на каком это языке вы вдруг стали разговаривать?

А н д р э й: -- На вялікай Беларускай мове.

Р а ж к о ў: -- Вот как. Вы нацист?

А н д р э й: -- Не. Нацысты былі ў гітлераўскай Нямеччыне. У нас нацыстаў няма.

Р а ж к о ў: -- А по-белорусски почему заговорили?

А н д р э й: -- Маю права.

Р а ж к о ў: -- Но мы же строим коммунистическое общество. Все говорят по-русски.

А н д р э й: -- Маюць права.

Р а ж к о ў: -- Ну и как же мы тогда построим коммунизм, если все будут разговаривать на разных языках? Это же Вавилонская башня. При коммунизме должен быть один общечеловеческий язык.

А н д р э й: -- Вавілонскую вежу не пабудуюць.

Р а ж к о ў: -- Что вы этим хотите сказаць?

А н д р э й: -- Сьведчу біблійную гісторыю.

Р а ж к о ў: -- Так вы верите в эти библейские сказки?

А н д р э й: -- Вы толькі што сказалі пра Вавілонскую вежу.

Р а ж к о ў: -- Но вы же понимаете, что я высказался фигурально.

А н д р э й: -- Раз выказаліся, значыць верыце.

Р а ж к о ў: -- Ну, вы это бросьте. Начинаете здесь демагогию разводзить на белорусском языке. Не надо выпячивать. Все национальности равны. Никто вам не позволит умалять значение великого русского языка.

А н д р э й: -- Калі дазволіце, я буду адказываць па першым пытаньні.

Р а ж к о ў: -- Отвечайте. “Диалектика природы” Энгельса. И, пожалуйста, на русском.

А н д р э й: -- Добра. Але па-беларуску.

Р а ж к о ў: -- Тогда ответьте мне, молодой человек, на каком языке вы читали этот труд класика марксизма?

А н д р э й: -- На нямецкай.

Р а ж к о ў: -- Чево? Что вы выпендриваетесь? Отвечайте, как положено. Что такое жизнь, согласно “Диалектики природы” Энгельса?

А н д р э й: -- Фрыдрых Энгельс даў такое азначэньне жыцьця: “Жыцьцё ёсьць спосаб існаваньня бялковых цел, істотным момантам якога зьяўляецца пастаянны абмен рэчываў з акаляючай зьнешняй прыродай, прычым са спыненьнем гэтага абмену рэчываў спыняецца і жыцьцё, што прыводзіць да раскладаньня бялка”.

Р а ж к о ў: -- Так. Ну а что писал Фридрих Энгельс о будущем земной цивилизации?

А н д р э й: -- Фрыдрых Энгельс, як і шмат якія таварышы марксісты-рэвалюцыянеры, любіў прарочыць. Пра будучыню зямной цывілізацыі ён пісаў, што чалавецтва вымра ад холаду і перастане існаваць па прычыне астываньня Сонца, якое будзе рабіцца ўсё халаднейшым і халаднейшым. Аднак, хоць чалавецтва вымра ад холаду, Энгельс меркаваў, што матэрыя вечная, застанецца зьменлівай, але адной і той жа, і зможа адрадзіць новае чалавецтва дзе-небудзь у іншым месцы. Такія вось фантастычныя ўяўленьні.

Р а ж к о ў: -- Это почему же фантастические?

А н д р э й: -- Таму што пагрунтаваныя на псэўданавуковых фантазиях XIX стагоддзя.

Р а ж к о ў: -- Это как это?

А н д р э й: -- Навука ў XIX стагоддзі ня ведала, што за тэрмаядзерныя рэакцыі адбываюцца на Сонцы. З гледзішча сёньняшняй астрафізікі і зорнай астраноміі, па меры старэньня нашай зоркі і выгараньня вадарода ў гелій тэмпература і сьвяцімасьць Сонца будзе павялічвацца. Ужо праз адзін мільярд гадоў жыцьцё на паверхні Зямлі спынецца, а яшчэ праз два з паловай мільярды гадоў на Зямлі ня стане вады. Яна выпарыцца ад гарачыні і зьнікне ў космасе, а тэмпература на паверхні мёртвай, скамянелай Зямлі будзе як цяпер на Венэры, гэта значыць ад 400 да 500 градусаў па Цэльсію.

Р а ж к о ў: -- Да, но в сути Энгельс предвидел правильно: человечество исчезнет в связи с изменением Солнца. И не важно, от холода или от жары.

А н д р э й: -- Гэта важна для ўзроўню ацэнкі разважаньняў аўтара. Тое, што пераказаў Энгельс, ня мае і ня мела ўжо тады ніякага навуковага значэньня. З гледзішча навукі, гэта проста галімацья.

Р а ж к о ў: -- Так па-вашему гений человечества Фридрих Энгельс писал галиматью?

А н д р э й: -- Энгельс – гэта асоба і здольны чалавек, але ён ня меў сістэмнай адукацыі, ня скончыў нават гімназіі. Магчыма, якраз гэта і давала права памыляцца.

Р а ж к о ў *(да членаў Дзяржаўнай камісіі)*: -- Уважаемые члены комиссии, вы слышали, что сказал этот соискатель. Великий труд классика марксизма для него галиматья. У меня вопрос к членам Комиссии: стоит ли продолжать экзаминировать этого студента?

1-ы ч л е н к а м і с і і: -- Пускай говорит.

2-гі ч л е н к а м і с і і: -- Продолжайте.

Р а ж к о ў: -- Это, знаете ли, пахнет эдаким антисоветским душком. Возмутительно. Это оскорбление теории коммунизма. И

вы хотите защитить диплом в советском высшем учебном заведении! Какая тема дипломной работы?

А н д р э й: -- “Рамонт сельгастэхнікі ў палявых умовах.”

Р а ж к о ў: -- Вот и тема актуальная, а ведете себя незрело. Второй вопрос.

А н д р э й: -- “Камунізм – сьветлая будучыня ўсяго чалавецтва.”

Р а ж к о ў: -- Вот. Отличный вопрос. Вы верите в коммунизм? Чего вы улыбаетесь?

А н д р э й: -- Камунізм не зьяўляецца культам веры, ня мае сакральнай гісторыі. Якая ж вера?

Р а ж к о ў: -- Я не о культах спрашиваю. Вы верите, что человечество построит коммунистическое общество? *(Маўчанка).* Что вы улыбаетесь? Этот вопрос стоит перед каждым советским человеком.

А н д р э й: -- Іван Алегавіч, я разумею, вы чалавек ваенны і выканаеце любы загад, як бы я ні адказваў. Паверце, мяне гэта не бянтэжыць. Камуністычная ўтопія ніколі ня будзе пабудавана, бо яна адмаўляе прыватную ўласнасьць. Прыватная ўласнасьць ёсьць аснова сацыяльнай свабоды чалавека. Рабская праца не выдайная. Гэта пацьвердзіла гісторыя. У камуністычную эканоміку прыдзецца ўключыць ГУЛАГ і калючы дрот. Адмена калючага дроту прывядзе да перабудовы і распаду сістэмы пабудовы камунізму. Гэта адбудзецца неўзабаве.

*(Маўчанка)*

Р а ж к о ў (*да членаў Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі*): -- Вот, товарищи, какие гиены вырастают иногда в наших учебных заведениях. Типичный буржуазный позитивизм, ревизионизм и антисоветчина. Ставлю соискателю неудовлетворительно и обращаюсь к ректорату Института рассмотреть вопрос о недопущении впредь студента Данилевича к возможности пересдачи экзамена, а так же рассмотреть вопрос об исключении студента Данилевича из института. А вообще-то вами должны заняться органы, молодой человек. Какие будут мнения членов Комиссии?

1-ы ч л е н Дз я р ж а ў н а й К а м і с і і: -- Согласиться.

2-гі ч л е н Дз я р ж а ў н а й К а м і с і і: -- Согласиться.

3-і ч л е н Дз я р ж а ў н а й К а м і с і і: -- Воздерживаюсь. Нужна воспитательная работа.

Р а ж к о ў *(Андрэю):* -- Вы свободны.

А н д р э й: -- Залатыя словы, Іван Алегавіч. Дзякуй. Я сапраўды свабодны.

*(Выходзіць)*

# ДЗ Е Я 2

## С Ц Э Н А 1

(Хата Данілевічаў у Божым Дары. За вакном летні лівень. Гром. Канец жніўня. Уся сям'я ў хаце. Рыгор, Хвядося, Андрэй, Міхась, Мацей, Юстына, Вулька. Усе ўрачыста апранутыя ў народныя строі.)

В у л ь к а: -- Я дык люблю, калі летні дождж і гром грыміць. Неяк душа радуецца.

А н д р э й: -- І я таксама. Сядзіш сабе ў хаце, суха, цёпла, а за вакном залева. І тады добра адчуваеш радасьць роднага дома.

Р ы г о р: -- Ну, вось дождж сабраў усіх у хату. Можна і пагаварыць.

А н д р э й: -- Як бы толькі заручыны дождж ні сапсаваў.

М а ц е й: -- Не размокнеш. Больш жонку любіць будзеш.

Р ы г о р: -- Пачакаем, як перастане і пойдзем. Багуцкія таксама чакаюць. Гэта ж мы ўжо пражылі тут чатыры месяцы, і каб хто нават чхнуў. Усе здаровыя. Месцамі дрэвы пасохлі, igліца пажоўкла і з хвояў пасыпалася, а мы працуем, сьпяваем і Бога славім штохвіліны за тое, што Ён даў нам такое шчасьце.

А н д р э й: -- Калі па навуцы, бацька, то мы да гэтага часу павінны былі ўжо ўсе памерці. Тут 45-50, а я памераў у полі, дзе бульба, -- там 65 кюры.

Р ы г о р: -- Верым Богу, а не навуцы. Усё вырасла і аж буяе. Поле, як вянок. І што мяне дзівіць – гэта ж во позна пасеялі авёс, а ён ужо амаль пасьпеў і такі буйны. Праз тыдзень жаць будзем.
А ці здагадаўся ты, Андрэй, чаму я двух коней прыгнаў?

А н д р э й: -- Зразумеў, бацька, дзякуй.

Х в я д о с я: -- А Багуцкія ў пасагу карову дадуць.

Ю с т ы н а: -- А я дык Бога штохвіліны чую. Мне гэтае жыцьцё цяпер, як сон, такое добрае. Усе свае – і ніводнага камісара.

М і х а с ь: -- Галоўнае, разумееш, што тут яны ўжо і не паявяцца. Ніколі не было такога пачуцьця спакою, як цяпер.

М а ц е й: -- Але працуем з ранку да цямна.

М і х а с ь: -- Але радасна, і не стамляемся.

Ю с т ы н а: -- Працуем і рабіць хочацца.

Р ы г о р: -- У восень пачнем урабляць вялікае поле. Працы будзе яшчэ больш. Усё канём узараць трэба. Маладыя ужо й за плугам не хадзілі.

М і х а с ь: -- Віктар з Алесем абяцалі, што да восені трактар прыгоняць. Механізатары ж бо. Недзе нагледзелі.

А н д р э й: -- Эх, зямелька ты наша родная! Узарэм цябе, прыгалубім, хмаркай пальем, Богу падзячым, карміліца наша, квітней і радзі!

Р ы г о р: -- Добра кажаш. Але дождж, здаецца, перастаў. *(Глядзіць у вакно.)* Зьбіраемся. Хвядося, каравай нясеш. Не забудзьцеся ручнікі і юргіні. Гатовыя? Ідзем.

*(Выходзяць у дзьверы)*

## С Ц Э Н А 2

(Сьвятліца ў доме Багуцкіх. Казюк Багуцкі, Марыля Багуцкая, Віктар Багуцкі, Сабіна Багуцкая, Алесь Будкевіч, Сонька Будкевіч, Любка Багуцкая. Усе ўрачыста ўбраныя па-народнаму. Любка ў шляхецкім

народным строі з “залатой” (папяровай) каронай на галаве. (Шляхецкі народны строй з палярынай на плячах паводле ўзорных касьцюмаў Лявона Баразны.)

К а з ю к *(глядзіць у вакно)*: -- Ну, ужо йдуць. Рыхтуйцеся. Выходзім спатыкаць. *(Любцы)* Ты заставайся.

*(Усе выходзяць за дзьверы на ганак)*

Л ю б к а *(падбягае да люстэрка):* -- Охо-хо-хо-хо-хо-хо!
Я дзяўчына не плахо,
Выбіраю жаніхо!

*(Сьмяецца).* Нават і нічога сабе. От каб гэта быць каралевай, а? Але не хацела б – цяжкая ноша. Лепш за рыцара. Больш надзейна.

*(Круціцца перад люстэркам. Адчыняюцца дзьверы. Уваходзяць Казюк і Марыля, за імі ўся грамада)*

М а р ы л я: -- Просім, просім, госьцейкі, у хату. Усіх людцаў запрашаем, добрым словам спатыкаем.

К а з ю к: -- Запрашаем усю шляхту ў наш замак мураваны, у сьвятліцу фарбавану, моцным дубам штукавану. Паспытайце ў нас хлеба і скажэце, што вам трэба.

Р ы г о р Д а н і л е в і ч: -- Будзь здаровы, гаспадару. А шукаем мы тавару. І прыйшлі ўсёй раднёю, каб былі адной сям’ёю.

М а р ы л я: -- Дык вітаем бацьку, маці, просім вас наш хлеб прыняці. *(Падносіць каравай.)*

Р ы г о р: -- Мы ваш хлеб бярэм, прымаем і аддзячыць абяцаем. *(Бярэ каравай, цалуе і перадае на рукі Хвядосі.)* А во рыцар з намі ехаў, каня навязаў, прынцэсу шукае.

*(Андрэй выходзіць наперад. Ён у ботах і вышыванцы, на поясе старажытная баявая шабля, а на плячах накінута доўгая рудая палярына тыпу рыцарскага плашча.)*

К а з ю к: -- Дык калі шукае, то хай Бог памагае, бо прынцэса чакае. Запрашаем, госьцейкі, бацька, маці, сват і свацьця на заручыны, каб былі нашы дзеці спалучаны. Заходзьце, сядайце, мясьціцеся і ўсе весяліцеся.

*(Усе заходзяць і разьмяшчаюцца па сьвятліцы – Даніловічы насупраць Багуцкіх. Пасярэдзіне, у глыбіні, накрыты стол для бацькоў. Андрэй і Любка стаяць разам пасярэдзіне сьвятліцы. Любка ў строі і ў кароне, Андрэй з баявой старажытнай шабляй на поясе. Сабіна, Сонька і Юстына пачынаюць сьпяваць):*

А ў нас сяньня заручыны, Бог нам даў.
А ў нас сяньня заручыны, Бог нам даў.
Заручылі дзеўку проці панядзелку, Бог нам даў.
Заручылі дзеўку проці панядзелку, Бог нам даў.
Пайшлі дары ва ўсе двары, Бог нам даў.
Пайшлі дары ва ўсе двары, Бог нам даў.

А л е с ь  Б у д к е в і ч: -- Шаноўныя пані і панове, гаспадары і гаспадыні, як ёсьць я сёньня маршал на заручынах, дык пачынаю дзею агучваць.

Малады сакол адзін лётаў, пад неба ўзьвіваўся, на горліцу маладую з гары ўзіраўся. І горліца сакала ўгледзіла і не збаялася, бо сакалу ўспадабалася. І хацелася б ім ужо разам лятаць, ды ня ведаюць, як тое шчасьце пачаць. А тут прыляцелі арлы хмарныя. Ляці, саколе, ты на заручыны. Мы над полем ляталі, лепшай горліцы не спатыкалі. І вось жа рыцар наш Андрэй з Данілкавых, слаўных продкаў яго, Богу служачых, на кані імчыць зь пікай гостраю і аружжа на ім серабрыстае. Не на ворага ён прымяраецца, а да Любкі сваёй выпраўляецца. Гэй, ты, Любка мая, -- песьня сьпеўная, -- будзь мне, любая, каралеўную. Табе ў ножкі твае плашч раськіну я, каб ня стылі ў іх росы росныя, каб ты туфліка не патраціла, каб са мной, маладым, павязалася.

І глядзіце ж, во, як стаяць яны роўненька, нібы кветачкі з адной ветачкі. Разыходзьцеся, хмары чорныя, дай нам, Божачка, шчасьце поўнае.

Андрэй і Любка, вашыя заручыны – гэта ваша згода ўзяць шлюб, гэта бацькава багаславеньне і мацярынская малітва. Запрашаю бацькоў на заручыны дзяцей багаславіці ды ў Бога шчасьця-долі прасіці. Ваша дачка, як ружа, будзе мець добрага мужа.

Бацькі маладой, багаславіце дзяцей на заручыны.

*(Казюк і Марыля падыходзяць да маладых)*

М а р ы л я: -- Дачушка, багаслаўляю цябе на шчасьце-долю, на Божу волю, каб хапала табе хлеба-солі і здароўя даволі. Зычу добрага чалавека, шануй яго крэпка, каб твой век быў доўгі і

розум далёкі. У добры шлях, наша Любка, цябе выпраўляем, Божай Ласкі і веры табе мы жадаем.

(*Абымае дачку і Андрэя)*

М а р ш а л: -- Цяпер бацька дачку выпраўляе і ў дарогу яе настаўляе.

К а з ю к: -- Дачушка, Любка, багаслаўляю цябе, будзь добрай жонкай і не забывайся пра род наш спрадвечны, каб мы радасьць і гонар за цябе мелі і каб муж твой табой ганарыўся.

*(Абымае Любку і Андрэя)*

М а р ш а л: -- Бацькі маладога, багаславіце дзяцей на заручыны.

Х в я д о с я: -- Дарагі сынок, багаслаўляю цябе на сям'ю, на шчасьце і згоду ў каханьні. Няхай табе шчасьціць яно ўсё тваё доўгае жыцьцё. З Богам у добры шлях.

*(Абымае сына і Любку)*

Р ы г о р: -- Багаслаўляю цябе, сыне, на жыцьцё у шлюбе, вартае мужчыны. Памятай, што ты адказны перад Богам за жыцьцё і радасьць, за выгоду і шчасьце сваёй жонкі. Шануй яе, паважай і любі, і яна стане паловай твайго жыцьця. І будзеце вы як адно. Ніколі не забывайся, адкуль наш род і хто мы ёсьць. Шляхетны муж павінен дбаць пра агульны інтэрас, урэшце – пра нашу Айчыну, якая цяпер ёсьць для нас Божы Дар. Нам даў яго Бог у ласцы сваёй. Будзь верны і абавязковы ў сям'і, у жыцьці перад людзьмі і перад Богам. За верай і любовяй, сыне, у добры шлях!

*(Абымае Андрэя і Любку. Бацькі сядаюць за стол, што насупраць. Любка прыслужвае ім, падае на стол. У гэты час гучыць песьня. Сьпяваюць Сабіна, Сонька і Юстына, іншыя падпяваюць*):

А мы едзем на заручыны,
Дзе Андрэйка заручаецца,
Дзе Андрэйка заручаецца.

Маці выбіла дарожачку,
За вароты выбягаючы,
За вароты выбягаючы.

За вароты выбягаючы,
Свайго сына ды чакаючы,
Свайго сына ды чакаючы.

Ці ня едзе ды мой сыначак,
Ці не вязе мне карыстачку.
Ці не вязе мне карыстачку.

Ці не вязе мне карыстачку –
Маладую ды нявестачку.
Маладую ды нявестачку?

М а р ш а л: -- Ну, а цяпер кантрольнае пытаньне: ці добра маладыя абдумалі свой намер уступіць у шлюб?

А н д р э й  і  Л ю б к а *(гукаюць разам)*: -- Добра!

М а р ш а л: -- О, калі так разам гукаюць, дык, відаць, добра. Дык калі так хараша вядзецца, тады няхай малады падорыць пярсьцёнак маладой.

*(Сабіна, Сонька і Юстына сьпяваюць, астатнія падпяваюць)*:

Ой, у Любачкі чорныя вочы,
Што не баяцца цёмнай ночы.

А ў Андрэйкі чарнейшыя,
Ды не баяцца цямнейшае.

--Ох, а чаго мне баяцца?
Конь пада мною, Бог нада мною,
Мая Любачка побач са мно.

*(У тракце песьні Вулька падносіць на вышыванай падушачцы пярсьцёнак. Андрэй бярэ і, пакланіўшыся, надзявае пярсьцёнак у правую руку Любкі, потым бярэ яе руку, кланяецца і цалуе ў руку.)*

М а р ш а л: -- Вось і настаў заручынаў час. Цяпер вы ўжо не малады і маладая, а жаніх і нявеста. Ты, Любка, падорыш свой пярсьцёнак Андрэю ў час шлюбу.

А цяпер прыступаем да прысягі. Нявеста, на што прысягаеш?

Л ю б к а: -- Прысягаю перад Богам на вернасьць і на жыцьцё за адно.

М а р ш а л: -- Жаніх, наперад кроч! *(Андрэй робіць крок наперад.)*

Шаблю прэч! *(Андрэй вымае шаблю з похваў і трымае яе ў руцэ, апусьціўшы канцом на дол.)* На што прысягаеш?

А н д р э й *(становіцца на адно калена, шаблю трымае гарызантальна на дзьвюх руках, як разгорнутую кнігу)*: -- Перад Богам і над шабляй продкаў прысягаю берагчы Айчыну, сям'ю і гонар.
*(Устае, трымаючы шаблю на дзьвюх руках. Маршал падыходзіць да жаніха, бярэ шаблю і нясе на выцягнутых руках да стала, дзе сядзяць бацькі, кладзе шаблю перад імі.)*

М а р ш а л: -- Прысяга прынятая. Хто парушае прысягу, той перастае быць шляхтай. Шабля продкаў трыста гадоў захоўваецца ў вашым родзе. Зьберагчы яе – пытаньне жыцьця і сьмерці. Хто даў прысягу над ёй, той яе беражэ і павязаны зь ёй сваім жыцьцём. Жаніх і нявеста, цяпер вы прысяжныя перад Богам і перад сваім родам на дарозе да шлюбу. Няхай гучыць для вас урачысты вальс.

*(Міхась і Вулька іграюць мэлодыю Аляксандра Шыдлоўскага "Колькі ў небе зор". Міхась на акардэоне, а Вулька на бубне з ляскоткамі (мэмбранафоне). Андрэй і Любка пачынаюць танцаваць, чаргуючы фігуры вальса і палянэза, потым прыпыняюцца і пачынаюць сьпяваць. Усе падхопліваюць песьню):*

Колькі ў небе зор – цяжка палічыць,
Толькі зь іх адна найярчэй гарыць.

Гэта ты мая, зорка ясная,
Ты любоў мая непагасная.

Ў працы і ў жыцьці добра нам з табой,
Марыць і любіць з песьняй маладой,

Сонца і вясна, навакол прастор –
Шчасьця больш у нас, як на небе зор.

Край шырокі наш, мірны, дарагі,
І бягуць у даль сьветлыя шляхі.

Мне з табой па іх хочацца ісьці
І дзяліць усё разам у жыцьці.

Наш любімы край – сьветлы Божы Дар.
Дзе на сьвеце йшчэ знойдзем мы такі!

Божа, дзякуем мы Табе за ўсё.
Ты нас прытуліў, мы з табой жывем.

*Паўтор:*

Наш любімы край – сьветлы Божы Дар.
Дзе на сьвеце йшчэ знойдзем мы такі!

Божа, дзякуем мы Табе за ўсё.
Ты нас прытуліў, мы з табой жывем.

*(Пад канец песьні Андрэй і Любка зноў пачынаюць танцаваць свой вальс-паланэз. Музыканты з захапленьнем іграюць, прысутныя, сьпяваючы, выбягаюць на сярэдзіну сьвятліцы і выстраіўшыся ў ручаёк палянэза, танцуюць, сьпяваючы некалькі разоў свой апошні слупок тэксту песьні пра Божы Дар. Гучыць апошні акрод. Вулька трасе бубнам і ўсклікае):*

В у л ь к а: -- Слава жаніху і нявесьце! Слава Хрысту! Слава Хрысту!

У с е: -- Слава! На векі вякоў слава!

А н д р э й: -- Бацькі, дазвольце. Хачу гаварыць. Душа перапоўнена ад радасьці і шчасьця.

У с е: -- Ну, гавары, гавары ўжо!

А н д р э й: -- Найперш кажу, што вельмі люблю Любку і ўсё жыцьцё любіць буду.

*(Усе пляскаюць у ладкі.)*

В о к л і ч ы: -- А ну-ну, пакажы клясу! Правільна! Давай-давай, любі, пакуль любіцца, ха-ха-ха!

А н д р э й: -- Ты мая каралеўна, Любка! Буду цябе шанаваць, любіць, будзем разам працаваць і песьні сьпяваць.

*(Усе пляскаюць у ладкі.)*

В о к л і ч ы: -- Брава! Зух! А яёечкі! Любка, трымайся! Любіць будзе! Ха-ха-ха!

А н д р э й: -- Бацькі, браты і сёстры, кажу перад вамі – веру, што ёсьць Бог, што Ён добры і міласэрдны. Бацька і маці, дзякую вам за выхаваньне і жыцьцё. Я ніколі не забываўся пра наш шляхецкі род. Я ні перад кім не ўгінаўся, ня лгаў, ня хлусіў, нікога не зьневажаў. Я шанаваў гонар, мову і Айчыну. Мне дых займае ад шчасьця, што Бог даў мне любімую нявесту, што Гасподзь даў нам на жыцьцё гэтую прытульную, прыгожую, прыўкрасную, абсыпаную радыяцыяй нашу зямлю, дзе толькі нам дазволена існаваць, бо верым у Яго і Ён прыняў нашу веру. І вось мы жывем. І няма тут камісараў, няма бальшавікоў і падлюг, няма іхняй маскоўскай  ілжы, крыку, лаянкі, «языка» і пабудовы камунізму! Воля, братове! Як добра быць свабодным!

Госпадзе, дзякуем Табе, што Ты даў нам для шчасьця гэтую пакутную, параненую зямлю! Мы адновім яе, Божа! Мы пальем яе нашым потам і, калі трэба, -- крывёй. Мы адродзім яе, расквецім, уганаруем, мы любім яе!

Дзякуй, Госпадзе, за страчаны Рай, што вярнуў Ты нам на гэтай хворай зямлі, дзе няма нечысьці.

Як добра быць свабоным!
Як добра быць вольным ад цемры!
Як добра быць свабодным!..

*(Гучыць мэлёдыя “Колькі ў небе зор”. Усе слухаюць, абняўшыся.)*

Павольна апускаецца заслона.

*27. 03.2020. Зянон*

## З А Ў В А Г І

**К а м і с а р ы** -- у некаторых мясьцінах Беларусі (напрыклад, на Мсьціслаўшчыне і інш.) усіх савецкіх камуністычных начальнікаў людзі называлі адным словам – “камісары”.

**С о т к і** -- адна сотая частка гактара (10 х 10 м.). Камуністы, адабраўшы ў людзей зямлю і загнаўшы сялян у калгас, надзялялі ім для пражыцьця лапікі зямлі ад 6 да 15 сотак. Гэта называлася “соткі” альбо “прысядзібны ўчастак”.

**П а п а́ р** – частка зямлі, якую сяляне пакідалі без апрацоўкі на 2-3 гады, каб палепшыць якасьць зямлі.

### П е с ь н і:

**“А ў нас сёньня заручыны...”** (Гл. Т. Варфаламеева. Сямейныя абрады і звычаі. Менск, Вышэйшая школа, 2017 г., стар. 178, тут жа ноты.)

**“А мы едзем на заручыны...”** (Гл. Т. Варфаламеева. Сямейныя абрады і звычаі. Менск, Вышэйшая школа, 2017 г., стар. 200-201, тут жа ноты.)

**“Ой у Любачкі чорныя вочы...”** (Гл. Т. Варфаламеева. Сямейныя абрады і звычаі. Менск, Вышэйшая школа, 2017 г., стар. 173, тут жа ноты.)

# З ь м е с т

Інсургенты .............................................… 7
Акупацыя .................................................… 15
Эвангельскія дзеі ..................................… 77
І Р А Д .............................................…. 79
Х Р Ы С Т О С ................................…. 101
Ю Д А ..............................................….. 109
П Ё Т Р А ......................................….. 127
Божы Дар .............................................… 151

# Кнігі, выдадзеныя Зянонам Пазьняком за мяжой

1. Зянон Пазьняк. Камунізм як форма рускага імпэрыялізму. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2000 г.
2. Зянон Пазьняк. Новае стагоддзе. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2002 г.
3. Зянон Пазьняк. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2003 г
4. Зянон. Вялікае Княства. -- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2005 г.
5. Зянон. Вялікае Княства (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
6. Зянон. Беларуска-Расейская вайна. Belarus is easten outpost. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2005 г.
7. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі. -- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы», 2005 г.
8. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі (2-е выданьне). -- Варшава, «Беларускія Ведамасьці», 2005 г.
9. Сяргей Навумчык. Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988 – 1995). -- Варшава, 2006 г.
10. Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
11. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, 2007 г. (Містыфікацыя. Выдадзена ў Беларусі, 1/16 д.а., 60 с.).
12. Зянон. Дарога. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
13. Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 1, артыкулы і матэр'ялы (1990 —III.1996). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2007 г.
14. Парсіваль (2-е выданьне). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2009 г.
15. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2009 г. (1/32 д.а., 192 с.)
16. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 2, артыкулы і матэр'ялы (IV.1996—2002). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
17. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Працяг. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 3, артыкулы і матэр'ялы (2003--2010). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
18. Зянон Пазьняк. Сяргей Навумчык – Дэпутаты Незалежнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
19. Зянон Пазьняк. Дэклярацыя – першы крок да Незалежнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2010 г.
20. Зянон Пазьняк. Сэсія Незалежнасьці. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2011 г.
21. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2011 г.
22. Зянон Пазьняк, Валеры Буйвал. Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.
23. Зянон Пазьняк. Добрая фатаграфія. -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.
24. Галіна Пазьняк. Менскі гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі (1990-1991). -- Варшава, “Беларускія Ведамасьці“, 2012 г.
25. Зянон. Тэрра Дэй. -- "Беларускія Ведамасьці", -- Варшава, Нью Ёрк, Вільня, 2014 г.
26. Zenon. OJCZYZNA WIECZNA. -- "Беларускія Ведамасьці", -- Warszawa, 2014.
27. Аўген Калубовіч. Мова ў гісторыі Беларускага пісьменства. (Факсімільнае выданьне. Прадмова да факсіміле – Зянон Пазьняк). -- Варшава «Беларускія Ведамасьці», 2015 г.
28. Зянон. Палын-палын…-- Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.
29. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць. – Нью-Ёрк, «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), 2016 г.,
30. Zenon. TERRA DEI. – New York, Warszawa, – «Беларускае Выдавецкае таварыства ў Амэрыцы» (БВТА), "Беларускія Ведамасьці", 2017 г.
31. Зянон. Глёрыя Патрыя. – Вільня, 2000 г.
32. Даніэль Дэфо. Рабінзон Круза. (Факсімільнае выданьне. Прадмова і пасьляслоўе – Зянон Пазьняк). – Нью Ёрк – Варшава, – БВТА, «Беларускія Ведамасьці», – 2017 г.
33. Зянон Пазьняк. Vox Angelica. Кніга перакладаў. – Нью Ёрк- Варшава, – «Беларускія Ведамасьці», – 2018 г.
34. Зянон Пазьняк. Краявід перад нізінай. – Варшава – Нью-Ёрк, – «Беларускія Ведамасьці», – 2018 г.
35. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Разбурэньне. т. IУ, – Нью-Ёрк – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2018 г.
36. Зянон Пазьняк: Беларуска-амэрыканская фатаграфія,1 – Новы Ёрк – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2019 г.
37. Зянон. Інсургенты (п'есы). – Нью-Ёрк – Варшава, «Беларускія Ведамасьці» – 2020 г.

Зянон Станіслававіч Пазьняк

# ІНСУРГЕНТЫ
(П'есы)

*Выданьне і друк коштам аўтара*
*Некамэрцыйнае выданьне*

**Зянон. ІНСУРГЕНТЫ (П'есы).** Выданьне: «Беларускія Ведамасьці», Варшава – Нью-Ёрк, 2020. – 192 с. Папера афсэт. Леттэр, фармат 6х9 (½ леттэр); 96 друк. арк. Наклад 250 асоб.
«ІНСУРГЕНТЫ» – гэта зборнік драматычных твораў для тэатра і чытаньня на тэмы гісторыі Беларусі і рэлігіі.
ISBN: 978-83-948192-4-8

Кампутарны склад, вокладка, афармленьне – *Зянон Пазьняк*
Кампутарны набор – *Галіна Палачаніна*
Друк – LULU
Наклад – 250 асобнікаў
Папера – афсэтная
Фармат аркуша – Леттэр
Фармат друку – 6х9 (½ леттэр)
Ум. друк. арк. – 8,7
Ул. друк. Арк. – 96
Аддрукавана: у чэрвеніі 2020 г. у ЗША

ISBN: 978-83-948192-4-8

